Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 34 (4629) 26 жніўня 2011 г.

## У нумары:



# Крок за крокам па Празароках

## *Згадкі з радзімы Ігната Буйніцкага*

Марына ВЕСЯЛУХА

**Пра тое, што вёска Празарокі (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) з'яўляецца радзімай Ігната Буйніцкага, кожнаму падарожніку распавядзе вялізны білборд, які не так даўно змясцілі наўзбоч ажыўленай шашы Глыбокае—Полацк. Мясцовыя краязнаўцы, якія не паспелі ўстанавіць на гэтым месцы ўказальнік, што недалёка знаходзіцца цудадзейная крыніца святога Яна, бядуюць з гэтай нагоды: Буйніцкі склаў канкурэнцыю шаноўнаму святому. Больш таго, цяпер, у дні 150-годдзя з дня нараджэння бацькі беларускага тэатра, куточак дзядзькі Ігната стаў сапраўдным месцам паломніцтва.**

Куточак дзядзькі Ігната — гэта не толькі музей Буйніцкага, які вось ужо амаль трыццаць год працуе ў Празароцкай сярэдняй школе. Гэта, фактычна, уся вёска. Вуліца, названая ў гонар славутага земляка (дарэчы, ёсць вуліца І. Буйніцкага, тэатральная студыя яго імя і ў райцэнтры), памятны знак “Заснавальніку беларускага тэатра” ў цэнтры, музей Буйніцкага, які, недабудаваны, ужо ператварыўся ў руіны, але — і гэта галоўнае — памяць і пашана мясцовых жыхароў. А яны з радасцю распавядаюць пра тое, як цудоўны артыст Іван Голер, які калісьці быў сябрам Буйніцкага і ўдзельнічаў у яго трупе, спяваў песні, як артыстычна ён прасіў сена ў мясцовага старшыні калгаса: “Мая кароўка му-му”. Яшчэ ў 1970-я гады ў клубе Празарокаў часта ладзіліся беларускія вечарыны, на якіх спявалі любімыя песні Буйніцкага, да прыкладу, “Ванька-ключнік”. Па іх смуткуюць. Весела было, душэўна. Цяпер жа асноўным захавальнікам памяці пра Буйніцкага з'яўляецца школьны музей.

З верша Уладзіміра Караткевіча “Шляхамі Ігната Буйніцкага” распачынае экскурсію гаспадыня музея, дырэктар Празароцкай школы Вольга Гінько. Тут, у гэтым маленькім пакойчыку, верш гучыць асабліва пранікнёна. Працінае яшчэ і ад ведання таго, што менавіта Уладзімір Караткевіч разам з Уладзімірам Няфёдам знайшлі магілу Буйніцкага ў фальварку Палевачы, што недалёка ад Празарок. Караткевіч быў ініцыятарам устанаўлення памятнага знака ў цэнтры вёскі. У музеі нават захоўваецца фотаздымак, зроблены кімсьці з мясцовых жыхароў, з надпісам: “Празарокі. У. Караткевіч чытае вершы, прысвечаныя памяці І. Буйніцкага. 1975 год”. Гэтую падзею ў вёсцы добра памятаюць і сёння.

Перад смерцю Уладзімір Няфёд пакінуў у спадчыну музею многія дакументы: рукапісы, лісты, артыкулы, яго кніга “Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра” — адна з першых і грунтоўных прац па творчасці Буйніцкага, стала адным з экспанатаў. Вольга Гінько сама асабіста даследавала вялікую частку гісторыі роду Буйніцкага.

“Ігнат Буйніцкі працаваў каморнікам, — распавядае Вольга Дзмітрыеўна, — але ён вельмі любіў сялян. У Горках ад зямлі пані адрэзаў кавалак, няправільна нешта памераў на Міншчыне, за гэта яго і звольнілі. Тут, у Палевачах, бацька даў яму зямлю, але Буйніцкі не мог сядзець на месцы, паехаў у Вільню, дзе паступіў на балетныя курсы. Першапачаткова хацеў арганізаваць тут балет, але атрымаўся тэатр. Затое які тэатр! Група чытальнікаў, драматычная, танцавальная групы, хор. Усё новае, што толькі з'явілася ў паэзіі і драме, адразу ж трапляла ў рэпертуар. П'есы Элізы Ажэшкі, Антона Чэхава, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі... У 1913 годзе Буйніцкі дапяў да Варшавы, выступаў у Вільні, Пецярбургу, Маскве”.




> *“Менавіта Уладзімір Караткевіч разам з Уладзімірам Няфёдам знайшлі магілу Буйніцкага ў фальварку Палевачы, што недалёка ад Празарок. Караткевіч быў ініцыятарам устанаўлення памятнага знака ў цэнтры вёскі. У музеі нават захоўваецца фотаздымак, зроблены кімсьці з мясцовых жыхароў, з надпісам: “Празарокі. У. Караткевіч чытае вершы, прысвечаныя памяці І. Буйніцкага. 1975 год”. Гэтую падзею ў вёсцы добра памятаюць і сёння.*

Пра тое, што пан Ігнат вельмі любіў сялян, сведчыць і яшчэ адзін вельмі цікавы дакумент, які Вольга Гінько знайшла ў мясцовай царкве (пабудавана ў 1909 годзе). Аказваецца, Буйніцкі ахвяраваў грашовыя сродкі для пабудовы царквы. Але ў дакуменце рукой самога ж пана Ігната напісана, каб пра гэта ні ў якім разе не казалі каталікам. А сам быў каталікам. Больш таго, ён цалкам склаў план зямельнага ўчастка пабудовы царквы. І нават калі ў 1913 годзе ён збяднеў, прадаў маёнтак у Палевачах і перабраўся ў Празарокі, арганізаваў Празароцкі камерцыйны банчок, дзе сяляне пад малы працэнт маглі пазычаць грошы.

Такой жа любоўю і павагай адказвалі яму сяляне. Раней, калі яшчэ была жывая Марыя Ткач, асабіста знаёмая з Буйніцкім, яе часта запрашалі ў музей. “Я ніколі не забудуся таго ўражання, якое аказвалі расповеды Марыі Дзмітрыеўны на наведвальнікаў, — расказвае Вольга Дзмітрыеўна. — Вось праходзіць экскурсія, дзеці танцуюць, чытаюць вершы, паступова гаворка даходзіць да раздзела “Старажылы распавядаюць”. І тут пачынае Марыя Дзмітрыеўна. Кажа, што Буйніцкі прыязджаў да іх у хату, садзіў яе, тады яшчэ маленькую дзяўчынку, на калені, любіў баяць казкі. А яна, удзячная, бегла збіраць ягады. Распавядала, як яшчэ ў 1970-х многія сябры трупы выступалі. І яна выступала, і Шчарбіцкі, і Анкуда. І мяне заўсёды здзіўляла, як яна казала: “А тады нешта там робілі-робілі ў цэнтры, нешта прыкінулі трапкай, а я ранічкай прачнулася ісці ў брусніцы. Гляджу — а там мой Буйніцкі”.

Мясцовыя жыхары прыхільна ставіліся да Буйніцкага, але Антон Луцкевіч ва ўспамінах піша, што калі дочкі Ванда і Гэля прывезлі астанкі бацькі ў 1918 гозе ў Палевачы на цягніку, каб пахаваць яго ў трох соснах, як гэтага хацеў сам дзядзька Ігнат, то на станцыю не прыйшоў ні адзін жыхар. Магчыма, час тады быў такі, цьмяны”.

Ёсць у музеі Ігната Буйніцкага і сапраўдныя ўнікаты. Гэта камізэлька дачкі Буйніцкага Гэлі, якую танцорка калісьці падарыла Марыі Ткач. Ёсць тут успаміны Антона Луцкевіча, Зыгмунда Абрамовіча, якія цалкам не публікаваліся. Хутка сваё месца ў куточку дзядзькі Ігната зойме і стол, за якім сядзеў сам Буйніцкі.

Нягледзячы на тое, што напісана ўжо досыць шмат матэрыялаў пра Буйніцкага, многія факты яго жыцця да гэтага часу застаюцца загадкай. Так, невядома, ад чаго памёр пан Ігнат. Паводле ўспамінаў Івана Голера, калі Буйніцкі пайшоў на вайну, ён у Палачанах арганізаваў вечарыну, стаў танцаваць. У час танца ў яго пайшла горлам кроў. “Я не знайшла пасведчання аб смерці, дзе было б напісана, што ён памёр ад тыфу, як сцвярджае адна з версій, — разважае Вольга Гінько. — А версія пра смерць падчас танцу прыгожая”.

І мне гэтая версія таксама падабаецца больш. Як гэта падобна на Буйніцкага — і ў час вайны весяліць народ, каб ён забываўся на сваю крыўду. І ўвогуле, як казаў дзядзька Ігнат, “Досыць размоў! Мае хлопцы-малойцы і дзяўчаты-прыгажуні застаяліся, скокаў захацелася!”

***На здымку: паштоўка да 150-годдзя І. Буйніцкага, дызайнер Ігар Куржалаў.***

## Пункцірам

"Калі дзяржава не возьме на сябе ролю па падтрымцы выданняў для моладзі, на тэмы культуры, то яны папросту знікнуць і не выжывуць. Таму пытанне пра акцыяніраванне выданняў не стаіць", — падкрэсліў міністр інфармацыі Алег Пралясkоўскі падчас онлайн-канферэнцыі на сайце БелТА.

Грамадска-кансультацыйны савет лічыць своечасовым прынццце ў нашай краіне закона аб выдавецкай справе. Законапраект "Аб выдавецкай справе" падрыхтавала Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь з улікам адпаведнага мадэльнага закона СНД і вопыту заканатворчай дзейнасці ў гэтай сферы іншых дзяржаў, у прыватнасці, Украіны і Малдовы.

У верасні ў Полацку пройдзе святкаванне 850-годдзя з часу стварэння крыжа Еўфрасінні Полацкай. Як вядома, копія страчанай рэліквіі захоўваецца ў Полацкім Спаса-Еўфрасіньеўскім жаночым манастыры.

Дырэкцыя XVIII Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" адабрала амаль усе конкурсныя і пазаконкурсныя кінастужкі, якія будуць прадстаўлены на форуме 5—12 лістапада. Размова ідзе пра некалькі дзясяткаў фільмаў з усяго свету. Іх размяркуюць па трох секцыях: гульнявое, дакументальнае і дзіцячае кіно.

Тры турыстычныя маршруты з'явяцца ў Ганцавіцкім раёне да Дня беларускага пісьменства. Усе яны звязаны з жыццём і творчасцю таленавітых літаратараў. Адзін з маршрутаў прадугледжвае наведванне вёскі Люсіна, дзе пачынаў свой працоўны і творчы шлях Якуб Колас. Падарожжа ў вёску Востраў пазнаёміць турыстаў з жыццём і творчасцю Міхася Рудкоўскага.

Сёлета да фестывалю-кірмашу "Дажынкі" будзе выдадзены даведнік па Маладзечне ў выглядзе брашуры. Яго рыхтуе да друку Нацыянальнае агенцтва па турызме. Падчас свята кожны жадаючы зможа атрымаць гэтую кніжку бясплатна, як і іншыя выданні Нацагенцтва, прысвечаныя турызму.

Музыка кампазітара Мікалая Набокава будзе гучаць на фестывалі ў замкавым комплексе "Мір" і гарадскім пасёлку Любча (Навагрудскі раён) 27—28 жніўня. Адкрые фестываль канцэрт інструментальнага ансамбля салістаў "Вытокі" пад кіраўніцтвам лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксея Фралова ў двары Мірскага замка.

Экскурсійная праграма "Мінск літаратурны" ўжо даступная турыстам. Яна ўключае ў сябе наведванне літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, літаратурных музеяў Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, а таксама помнікаў гэтым творцам. Прывядзе экскурсійны маршрут і да помніка Адаму Міцкевічу на Гарадскім Вале. Праграма ў большай ступені разлічана на школьнікаў.

У Гомельскім дварцова-паркавым ансамблі працуе выстаўка "Сучаснае латвійскае мастацтва". Экспануюцца работы вядомых майстроў — мастачкі Інгрыды Ірбе і фотамастака Юрыса Шульца, творчасць якіх у поўнай меры адлюстроўвае разнастайнасць і прыгажосць невялікай і ўтульнай краіны на беразе Балтыйскага мора.

Падрыхтавалі
**Раіса МАРЧУК і Алена ГАЛАЙ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Патрыятызму многа не бывае

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, г. Брэст**

Выйшаў у свет чарговы, ужо трэці па ліку, зборнік лепшых твораў удзельнікаў абвешчанага Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі літаратурнага конкурсу 2010 года, які называўся "Доблесць продкаў — нашчадкам у спадчыну". Удзел у ім прымалі дзеці і юнакі.

Вельмі прыемна, што на Берасцейшчыне штогод успыхваюць новыя і новыя зорачкі літаратурных талентаў. Сёння імёны мінулагодніх пераможцаў абласных літконкурсаў ужо вядомыя не толькі вузкаму колу зацікаўленых, але і досыць шырокаму чытачу як у межах вобласці, так і ва ўсёй Беларусі. Сярод іх — Маргарыта Латышкевіч, Марыля Тройніч, Алена Дзебіш, Вольга Курдзюмава, Станіслава Умец ды многія іншыя.

Хоць аўтары калектыўнага зборніка — пераважна школьнікі, тым не менш прадстаўленыя тут творы ўжо даволі яскрава сведчаць пра іх добрае валоданне словам, удумлівасць, вобразнае бачанне свету. Інакш кажучы, яны ўжо валодаюць усімі неабходнымі літаратару якасцямі. Застаецца толькі ўзмоцнена працаваць у гэтым кірунку, адточваць майстэрства, а галоўнае, абрацць працу з мастацкім словам сваім лёсам, сваім наканаваннем.

Вельмі радуе, што ўдзельнікаў конкурсу па-ранейшаму многа. А гэта адзнака таго, што маладое пакаленне цягнецца да прыгажосці ва ўсіх яе праявах.

Усцешвае і дадае імпэту таксама істотная падтрымка з боку абласнога кіраўніцтва і асабіста старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара. Менавіта ён у свой час горача падтрымаў заснаванне абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка, якую штогод, пачынаючы з 2006-га, асабіста ўручае пісьменнікам Берасцейшчыны за лепшыя новыя кнігі. Гэтак жа горача падтрымаў ён і заснаванне аддзяленнем СПБ літаратурнага конкурсу для дзяцей і моладзі і таксама асабіста ўручае ўзнагароды.

Прадстаўлены ў зборніку і творы ўдзельнікаў конкурсу "Мы народжаны дзеля натхнення", які ладзіцца ў рамках рэспубліканскага фестывалю рускай паэзіі пад эгідай Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Русское общество".

## Конкурсы

# Стыпендыі — самым крэатыўным

**Бажэна СТРОК**

Згодна са Статутам, адной з мэт Саюза пісьменнікаў Беларусі з'яўляецца сацыяльная падтрымка творцаў. Сацыяльна неабароненым літаратарам матэрыяльная дапамога аказвалася ўжо неаднойчы (пры ўдзеле спонсараў). Прынамсі, мінулай восенню гэтай катэгорыі пісьменнікаў, якія жывуць у Мінску, бясплатна прывезлі на дом агародніну. А нядаўна паводле рашэння Прэзідыума СПБ больш як 80 творцаў атрымалі адчувальную фінансавую падтрымку.

І вось цяпер Саюз пісьменнікаў Беларусі праводзіць конкурс на лепшы твор у некалькіх намінацыях сярод маладых літаратараў, зноў жа пры дапамозе спонсараў, паведаміў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў. Акрамя дыпломаў пераможцы атрымаюць грашовую прэмію.

Мяркуецца, што са студзеня будучага года Саюз пісьменнікаў Беларусі, каб падтрымаць літаратурную моладзь, установіць дзесяць персанальных стыпендый. Таму членам СПБ, узрост якіх не дасягнуў 35 гадоў, неабходна загадзя падаць праекты творчых задум у жанрах прозы, паэзіі, драматургіі, сатыры і гумару, дзіцячай літаратуры, публіцыстыкі, краязнаўства. Самыя крэатыўныя аўтары будуць узнагароджаны гадавымі стыпендыямі.

## Выстаўкі



Генадзь Грак лінагравюра да верша "Слуцкія ткачыхі".

# Зорка паэзіі

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча запрашае на выстаўку.**

У выставачнай зале музея прадстаўлены ілюстрацыі вядомых мастакоў — Генадзя Грака, Антаніны Лапіцкай і Аляксандра Пашкевіча — да вершаў класіка"Слуцкія ткачыхі", "Старая спадчына", "Перапісчык" і інш.

— З вершамі Максіма Багдановіча пазнаёміўся яшчэ ў студэнцтве, з таго часу яго паэзія мяне зачаравала, зацікавіла, — распавядае Генадзь Грак. Калі працую ў такіх відах графікі, як лінагравюра, афорт, літаграфія, то імкнуся вельмі дакладна перадаць пачуцці, якія з'яўляюцца ў душы і сэрцы, каб задаволіць сябе і гледачоў.

Творы мастакоў дэталёва перадаюць цэласнасць, прыгажосць і выразнасць паэзіі Максіма Багдановіча.

Выстаўка будзе экспанавацца да 25 верасня.

# Дзень нараджэння ў БелАрце

**Мастацкая галерэя "БелАрт" прадстаўляе персанальную выстаўку Уладзіміра Шапо.**

— Пішу свае родныя мясціны: любімы горад Полацк, яго наваколлі, — распавядае Уладзімір Дзмітрыевіч. — Таму і назва выставы "Мая Сафія". А яшчэ Сафія — сімвал нашай дзяржавы, беларуская народа.

У работах мастака, сапраўды, заўсёды прысутнічае нешта роднае, блізкае кожнаму беларусу: Паазер'е, Прыдзвінне, Полацк. Нават назвы работ адлюстроўваюць самабытнасць стылю творцы і яго прыхільнасць да традыцыйнай беларускай культуры: "Медавуха", "Прагулка ў Сафіі", "Асінавыя дровы", "Бабка з казой", "Памірацць сабраўся, а бульбу сей", "Чырвоны мост" ды іншыя.

— Любая выстаўка для мастака — гэта дзень нараджэння, які ты сам сабе зрабіў, — пасміхаецца Уладзімір Шапо.

На свяце, якое стварыў мастак у галерэі, кожная работа прымушае задумацца пра прыгажосць навакольнага свету.



***На здымку: Уладзімір Шапо на адкрыцці выстаўкі.***

**Дар'я ШОЦІК**

# Прынятыя ў СПБ



***Андрэй Леанідавіч* ВАСІЛЬЕЎ**
***Празаік***

Творчы псеўданім — Мацвей Іваноў. Нарадзіўся 5 жніўня 1970 года ў горадзе Нікалаеў (Украіна). Скончыў Ленінградскую ваенна-медыцынскую акадэмію імя С. М. Кірава, працуе дырэктарам ТАА "Медлаз ВПК", у БелМАПА курыруе вучэбны цыкл "Лазерныя тэхналогіі ў касметалогіі і пластычнай хірургіі".

Даволі часта публікуецца ў часопісе "Врата Небесные". Выдаў тры кнігі прозы: "Сто одиннадцать дней из жизни онкологического больного" (2007), "Пять постов" (2008), "Чурка" из Коников" (2010).



***Вадзім Францавіч* ГІГІН**
***Публіцыст***

Нарадзіўся 21 кастрычніка 1977 г. у Мінску. Скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Кандыдат гістарычных навук, галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка".

На працягу апошніх дзесяці гадоў публікацыі В. Гігіна рэгулярна з'яўляюцца на старонках беларускіх перыядычных выданняў: у часопісах "Нёман" і "Беларуская думка", газетах "Советская Белоруссия", "Звязда", "Рэспубліка", "7 дней", у парламенцкім часопісе "Российская Федерация сегодня" і інш. выданнях. Агульная колькасць публікацый дасягнула некалькіх соцень. Апошнім часам Вадзім Гігін праявіў сябе і ў якасці аўтара сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Аўтар кнігі "Великая Отечественная война" (2006), адзін з аўтараў кнігі "90 славных лет" (2008). Лаўрэат прэміі "Залатая ліцера".



***Надзея Леанідаўна* НІЖНЁВА-КСЕНАФОНТАВА**
***Празаік***

Творчы псеўданім — Ніколь Валье. Нарадзілася 28 верасня 1977 г. у Мінску. Скончыла Мінскі педагагічны каледж, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, прайшла перападрыхтоўку ў РІВШ па спецыяльнасці "Псіхалогія". Доктар гуманітарных навук, працуе старшым выкладчыкам кафедры агульнанавуковых дысцыплін гуманітарнага факультэта БДУ.

У багажы Н. Ніжнёвай-Ксенафонтавай — 53 публікацыі па літаратуразнаўстве і культуралогіі: манаграфія, дапаможнікі, навуковыя артыкулы. Аўтар кнігі навел "Коллекция" (2009).



***Уладзімір Мікалаевіч* КІСЯЛЁЎ**
***Публіцыст***

Нарадзіўся 28 красавіка 1931 г. у вёсцы Шацк Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Маскоўскі аўтамабільна-дарожны інстытут. Кандыдат эканамічных навук, член Беларускага саюза журналістаў.

Выступае ў друку на беларускай і рускай мовах. Друкуецца пад псеўданімамі: Міхась Уладамірскі, Уладзімір Мікуліч, У. Кісель, В. Кисель, Владимир Николаев. Сваёй творчасцю У. Кісялёў садзейнічае адраджэнню праваслаўна-царкоўнай і культурнай спадчыны, народнага побыту і вераванняў. Ён аўтар публіцыстычных, краязнаўчых і дакументальных кніг: "Парадоксы "электрического человека". Жизнь и деятельность белорусского ученого Якова Оттоновича Наркевича-Иодко" (2007), "Исследователь внимательный и трудолюбивый. О жизни и деятельности историка и богослова, профессора В. З. Завитневича" (2007) і інш.

Літабсягі

# Дзённікавыя "контуры"




**Для даследчыкаў тэатральнага працэсу незалежнай Беларусі асоба Рычарда Смольскага — адна з ключавых. На працягу 13 гадоў ён з'яўляўся рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Вынікі працы на гэтай пасадзе былі падведзены ў манаграфіі "Контуры новага часу: Праблемы беларускага тэатра і мастацкай адукацыі ў прасторы XXI стагоддзя", што сёлета выйшла ў выдавецтве БДАМ.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Шлях у прафесію пачынаўся для нашага героя… з выбару. Як прызнаваўся сам Р. Смольскі, са школьнай пары ў яго было тры захапленні: удзел у мастацкай самадзейнасці, журналістыка і заняткі веласпортам. Ад прафесійнай кар'еры велагоншчыка давялося адмовіцца, а тэатразнаўства і тэатральная крытыка сталі магчымасцю ўдала спалучаць два першыя захапленні. Смольскі закончыў тагачасны тэатральна-мастацкі інстытут. Але ў навуку трапіў не адразу: працаваў на кінастудыі "Беларусьфільм", служыў у войску. Пазней абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі па мастацтвазнаўстве. Адзін з суаўтараў калектыўнага шматтомнага даследавання "Гісторыя беларускага тэатра", аўтар 7 кніг, прысвечаных гісторыі тэатральнага працэсу ў Беларусі і сучаснай сцэне. Восьмай па ліку стала "Контуры новага часу".

Як прызнаецца сам аўтар, "у аснове гэтай кнігі — артыкулы, даклады, творчыя партрэты, інтэрв'ю і іншыя матэрыялы, якія мне даводзілася пісаць і друкаваць з рознай нагоды на працягу першых дзесяці гадоў новага XXI стагоддзя. Таму гэтую кнігу можна разглядаць у пэўным сэнсе як своеасаблівы аналітычны дзённік — летапіс тэатральнага і адукацыйнага жыцця нашай краіны <…> на пачатку трэцяга тысячагоддзя". Існуе думка, што жанр дзённіка пры непазбежный суб'ектыўнасці аўтара дае магчымасць скласці найбольш поўнае ўяўленне пра яго жыццё, характар, творчы патэнцыял. "Контуры новага часу" больш чым пераканаўча сведчаць на карысць такога меркавання.

Што прапануе чытачам Р. Смольскі? Фактычна кніга складаецца з чатырох частак. Найбольш цікавай выглядае першая з іх — "Беларускі тэатр як люстэрка нацыянальнай культуры". З матэрыялаў, змешчаных у структуры раздзела, увагі патрабуюць дзве каштоўныя крыніцы па беларускай тэатральнай гісторыі. Па-першае, поўны тэкст "Прыярытэтных напрамкаў развіцця тэатральнай справы ў Рэспубліцы Беларусь у 2001—2010 гадах". Па-другое, рэзалюцыя рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Сучасны беларускі тэатр: здабыткі, праблемы, перспектывы" (Мінск, 2007). Не сумняюся: любому тэатралу будзе надзвычай цікава параўнаць маштаб запланаванага і рэалізаванага.

Другая частка, "Беларуская мастацкая школа: настаўнікі і вучні", атрымалася больш агульнай. Трэцяя, "Асобы", змяшчае творчыя партрэты тэатразнаўцаў і крытыкаў Анатоля Сабалеўскага і Юрыя Сохара, рэжысёраў Валерыя Анісенкі і Міколы Трухана. Ладная чацвёртая частка, "Інтэрв'ю", займае амаль траціну кнігі. Яна цалкам адпавядае назве і ўключае інтэрв'ю з Р. Смольскім, што выходзілі ў шэрагу беларускіх СМІ: газетах "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Культура", "Чырвоная змена", часопісах "Маладосць" і "Беларусь".

Артлінія

# Адвечная першааснова жыцця

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва дэманстравалася адмысловая выстаўка Васіля Касцючэнкі "Знак вады".**

Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

Як зазначае Васіль Кузьміч, вада — першааснова жыцця, адна з адвечных стыхій, будуючых свет. Гэта пачатак усяго існага, сутнасць і неабходная ўмова нашага існавання. Вада стварае кожнага з нас, пачынаючы разам з намі такі нядоўгі чалавечы шлях. Яшчэ ва ўлонні маці яна абмывае нашы босыя ногі, у дзяцінстве — сваімі срэбнымі росамі, спявае нам пра каханне і бясконцую радасць жыцця сваімі гучна-каляровымі вясёлкамі. Вада цешыць нас грыбнымі дажджамі, заварожвае люстэркамі азёр, іскрыстымі вадаспадамі, але бывае яна і іншай: нястрымнай у сваёй неверагоднай моцы, топіць у хвалях караблі, разбурае дамы і атакуе страшнымі цунамі гарады.

На вернісажы слова бралі першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў, народны мастак Беларусі Уладзімір Тоўсцік. Выступоўцы адзначалі, што Васіль Касцючэнка застаўся ў сваім каларыце, стылістыцы, сваёй экспрэсіўнай тэхніцы выканання з паралельным скіраваннем на сацыяльную тэматыку.

Увогуле, мастакам вельмі цяжка здзівіць адзін аднаго, бо ў першую чаргу яны паказваюць сваю творчасць калегам. А першая і галоўная адзнака — як да твораў ставяцца сябры, знаёмцы і нават нядобразычліўцы. Асноўнае дасягненне любога аўтара — гэта калі не трэба падыходзіць да надпісу ля карціны, каб даведацца, хто яе напісаў, а гэта значыць, што мастак адбыўся як асоба.

Уладзімір Тоўсцік падкрэсліў, што мастацтва па сваёй сутнасці паўстае таямніцай. Некалі Сальвадор Далі казаў, што не трэба баяцца зрабіць дасканаласць, яе ўсё роўна ніколі не дасягнеш. Вось і Васіль Кузьміч пастаянна ў пошуку: ад нейкіх асабістых прыродных уражанняў ён сыходзіць у асацыятыўнасць, замкнёнасць, звяртаецца да сучасных тэндэнцый ды іканапісу, які заўсёды мае сваёй сілай знакавасць, духоўнасць, дэкаратыўнасць. І гэта тэндэнцыя, паслядоўнасць прасочваецца ў работах Васіля Касцючэнкі.

Вада, бадай, самая загадкавая субстанцыя на зямлі, самая містычная і самая рэальная адначасова. Арт-праект мастака Васіля Касцючэнкі "Знак вады", які ўключае шэраг жывапісных палотнаў пра ваду як асноўную субстанцыю жыцця. У экспазіцыі прадстаўлены такія работы, як некалькі нумарных кампазіцый з серыі "Людзі, якія п'юць ваду" і трыпціх з гэткай жа назвай, "Гэта спякотнае лета", "Крынічная вада", "Купальшчыца", "Светлы дзень" і іншыя.

Стыхія вады, як і наша жыццё, непрадсказальная, цякучая і бруістая. Нават у пяшчотным напаўненні марскіх хваляў крыецца разбуральная энергія вады. Як і ўсялякая стыхія, вада падае нам знакі сваёй моцы. Знак вады — архетып нашай свядомасці, спалучэнне неспалучальнага, знак Гармоніі і Хаосу, Жыцця і Разбурэння.



*На здымку: работа Васіля Касцючэнкі "Гэта спякотнае лета-2".*

Повязі

# Горад — люстэрка — вечнасць

**У Інстытуце імя Гётэ ў Мінску прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу на лепшую ідэю аб'екта ў адкрытай прасторы горада Мінска "Арт-горад". Усяго ў творчым спаборніцтве прынялі ўдзел 14 чалавек, якія прадставілі не проста графічныя распрацоўкі магчымых інсталяцый, а цэлыя канцэптуальныя праекты.**

Марына ВЕСЯЛУХА, фота Марыі Арэх

Мастацкі конкурс "Арт-горад" з'яўляецца адным з этапаў праекта Інстытута імя Гётэ ў краінах Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі, прысвечанага мастацтву ў публічнай прасторы. "Паколькі гэты праект — рэгіянальны, ён праводзіўся не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах рэгіёна — Новасібірску, Ульянаўску, Ташкенце, Алматы, Тбілісі, Ерэване, — заўважыў дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску спадар Франк Бауман. — Праект праходзіў у два этапы. У 2010 годзе мы арганізавалі семінар, на які запрасілі мастакоў, экспертаў з Германіі. Падчас семінара абмяркоўвалі пытанні мастацтва ў публічнай прасторы, якім крытэрыям яно павінна адпавядаць для адэкватнага ўспрымання жыхарамі. Пасля спецыяльнага майстар-класа аб'явілі непасрэдна конкурс. Месцам дыслакацыі магчымых інсталяцый абралі сквер імя Сімона Балівара ў Мінску".

У склад журы конкурсу ўвайшлі сапраўдныя прафесіяналы — выкладчыкі, дырэктары і арт-дырэктары музеяў і галерэй: Наталля Шаранговіч, Аксана Багданава, Валянціна Кісялёва, Павел Вайніцкі, намеснік дырэктара Інстытута імя Гётэ ў Мінску Дзмітрый Клячко, а таксама начальнік упраўлення добраўпарадкавання і гарадскога дызайну Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама Аляксандр Андрончык. З праектаў, прадстаўленых на конкурс, прафесійнае журы выбрала найлепшыя. Гэта інсталяцыя Наталлі Пагаранскай — з расстаўленымі чырвонымі дзвярыма на ўваходах у сквер, інсталяцыя Андрэя Бусла — з жывымі кветкамі сланечніка. Пераможцам жа стаў студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Алесь Кудрашоў, які прапанаваў праект інсталяцыі з люстэркаў "Калідор вечнасці". Як заўважыў Алесь, у якасці матэрыялу для інсталяцыі ён абраў самы містычны прадмет — люстэрка, — каб прымусіць мінакоў задумацца пра вечнае, пра тое, што ў вечнасці застануцца толькі прырода і чалавек з яго шчырымі пачуццямі і думкамі.

Праект-пераможца будзе прапанаваны Мінскаму гарадскому выканаўчаму камітэту для рэалізацыі ў 2012 годзе. Фінансаванне праекта ў выпадку яго ўзгаднення з гарадскімі ўладамі возьме на сябе Інстытут імя Гётэ. Выстаўка работ удзельнікаў конкурсу, на якой прадстаўлены канцэптуальныя распрацоўкі, працуе да 18 верасня.



*На здымку: Алесь Кудрашоў прадстаўляе эскіз інсталяцыі "Калідор вечнасці".*

З-пад пяра

28 жніўня ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага ў Мінску пройдзе свята "Тэатр вясёлкавага колеру", прымеркаванае да пачатку новага сезона ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Партнёрамі свята выступяць часопіс "Вясёлка" і РВУ "Літаратура і Мастацтва". Развітацца з летам хлопчыкаў і дзяўчынак запрашаюць акцёры ТЮГа, калектывы мастацкай самадзейнасці і пісьменнікі. Сярод іх — галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", яе п'еса "Брык і Шуся шукаюць лета" паспяхова ідзе ў ТЮГУ некалькі сезонаў. Свята пачнецца а 12-й гадзіне.

Алена ГАЛАЙ

11 кастрычніка адбудуцца IX архіўныя чытанні, прымеркаваныя да Дня архівіста. Гэтым разам яны будуць прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння гісторыка-архівіста і пісьменніка Генадзя Кісялёва. Удзельнікам чытанняў прапануюцца наступныя тэмы: жыццё і навуковая дзейнасць Генадзя Кісялёва; гісторыя беларускай літаратуры і мастацтваў у дакументах архіваў, музеяў, бібліятэк. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 1 кастрычніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

У Доме-музеі I з'езда РСДРП адбылося адкрыццё выстаўкі "Украінскі вернісаж". Выстаўка прысвечана 20-годдзю незалежнасці Украіны. Яе арганізатарам выступіла Мінскае грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў "Запавіт". Рознабаковая творчая праца членаў гэтага аб'яднання скіравана на тое, каб абудзіць цікавасць да ўкраінскай культуры. Сярод мерапрыемстваў, якія ладзіць "Запавіт", — "Дні ўкраінскага спеву", конкурсы, прысвечаныя памяці Піліпа Орліка, Тараса Шаўчэнкі. На выстаўцы можна ўбачыць фотаздымкі з архіву аб'яднання "Заповіт", украінскія ручнікі і керамічныя вырабы.

Дар'я ШОЦІК

У Беларусі пройдзе фэст, на які дзецям уваход забаронены. Першымі пабачаць фестываль польскіх спектакляў і анімацыйнага кіно для дарослых "Лялька — таксама чалавек" 29 і 30 жніўня гледачы Магілёва. Далей праект завітае ў сталіцу — з 1 па 8 верасня адбудуцца паказы ў тэатры лялек. Праект возьме ўдзел у Міжнародным тэатральным фестывалі "Белая вежа" ў Брэсце. І яшчэ адны гастролі ў верасні плануецца правесці для гродзенскіх тэатралаў. На фестывалі гледачы пабачаць мультфільмы студыі "СЕ-МА-Фор" і студыі "СЕРАФІНСКІ", сюіту для тэкстуры і басэтлі "Топорланд" і пастаноўку "Другі пакой", якія прывязе "Унія Немагчымы Тэатр". Пасля паказаў запланаваны творчыя сустрэчы і абмеркаванні.

Алена ШАНДРАК

У Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі прайшла выстаўка-кірмаш "HandMade". Беларускія майстры-рамеснікі прадставілі гледачам работы, зробленыя сваімі рукамі: бісерапляценне, пластыку, разьбу па скуры, вышыўку стужкамі і інш. Выставачная зала пераўтварылася ў своеасаблівую краму, дзе кожны мог не толькі набыць упадабаную рэч, але і завітаць на майстар-клас да творцаў.

Дар'я ШОЦІК

# ЛіМ: 1933 год

**Шмат белых плям на карце нашай гісторыі. Забыты імёны, падзеі, абставіны. Вось і "ЛіМ" з 1933 па 1936 гады амаль не захаваўся. І раптам — прыемная знаходка: нядаўна ў архівах трапілі ў рукі некалькі нумароў газеты за 1933 год з паметкай "Сильно повреждены. Нуждаются в реставрации". Частку тэксту складана разабраць, некаторыя старонкі засталіся толькі напалову, але тым не менш...**


ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

Літаратура і мастацтва

№ 18 (43)

26 чэрвеня 1933 г.

г. Менск

Цана асобнага нумару 10 кап.

орган Арганізацыйнага камітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў і Галоўмастацтва БССР

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ: А. Александровіча, Я. Ахрэмчыка, В. Вольскага, А. Галкіна, І. Гурскага, Х. Дунца, М. Лынькова, М. Модэля, С. Нортмана, М. Рафальскага, А. Рымашэўскага, І. Харыка, К. Чорнага

Досыць таптацца на месцы

Памерла КЛАРА ЦЭТКІН

20 чэрвеня ў Архангельску пад Масквой памёр адзін з выдатнейшых правадыроў сусьветнага камуністычнага руху, старэйшы барацьбіт за міжнародную пралетарскую рэвалюцыю і за перамогу сацыялізму, член Прэзыдыуму Выканаўчага Камітэту Камуністычнага Інтэрнацыяналу КЛАРА ЦЭТКІН.

**Вольга ПАСІЯК**

Па праўдзе сказаць, цяжка знайсці больш нецікавую падшыўку. Чаму? Магчыма, па той прычыне, што тут амаль няма фотаздымкаў: іх актыўна замяняюць аднатыпныя шаржы і малюнкі мастакоў Алейнікава і Волкава. Партрэт, другі, трэці, адны і тыя ж палітычныя дзеячы… Яно і зразумела: не паказваць жа рэальныя вынікі страшнага голаду, (асабліва ў суседняй Украіне), пік якога прыпаў якраз на пачатак года. А можа, прычына нецікавасці ў іншым: кожны нумар рэкордна насычаны прапагандысцкімі прамовамі, пастановамі і рапартамі аб выніках першай пяцігодкі.

Відавочным з'яўляецца вызначэнне надзвычайнай ролі мастацтва ў прэзентацыі камуністычных ідэй. Першымі пад удар трапілі радыёпастаноўкі: *"Фурманаў у кампазіцыі гаворыць барскім баском маланачныя, стандартныя фразы і лэпае Чапаева па плячы, паглядаючы на яго (гэта асабліва выразна адчуваецца) зьверху ўніз"; "Бясконцыя "эгэ", "ага", ды "уг-гу" канваіра выклікаюць у слухача недаверлівую ўсьмешку, прымушаюць яго "бачыць" у вобразе не канваіра-чырвонаармейца, а артыста, які выконвае ролю канваіра"* (ЛіМ, 1933, 22 лют.).

Прапаганда ва ўсім. І ў першую чаргу ва ўспамінах пра Леніна: *"Пад сьцягам Леніна, пад кіраўніцтвам партыі Леніна і яе ЦК на чале з т. Сталіным пабудуем бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва"* (ЛіМ, 1933, 28 студз.). Менавіта ў 1933 годзе Уладзіміру Ільічу ўзводзяць помнік у Мінску і ствараюць безліч легенд і песен: *"Песьні, казкі, легэнды пра Леніна складаюць сабой вялічавы эпас, пашыраны зараз сярод працоўных мас розных народаў у розных частках зямной кулі"* (ЛіМ, 1933, 28 студз.). У гэты час узвышаюць і ролю маладога, але ўжо папулярнага мастацтва — кіно, на якое рабіў стаўкі Ленін. Для пачатку, скажам, чаму б не пакрытыкаваць нямецкі кінематограф? *"Не пасьпеў фашысцкі скрыпач зрабіць рух смычком, як вельмі рухавыя германскія музы пусьціліся ў скокі"; "Грошы мацней нацыянальных меркаванняў"* (ЛіМ, 1933, 1 мая).

Асобна трэба адзначыць прапаганду ў навуцы, якую толькі бальшавікі "могуць зрушыць наперад", паны ж у свой час "паварочвалі назад усе гістарычныя, геаграфічныя і іншыя дасягненні". Але апагей ідэалогіі — у святкаванні 15-годдзя Чырвонай Арміі: *"У дзень слаўнага юбілею гераічнай Чырвонай арміі беларускія савецкія пісьменьнікі прасякнуты сьвядомасьцю неабходнасьці яшчэ большай творчай актыўнасьці ў справе стварэньня абарончай літаратуры, у справе стварэньня літаратуры вартай нашай арміі, арміі перамагаючага сацыялізму, арміі рабочых і сялян"* (ЛіМ, 1933, 22 лют.).

Па-за ўвагай газеты не заставаўся і тэатр, які павінен быў "гаварыць голасам эпохі пра эпоху сацыялізму!" У чарговым, пашкоджаным часам нумары, чытаем: *"Сьмешна казаць пра "оскудение" тэм тады, калі ніводнай сапраўднай абароннай п'есы мы ня маем, ніводнай п'есы пра капіталістычны сьвет (калі ня лічыць "Амэрыкі" Сташэўскага, якая не пабачыла рампы), ніводнай задавальняючай п'есы пра калгаснае будаўніцтва, ніводнай п'есы пра рэвалюцыйнае мінулае, пра грамадзянскую вайну…"; "Тэатр самае дэмакратычнае, самае ўплывовае мастацтва, п'еса праз тэатр прасочваецца ў тысячныя масы, і недапушчальным зьяўляецца пакідаць аголеным ці дарыць толькі дасугі гэтаму фронту"* (ЛіМ, 1933, 12 крас.) .

"А што літаратура?" — спытаеце вы. Вось тут прыемны сюрпрыз. Акрамя шматлікіх прапагандысцкіх публікацый пра сацыялістычнае будаўніцтва ёсць і цікавыя моманты, кшталту ўрыўкаў з аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". Ці, як прыклад, літаратурнае даследаванне Цішкі Гартнага: *"На працягу пяцігодкі з-пад пяра цэлага раду пісьменнікаў вышлі шматлікія высокакаштоўныя творы. Сюды трэба аднесці "Нараджэньне чалавека" і "Напор" А. Александровіча, "Межы" С. Баранавых, "Андрэй Лятун" і другія апавяданні М. Лынькова, зборнік вершаў У. Хадыкі, вершы Хведаровіча, "Вязьмо" Зарэцкага ды іншы."* (ЛіМ, 1933, 10 лют.).

Відавочна, што прамалінейнасць прапагандысцкіх матываў наўрад ці была на карысць развіццю літаратуры і ўвогуле грамадства.

Не абмініце

# Каляровая палітра настрояў

**У перад'юбілейным жнівеньскім нумары "Бярозкі", дзевяцьсот дзевяноста дзевятым за ўсю гісторыю выдання, творцы розных пакаленняў прэзентуюць сябе падлеткам: з баладай пра Белую Русь выступае вядомы паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, з вершамі пра каханне — маладая паэтка Таццяна Будовіч. А побач — спробы пяра пераможцаў літаратурнага конкурсу "Юныя таленты Беларусі", праілюстраваныя малюнкамі конкурсу "Юныя таленты Міншчыны", што зладзіла абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна.**




**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

Палітра настрою і тэм таксама шырокая. Ужо добра знаёмы чытачам Генадзь Аўласенка выступае з лёгкай і вясёлай прозай "Шахматыстка", а Сяргей Трахімёнак у фрагментах аповесці "Бэлі пуэры" паказвае няпросты лёс дзяцей Вялікай Айчыннай вайны.

"Бярозка" працягвае "Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй" Наталлі Бучынскай і прэзентуе чытачам чарговую казку — "Па падземным лабірынце" вядомай журналісткі Галіны Пшонік: гісторыю пра тэлевізар, невідушчага Крата, мудрага дзеда і хлопчыка Радыёна.

Наталля Пахомчык у рубрыцы "Абмяркуем" прадстаўляе апавяданне "Відавочна", у якім праз здарэнне ў гуртку "Польская мова" заклікае адчуць усю непаўторнасць беларускага слова.

Паэт Павел Саковіч прапануе біяграфічны нарыс "Не старэе маленства маё": турма пры нямецкай акупацыі, вялікія чэргі па хлеб, школы з пераросткам, Орша, жыццё ў сям'і чыгуначнікаў…

У матэрыяле "Арабінавая жарсці" Ірына Клімковіч распавядае пра страшэнную Арабінавую ноч, якую заўжды чакалі нашы продкі напрыканцы лета. Залева і віхура, расчыняецца пекла — у свет выходзяць нячысцікі!

Рубрыка "Класіка" знаёміць з паэзіяй Уладзіміра Дубоўкі, а ў "Таямніцах паселішчаў" навукоўца Аляксандр Рогалеў паглыбляецца ў гісторыю горада Калінкавічы.

Алена Іванюшанка спрабуе разабрацца, як кіраваць сваім часам. А музычны крытык Вітаўт Мартыненка разважае пра новы альбом Таццяны Беланогай "Ніткі".

Апошняя старонкі часопіса прэзентуюць чытачам лепшыя работы, дасланыя на конкурс "Малюем Вятрыску". Магчыма, некаторыя з іх станучь ілюстрацыямі да кнігі казак Генадзя Аўласенкі.

Векапомнае

# Сэрца ў палон не здаецца

**Аляксандр СУСЛАЎ, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, член Саюза пісьменнікаў Беларусі**

У сярэдзіне 1960-х я пачаў збіраць матэрыялы для свайго рамана "Сэрца ў палон не здаецца". У Нацыянальным архіве мне трапілася на вочы штомесячныя рапарты камандзіра тайнай палявой паліцыі ГПФ-723 Рабрадэ ў штаб сухапутных войск у Берліне. Жахліва чытаць! Нешта з гэтых запісак выкарыстаў у рамане. Аднак і цяпер мяне трывожыць думка пра тое, што недастаткова поўна гэта зрабіў. Прычына — не ўсе архіўныя дакументы даступныя звычайным даследчыкам. Аднак вернемся да Рабрадэ. Вось што ён піша 23 верасня 1941 года: "Група ажыццяўляла патруляванне ў населеных пунктах. Спецыяльна падрыхтаваны жандармы, пераапранутыя ў чырвонаармейскую форму, з'яўляюцца ў вёсках нечакана (звычайна на ўсходзе сонца). У шматлікіх выпадках патрулі дабіваюцца выдатных вынікаў і ноччу, калі пераапранаюцца ў бежанцаў. Усе, хто спачувае рускім, адразу ж арыштоўваюцца ці расстрэльваюцца на месцы".

"…павешаны для ўстрашэння… расстраляны па падазронасці… расстраляны за сабатаж… расстраляны з мэтай бяспекі германскага рэйха…" Без суда загінулі 12 чалавек, яшчэ 20, яшчэ 48…

Дакладваючы пра расстрэлы і іншыя акцыі "супакойвання рускіх", Рабрадэ не баяўся паказаць перад начальствам свой "клопат" пра "справядлівае абыходжанне з тымі рускімі", якія "будуць патрэбныя рэйху пры канчатковым усмірэнні і далейшым завяванні тэрыторый. "Вялікія прасторы мы наўрад ці здолеем вывучыць і асвоіць без саміх рускіх, якія патрэбны нам як працоўная сіла".

Свае страшэнныя ідэі чыноўнік вермахта не трымаў у тайне і ад падначаленых. Ён пастаянна нагадваў ім пра неабходнасць праяўлення лаяльнасці да "нейтральнага" насельніцтва і сапраўднай жорсткасці да камісараў, палітрукоў і яўрэяў. Лаяльнасць і жорсткасць былі вышэйшымі інтарэсамі рэйха, і Рабрадэ не забываў гэта падкрэсліць.

"Рускі народ не шукае кантактаў з намі, — паведамляе ён у адной са справаздач. — … Руская ўспрымаюць масавае знішчэнне яўрэяў як вялікае злачынства з боку немцаў. Гэта дае ім глебу да злоснай антынямецкай прапаганды, кульмінацыйным момантам якой з'яўляюцца заявы, што за яўрэямі іх лёсы падзеляць і рускія".

Гэтае самавыкрыццё гітлераўскага нелюдзя яшчэ раз падкрэслівае сапраўдную сутнасць фашызму. На мой погляд, яго вытокі недастаткова поўна тлумачацца. Больш таго, выдавецтвамі, асабліва расійскімі, выдадзена значная колькасць кніг, у якіх прадпрымаюцца спробы перапісаць гісторыю вайны на свой лад, завуаліравана ўсхваляецца дзейнасць ідэолагаў фашызму і кіраўнікоў вермахта. А вось кніг, якія раскрываюць сапраўдную сутнасць фашызму, зусім мала. Моладзь недастаткова ведае пра тыя злачынствы, якія здзяйснялі гітлераўцы на Беларусі. Яшчэ ў 2001 годзе газета "Рэспубліка" надрукавала маё інтэрв'ю з дырэктарам Нацыянальнага архіва Беларусі, дзе я прапанаваў апублікаваць дакладныя тайнай паліцыі з каментарыямі, выдаць іх асобнай кнігай. На жаль, ідэя павісла ў паветры. Прычына — няма сродкаў. І ўсё ж я не гублю надзеі. Рабрадэ не ленаваўся пералічваць у справаздачах імёны расстраляных, ні ў чым не вінаватых людзей, сярод якіх былі і дзеці. Гэтыя спісы доўгія. Магчыма, хто-небудзь змог бы знайсці ў іх імёны сваіх без вестак прапаўшых прадзедаў, дзядоў, бацькоў.

Мінула ўжо 66 гадоў з дня Вялікай Перамогі. Але колькі б часу ні прайшло, мы, беларусы, павінны помніць пра подзвіг нашых сапраўдных герояў, забараніць розным "праўдалюбам" паліваць брудам гістарычную памяць.

**Ад рэдакцыі:**

*Тэма вайны — адна з галоўных у творчасці Аляксандра Суслава. Пяру пісьменніка належаць кнігі "Анатомія душы", "Творцы Перамогі", "Корань жыцця", "Сэрца ў палон не здаецца", іншыя творы.*

*Да 65-годдзя Перамогі выдавецтвы рэспублікі шмат чаго зрабілі па ўвекавечанні подзвігу абаронцаў Радзімы. Згадайма хаця б кнігі ўспамінаў дзяцей, сведкаў тых апаленых гадоў: "Ніколі не забудзем", "Нашчадкі вогненных вёсак". У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ідзе выпуск збору твораў Івана Шамякіна, многія з якіх прысвечаны барацьбе з фашызмам. У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны створана калекцыя кніг і брашур — літаратура пра вайну, гэта 1343 адзінкі захоўвання!*

*Яшчэ не раз будуць звяртацца нашы пісьменнікі, публіцысты, выдаўцы да тэмы Вялікай Айчыннай. Хочацца спадзявацца, што з цягам часу ўбачаць свет усе цікавыя архіўныя матэрыялы пра тыя далёкія і трагічныя падзеі.*

# Глеб Гарбоўскі: “Паклон Дзвіне цудоўнай!”

**Для таго, каб прадставіць піцерскага паэта Глеба Гарбоўскага, можна знайсці безліч азначэнняў: шасцідзясятнік; аўтар знакамітых радкоў “Когда качаются фонарики ночные…”; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага; намінант на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва; чалавек-эпоха альбо чалавек-легенда. Прыемна, што імя гэтага творцы досыць цесна звязана з Беларуссю: 25 год запар Гарбоўскі прыязджаў пісаць на Віцебшчыну да сваякоў другой жонкі, Святланы Вішнеўскай. Дзівосна, што ў свае 79 ён піша шмат і штодня, насуперак меркаванням, што сапраўдным паэтам можа быць толькі малады ды няўрымслівы, а ў паважаным узросце вершы не пішуцца. Але Гарбоўскаму лепш распавядаць пра сябе самому, у сваім фірмовым стылі — коратка, хлёстка, іранічна…**



**— Вы часта прыязджалі працаваць на Віцебшчыну. Самы яркі ўспамін з гэтай зямлі?**

— Дзвіна. І той бераг, па якім наверх у горад паднімаешся. На беразе рэшткі старой царквы…

**— Яе ўжо адбудавалі.**

— Так, мне казалі. І яшчэ вёска Цяцеркі, дзе я шмат пісаў і мне ніхто не перашкаджаў.

**— Глеба Гарбоўскага часта прылічваюць да пакалення шасцідзясятнікаў, але ў адным з інтэрв’ю вы зазначаеце, што не адносіцеся да іх. Дык вы шасцідзясятнік ці не?**

— Я і шасцідзясятнік, і пяці-… У пяцідзясятых я таксама нешта пісаў, быў членам нейкіх літаб’яднанняў. Я пішу з пятнаццаці год, калі збег з дзіцячай выхаваўчай калоніі да бацькі. Ён жыў на кастрамской зямлі, за Волгай, у вёсцы Шыліна. Там я і пачаў пісаць вершы. У бацькі была вялікая шафа з кнігамі (ён быў сельскім настаўнікам): вершы Цютчава, Някрасава, Пушкіна. З іх усё і пачалося.

**— Вы пішаце ў добрым стане цела і духу. Што гэта значыць для вас: добры стан цела і духу?**

— Я пішу вершы ранкам, да абеду. Самы лепшы час, калі да гэтага давялося паспаць. Быў маладым — пісалася і ноччу… Ды калі заўгодна! А цяпер толькі да абеду.

**— Рэлігія большасці паэтаў — адзінота. Вы ад яе не адракліся?**

— Не, яна ад мяне ўжо нікуды не дзенецца. Але гэта не такая адзінота, пра якую вы думаеце: сяджу адзін, усе мяне кінулі. Гэта стан абсалютнай самотнасці, задаволенасці і адасобленасці ад свету. Часова.

**— Глеб Гарбоўскі сцвярджае, што ён аптыміст. А якія здольнасці дапамагаюць захоўваць аптымізм?**

— Не ведаю. Напэўна, закладзена нешта ад бацькоў. Я не нэндза, у мяне ў вершах заўсёды іронія і гумар. Нават у самых сур’ёзных.

**— У некаторых успамінах вас называюць злым і запальчывым паэтам…**

— Кім?

**— Злым і запальчывым паэтам. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— У вершах, можа, і бываю. Увогуле не, а ў вершах можа быць. Не тое што я ўвесь час злы, я магу куснуць, як воўк (*смяецца.* — **А. М.**). Запальчывы таксама, але хутка адыходжу.

**— Два імя, якія вас уражваюць у літаратуры, — Блок і Ясенін. Новых да гэтага спісу не дадалося?**

— Не.

**— А чаму ўражваюць?**

— Яны мяне ўзбудзілі, зачаравалі. У Блока шмат гарадскога, піцерскага, у Ясеніна — вясковая прыгажосць. А ўва мне жывуць горад і вёска. Вёску вельмі люблю. Цяпер у Камарове ратуюся.

**— Яшчэ фрагмент з успамінаў пра вас: “Вакол буйнай чупрыны якога”…**

— Ага, былі валасы (*пасміхаецца.* — **А. М.**).

**— “Вакол буйнай чупрыны якога свяціўся ганарлівы німб непрызнанасці”. Не шкада было з гэтым німбам расставацца?**

— Я і не думаў пра гэта (*смяецца.* — **А. М.**). Сярод блізкіх сяброў я заўсёды быў прызнаны і прызнаны. А заваёўваць — гэта не для мяне.

**— Як вы ацэньваеце сітуацыю ў сучаснай рускай паэзіі?**

— Ва ўсёй краіне цяпер такая сітуацыя (дый не толькі ў Расіі), што ўсё круціцца вакол грошай. Хіба ж тут да вершаў? Але паэзія не знікне, як не знікае вера ў Бога.

**— Ваша азначэнне паэзіі?**

— Навошта ж так гучна… Гэта і праца, і дар Божы, і ачышчэнне чалавечага духу, калі яна сапраўдная, канечне. Бывае, што рыфмуюць, а іскрынкі няма.

**— Што б вам хацелася сказаць беларускім чытачам?**

— Паклон ад душы. Я вельмі люблю менавіта вясковую Беларусь. Паклон Дзвіне цудоўнай. Усё, што я там зрабіў, да гэтае пары мяне суцяшае і радуе.

**Гутарыла Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, фота Мікалая Астаф’ева**

***На здымку: Глеб Гарбоўскі на ўрачыстым уручэнні дыплома намінанта на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва.***

## Даўняе прызнанне

**Сёння ў вядомага беларускага мастака Георгія Паплаўскага хапае ўзнагарод, высокіх адзнак. Зусім не выпадковым падаецца яго вылучэнне на прэмію Саюзнай Дзяржавы. Тым болей што ўжо доўгія дзесяцігоддзі высокіх ацэнак народны мастак Беларусі заслужыў і ў іншых краінах свету. Увазе чытачоў я прапаную пераклад артыкула з кітайскага часопіса “Элосы вэны” (“Руская літаратура і мастацтва”) за май 1986 года. Некалькі слоў пра аўтара артыкула. Гао Ман нарадзіўся ў 1926 годзе ў Харбіне. Шмат гадоў працаваў на розных пасадах у Таварыстве кітайска-савецкай дружбы і Інстытуце замежнай літаратуры. Займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. Калі стаў галоўным рэдактарам часопіса “Сусветная літаратура”, Гао Ман здолеў сабраць вакол сябе лепшых перакладчыкаў рускай літаратуры на кітайскую мову. І сам актыўна працаваў у галіне мастацкага перакладу. У яго спісе пераўвасабленняў на кітайскую мову – творы А. Пушкіна, М. Лермантава, І. Буніна, Г. Ахматавай, Б. Пастарнака, М. Танка і іншых рускіх і савецкіх пісьменнікаў. Пяру Гао Мана належыць кніга “Нататкі пра рускае выяўленчае мастацтва”.**

**Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ**



Георгій Паплаўскі “Пейзаж з царквою”.

# Беларускі кніжны графік Георгій Паплаўскі

**Гао МАН**

Мастацтва савецкай кніжнай графікі прытрымліваецца развіцця літаратуры. Актыўнасць нярускіх нацыянальных літаратур — адна з адметных рыс багацця савецкай літаратуры. Разам з дасягненнямі нацыянальных літаратур назіраюцца і значныя поспехі ў нацыянальнай кніжнай графіцы.

Перад Другой сусветнай вайной і нават у першыя пасляваенныя гады вельмі мала нярускіх нацыянальных мастакоў атрымалі ўсесаюзнае прызнанне. У пяцідзесятыя гады кожная з рэспублік Савецкага Саюза выгадавала цэлую плеяду выдатных кніжных графікаў. За апошнія дваццаць гадоў яны ў поўнай ступені раскрылі свае таленты і майстэрства.

У гэтым нумары мы знаёмім вас з беларускім кніжным графікам Георгіем Паплаўскім. Ён нарадзіўся ў 1931 годзе ў горадзе Ромны, у 1961 годзе скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. У 1941 годзе фашысты ўварваліся ў Савецкі Саюз, ворагі амаль пераўтварылі Беларусь у папялішча. Тады Паплаўскаму было толькі дзесяць гадоў. Тут, на выпаленай зямлі, пад кіраўніцтвам партыі беларускі народ распачаў страшны для ворага партызанскі рух. Дзе лютуе вораг, там і народнае супраціўленне. У ачышчальным агні, сярод крыві нарадзіліся годныя апявання гераічныя подзвігі. На гэтым фундаменце з’явіліся літаратурныя творы, якія кранаюць да глыбіні душы. Паплаўскі ганарыцца гісторыяй роднага краю. Ён бачыць сваім абавязкам расказваць пра барацьбу беларускага народа супраць фашыстаў. Георгій Георгіевіч стварае ілюстрацыі да твораў беларускай літаратуры, у першую чаргу да аповесцей Васіля Быкава, якія апісваюць жыццё ў вайну. Графіка Паплаўскага хутка атрымала высокую адзнаку ў Беларусі і за яе межамі.

У Кітаі шмат разоў выдавалі пераклады аповесцей Васіля Быкава (нар. у 1924). Амаль усе яго творы — пра вайну. У іх праз асаблівыя ўмовы вайны раскрываюцца самыя розныя чалавечыя праявы і паводзіны, даследуюцца фарміраванне і змены ў поглядах на мараль. Цяжкае жыццё Радзімы, беды людзей, лёс роднай краіны — усё гэта выклікае ў Паплаўскага такія ж глыбокія пачуцці, як і ў Быкава, таму мастак так паспяхова выканаў ілюстрацыі да аповесцей. Праз крыху перабольшаную дэманстрацыю характару герояў Паплаўскаму ўдалося перадаць напружанасць сюжэта, дзе развіццё падзей даходзіць да трагічнага ўзроўню. Кніжны графік старанна прамалёўвае ўсе востра акрэсленыя маральныя праблемы. Напрыклад, звернемся да яго ілюстрацый 1977 года да аповесці “Сотнікаў”. На малюнку з’яўляюцца два героі: чырвонаармеец Сотнікаў і яго “кампаньён” Рыбак. З-за пакутлівай хваробы Сотнікаў знясілены да крайнасці, але перад тварам смерці ён дэманструе доблесць і высокую мараль савецкага чалавека і патрыёта. А Рыбак, па словах Сотнікава, — “нядрэнны воін, але яму, несумненна, нечага не хапае, каб стаць чалавекам, грамадзянінам”.

Савецкі крытык Л. Азімава так напісала пра графіку Паплаўскага: ён “на аснове сюжэта аповесці Быкава, з дапамогай літаграфіі стварыў шэраг ілюстрацый. Гэтыя ілюстрацыі сваёй рашучасцю, вострай экспрэсіўнасцю, атмасферай жорсткасці, нават бязлітаснасці, якая не саступае творам Быкава, прымушаюць паверыць, скараюць нас”. (Глядзі савецкі часопіс «Искусство», 1980 г., № 9.)

Перад тым, як пачаць працу над графікай да аповесцей Быкава, Паплаўскі займаўся ілюстрацыямі да твораў “Хатынская аповесць” і “Партызаны” іншага беларускага пісьменніка — Алеся Адамовіча. Іх можна разглядаць як падрыхтоўчы этап да быкаўскіх ілюстрацый. Паплаўскі імкнецца адлюстраваць трагічныя, але поўныя гераізму часіны. Ён аб’ектыўна, з асцярожнасцю ставіцца да літаратурных твораў і жыццёвага матэрыялу. Калі ілюструе аповесці Быкава, у мастака праяўляюцца новыя памкненні. Паплаўскі згушчае рэалістычны складнік, павялічвае ступень абагульнення, выявы становяцца болей грубымі, кампазіцыя набывае большую экспрэсіўнасць.

Акрамя кніжнай графікі са сцэнамі ваеннага жыцця Паплаўскі стварае ілюстрацыі, поўныя лірызму і паэтыкі. Напрыклад, ілюстрацыя 1978 года да паэмы беларускага паэта Янкі Купалы “Яна і я”, напісанай яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Паплаўскі старанна ўвасабляе задумку паэта: выключная духоўнасць, традыцыйная для працавітых беларускіх сялян, любоў да работы, мары пра чыстае каханне.

Сёння Георгій Георгіевіч Паплаўскі знакаміты савецкі кніжны графік, неаднойчы ўганароўваўся ўзнагародамі на радзіме і за мяжой. Ён таксама выдатны гравёр. На задняй вокладцы гэтага нумара размешчаны “Пейзаж з царквою”, выбраны з серыі 1977 года “Прагулкі з Ганешам”. Гравюра дэманструе не жорсткія сцэны вайны, а жыццё ў мірны час, працавіты і ціхі гарадок.

*Часопіс “Элосы вэны” (“Руская літаратура і мастацтва”, 1986 г., № 5, с. 112-113).*

**Пераклала з кітайскай Вераніка Лазоўская**

# Літаратурныя далягляды

**Сённяшні стан беларускай літаратуры дазваляе прагназаваць яе ўздым. Існуе дастаткова ўмоў для развіцця творчых талентаў. Лепшым творам прадастаўлены старонкі літаратурных выданняў: часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Белая вежа", штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".**

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук, калаж Віктара Калініна**

Пакаленне пісьменнікаў, якое сфармавалася ў 80-я гады, валодае належным творчым патэнцыялам і жыццёвым досведам, каб забяспечыць літаратурны прагрэс. На авансцэну нацыянальнай літаратуры ўпэўнена выходзяць Анатоль Казлоў, Сяргей Кавалёў, Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч, Ягор Конеў, Віктар Шніп, Алесь Бельскі, Пятро Васючэнка.

На сучасным этапе назіраецца інтэнсіўнае развіццё літаральна ўсіх родаў беларускай літаратуры — паэзіі, прозы, драматургіі.

Асабліва значныя набыткі ў галіне нацыянальнай прозы: з'явіліся выдатныя раманы, аповесці і апавяданні. Напрыклад, Я. Конеў напісаў гістарычны раман "Літоўская адысея Тадэвуша Касцюшкі", які апублікаваны ў часопісе "Полымя" (2009, № 5—6). Пісьменнік здолеў асэнсаваць складаную эпоху канца XVIII ст., раскрыць логіку палітычных працэсаў і грамадскую атмасферу ў ВКЛ і тагачаснай Еўропе.

Шмат мастацкіх знаходак і адкрыццяў у прозе А. Казлова. Яго раманы "Юргон", "Мінск і воран, Парыж і здань", а таксама аповесці і апавяданні "Я і Прарок-Уродка", "Раздаржаны саракоўнік", "Верасава вечнасць", "Крывавы прысмак" — каштоўны мастацка-эстэтычны набытак нацыянальнай літаратуры. Празаік арганічна сінтэзуе рэальны свет і містыку, рацыянальнае і міфалагічнае. Новая жанравая форма — "раман-штрыхамі" — дазволіла А. Казлову ўмела спалучыць маштабнасць эпікі і дынамізм навелы.

Шырокім ахопам падзей адрозніваюцца раманы У. Гніламёдава "Уліс з Прускі", "Расія", "Вяртанне" і раман-дзённік "Сем гадоў у ЦК". Багаты жыццёвы досвед аўтара, назіральнасць дазволілі яму стварыць уласную мастацкую гісторыю Беларусі XX ст., праўдзіва раскрыць лёсы людзей у віхуры зменлівых падзей і абставін.

Лепшыя традыцыі вясковай прозы працягвае выдатны пісьменнік Леанід Левановіч. Яго раманы "Бесядзь цячэ ў акіян", "Сіняе лета", апавяданні "Дождж на Дабравесце", "Рыцар кахання" напоўненыя сумам і гумарам, роздумам пра сучаснае грамадства і праблемы сям'і. Л. Левановіч — сапраўдны майстра дакументальнай прозы. Яго дзённікі, эсэ і "аповеды-былі" "Развітанне ў Парыжы", "Пасажыр з Капенгагена", "Сем одаў Амерыцы", "Горкі смак радызы" маюць пазнавальную каштоўнасць і чытаюцца нібы захапляльныя прыгодніцкія раманы.

Надзвычай плённа і інтэнсіўна ў розных жанрах працуе Георгій Марчук. Яго пяру належаць раманы "Крык на хутары" і "Кветкі правінцыі", п'есы "Калі заспявае певень", "Кракаўскі студэнт", "Новыя прыгоды Несцеркі", навелы і апавяданні. Найбольш удалыя ў мастацкім плане "казкі" пісьменніка — тыя навелістычныя творы, у якіх ён выкарыстоўвае народныя паданні, легенды, гістарычныя анекдоты, напаўфальклорныя показкі — "Ясельда", "Хвароба каралевы", "Як Несцерка злодзея правучыў". З любоўю і асаблівым душэўным трымценнем напісаныя выдатныя навелы-каноны, прысвечаныя Богу, Маці, Часу, Гарыні, Базару, Ветру. Адзін з найбольш цікавых твораў Г. Марчука — цыкл навел кахання: "Свята пачуцця", "Рэўнасць", "Адзінота", "У пошуках сэнсу", аб'яднаных агульнай назвай "Урсула". Створаныя паводле біблейскай "Песні Песняў" і візантыйскіх хваласпеваў, навелы кахання Г. Марчука — паэзія ў прозе, нябесны гімн найглыбейшаму з чалавечых пачуццяў, вечнаму і несмяротнаму, як само жыццё.

Прызнаным майстрам гістарычных эсэ і раманаў зарэкамендаваў сябе Віталь Чаропка. Новая кніга "Вялікі князь Вітаўт" (2010) праілюстраваная эксклюзіўнымі гравюрамі і ўнікальнымі выявамі артэфактаў. Эсэ адрозніваецца даступнасцю выкладу, навуковай дакладнасцю і выверанасцю гістарычных фактаў, што робіць яго неацэнным дапаможнікам для вучняў і студэнтаў, настаўнікаў і выкладчыкаў.

Унікальным празаікам нашага часу з'яўляецца майстар мастацкага слова Андрэй Федарэнка. Чытачу ён вядомы нізкай цудоўных "сечак", апавяданняў і аповесцей: "Вёска", "Нічые", "Шчарбаты талер", "Афганская шкатулка", напісаў раманы "Рэвізія", "Мяжа". Як пісьменніку А. Федарэнку ўласціва надзвычай высокая культура слова, графічная строгасць сюжэтных ліній, адшліфаванасць стылю. Жыццёвыя калізіі і персанажы пад пяром майстра слова набываюць сімвалічнае значэнне. Ад канкрэтных рэалій творца ўздымаецца да агульнасацыяльных і агульнанацыянальных праблем, філасофскіх абагульненняў.




Шырокім творчым дыяпазонам валодае пісьменнік і навуковец-лінгвіст Міхась Пазнякоў. Яго пяру належыць звыш двух дзясяткаў кніг, у якіх надрукаваны цудоўныя вершы, апавяданні, эсэ, гумарыстычныя замалёўкі і творы для дзяцей. Кнігі М. Пазнякова "Святое правіла…" (2008) і "Паміж радасцю і болем" (2010) выклікаюць дакладна адлюстроўваюць сутнасць яго творчасці — несці людзям дабро, выхоўваць у маладога пакалення спагадлівасць, чалавечую цеплыню.

Выключнае валоданне вершаванай тэхнікай дэманструе прызнаны паэт Віктар Шніп. Апошнім часам ён усё больш выступае і як празаік. Залатым здабыткам яго творчасці з'яўляецца кніга "Проза і паэзія агню" (2010). Аснову выдання склалі балады "крыві і любові", у якіх з глыбіні стагоддзяў да сучаснікаў прамаўляюць галоўныя постаці нацыянальнай гісторыі — Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Міндоўг, Вітаўт, Сымон Будны, Леў Сапега, Янка Купала, Якуб Колас і дзясяткі іншых персанажаў. В. Шніп перадае мары і ідэалы лепшых сыноў Беларусі, іх адданасць роднай зямлі, выказвае веру ў адраджэнне беларускага народа.

Багаты свет пачуццяў пульсуе ў новым паэтычным зборніку Навума Гальпяровіча "Насцеж". У пранікнёных вершах паэта — сум і шкадаванне па страчаным, расчараванне і ўнутраная трывога ад жыццёвых няўдач, радасць сустрэч з цікавымі людзьмі і аптымізм: "Ёсць Радзіма — значыць, будзе песня. // Будзе песня — і Радзіме жыць!" У вершах паэта — гатоўнасць смела адстойваць "ісціны святыя", мужна перадольваць цяжкасці дзеля захавання духоўных ідэалаў.

У апошнія гады пашырыліся ўяўленні пра вытокі і гісторыю развіцця нацыянальнай літаратуры. Ажыццёўлена рэканструкцыя і пераклады на сучасную мову шэдэўраў прыгожага пісьменства X—XVIII стст., выдадзены каштоўныя ў мастацкіх адносінах летапісы і хронікі, навелы і дыярыушы, спадчына славутых майстроў слова мінулага — Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Льва Сапегі, Лаўрэнція Зізанія, Афанасія Філіповіча, Сімяона Полацкага.

Беларускія літаратуразнаўцы ажыццяўляюць падрыхтоўку і выданні поўных збораў твораў класікаў беларускай літаратуры — Якуба Коласа, Максіма Танка, Івана Навуменкі, Івана Шамякіна, Уладзіміра Караткевіча, вяртаюць помнікі даўняй беларускай літаратуры. Акадэмічныя літаратуразнаўцы спрыяюць пашырэнню твораў беларускай літаратуры ў свеце, распрацоўваюць фундаментальныя праблемы гісторыі і тэорыі літаратуры.

У краіне захоўваецца даволі высокі ўзровень літаратурнай і літаратуразнаўчай адукацыі. Выдадзены якасныя падручнікі і дапаможнікі. Апрача таго, з'яўляюцца новыя творы, якія павінны ўключацца ў адпаведныя праграмы і курсы навучальных устаноў. Зусім занядбанай застаецца падрыхтоўка метадычных матэрыялаў па літаратуры для замежных студэнтаў.

Без перабольшання можна сцвярджаць: беларуская літаратура і літаратуразнаўства на сучасным этапе фарміруюць духоўныя каштоўнасці і ідэалы грамадзян краіны, выхоўваюць патрыятызм і нацыянальную годнасць, дапамагаюць адукацыі і асвеце.

Школа добрых пачуццяў



# Пяшчота беспараднага жыцця

**Раіса БАРАВІКОВА**

У кожнай кніжкі, як і ў яе аўтара, свой лёс… Як, дарэчы, і свая энергетыка. Адны выданні стаяць і стаяць сабе на паліцы, да другіх, колькі б ні мінался часу, не-не ды і пацягнецца рука...

Я люблю перачытваць томік вершаў Яўгеніі Пфляўмбаўм "Сувой жыцця". У 1989 годзе, калі кніжка выйшла з друку, яна выклікала шырокі розгалас і імгненна была расхоплена, як адкрыццё, як нечаканасць… У прадмове да яе чытаю: "…Многія з нас, напрыклад, ведалі Яўгенію Эргардаўну Пфляўмбаўм як паэтэсу па адным толькі вершы "Турксіб", які быў змешчаны ў зборніку "Універсітэт паэтычны", выдадзеным у 1971 годзе да 50-гадовага юбілею БДУ імя Леніна". Што ж да мяне асабіста, дык я і па гэтым вершы яе не ведала, акром таго, што Яўгенія Эргардаўна была жонкай нашага класіка Максіма Лужаніна (Аляксандра Амвросьевіча Каратая), што ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя яны разам распачыналі свой літаратурны лёс, і гэты пачатак у Яўгеніі Пфляўмбаўм быў яркім, а потым… Потым пачаліся сталінскія рэпрэсіі, і ў 1933 годзе ў свае 25 Яўгенія Эргардаўна едзе ў Сібір услед за рэпрэсіраваным Максімам Лужаніным… І ўсё! Больш нідзе ні радка! Таму і стаўся сапраўдным адкрыццём гэты яе томік, які паказаў, што не было творчай паўзы больш як у паўстагоддзе: вершы пісаліся. У той жа прадмове Анатоль Вярцінскі назаве іх паэтычным дзённікам, а Яўгенію Эргардаўну параўнае з вядомай амерыканскай паэткай Эмілі Дзікенсан, што робіць гонар, на маю думку, усёй нашай паэзіі, якая яшчэ як след не адкрыта вялікаму свету.

Але я цяпер — пра Яўгенію Эргардаўну і яе томік "Сувой жыцця" — "жмут споведзі", як скажа ў адным з вершаў сама паэтка, а ў другім прызнаецца, што "…залішне было лістападу. // У тым беспарадным жыцці, // дзе лёс мне загадваў не падаць, // а морам нястомна плысці". Сапраўды, жыццё вельмі тонкага творцы Яўгеніі Пфляўмбаўм не ведала парадnасці і тым больш творчага антуражу з публічным чытаннем вершаў, з тымі ж апладысментамі, тэлефоннымі званкамі пасля прыкметных публікацый… Яна проста пісала, загортваючы сваю жаночую пяшчоту ("дзяржаву гарачых сноў"), якую сама назаве "пяшчотай стомленага сэрца", у пачуцці тугі, самоты, жалю, дзе душа "дзень пры дні чакае дзіва" "і той спажывы, што слёзы ўмее асушыць", дзе "шчасцем бывае самотнасць", дзе не згасае "агарак сплаканай свячы", а "любасць нелітасцівая". І як нечакана (па-мужчынску) цвёрда яна магла выгукнуць: "Я не з анёльскіх вітражоў і не з евангельскага неба — мне ў сэрца ўдарылі нажом, і расквітацца ёсць патрэба"...

Такой страфы не знойдзеш ні ў паэзіі Эмілі Дзікенсан, ні ў Ганны Ахматавай…

Помню, дзесьці на пачатку дзевяностых Марыя Карпенка, галоўны рэдактар "Алесі", папрасіла мяне зрабіць сумесную гутарку з Максімам Лужаніным і Яўгеніяй Пфляўмбаўм. Аляксандр Амвросьевіч пагадзіўся, але папярэдзіў, што Яўгенія Эргардаўна трошкі прыхварэла. І вось мы размаўляем з ім удваіх, у нейкі момант паднімаю позірк і бачу ў расчыненых дзвярах Яўгенію Эргардаўну, худзенькую, невялікага росту жанчыну, якая моўчкі правяла па мне цёплым і доўгім позіркам і гэтак жа доўга ледзь заўважна заўсміхалася. Такою і помніцца яна мне ў маўклівым дзвярным праёме… на скразняку.

# Зразумець сябе праз творчасць

Ксенія КУШНАРОВА

**У аснову многіх твораў Андрэя Федарэнкі пакладзены хранатоп "парога" ("мяжы"), які, згодна з М. Бахціным, мае крызісную семантыку. Да такога тыпу можна аднесці аповесці "Вёска", "Нічые", раманы "Рэвізія" і "Мяжа". У названых творах хранатоп "парога" не выступае ізалявана, ён уключаны ў структуру часу: біяграфічнага ("Вёска", "Рэвізія"), аўтабіяграфічнага ("Мяжа"), гістарычна-авантурнага ("Нічые"), гэтае спалучэнне ўплывае на будову сюжэта аповесцей і раманаў пісьменніка.**

Адкрытасць мастацкага часу твораў А. Федарэнкі вынікае з уключанасці падзей асабістага жыцця герояў у кантэкст той сацыяльна-гістарычнай рэчаіснасці, на фоне якой яны адбываюцца. Гэта заўважаецца і ў самым суб'ектыўным творы пісьменніка — рамане "Мяжа", дзе побач з падзеямі інтымна-асабістага жыцця апісваюцца тыповыя для пэўнага часу сітуацыі, падаюцца дакументы, якія захоўваюць "дух эпохі".

Аўтабіяграфічны час знітоўвае часткі рамана-эсэ ў адно цэлае, прымаючы на сябе ролю адсутнага сюжэта. Гэтыя фрагменты тэксту аб'яднаныя ў мастацкае адзінства таксама і пачуццёва-эмацыянальным планам аўтарскага выражэння. Часам аўтар адмаўляецца ад традыцыйнай для аўтабіяграфічнага твора храналагічнай паслядоўнасці выкладу падзей на карысць свабоднага перамяшчэння па часе, звяртаючыся ў асобных выпадках і да механізмаў асацыятыўнай сувязі.

Адначасова з аналізам-ацэнкай падзей і твораў падаецца і работа па стварэнні самога рамана: як узнікла задума, якім чынам арганізоўвалася яго структура. Мадальнасць часу ў творы выражана ўсімі трыма катэгорыямі, дзе мінулы і цяперашні час выражаюцца праз апеляцыю да ранейшага досведу. Будучы час прысутнічае як перспектыва, хоць і не ясная для самога пісьменніка. Важнай рысай рамана з'яўляецца незавершанасць мастацкага часу.

Нелінейнае разгортванне падзей у часе характэрнае для большасці твораў А. Федарэнкі. Так, у аповесці "Вёска" галоўны герой Антон увесь час вяртаецца думкамі ў мінулае, спрабуючы зразумець прычыны непрыемнасцей, што з ім адбыліся.

Хранатоп вёскі створаны пісьменнікам у палемічным ключы да ўстойлівых уяўленняў пра гэтае месца і распаўсюджаных літаратурных стэрэатыпаў, якія часта выклікаюць у героя раздражненне: "*Ах, якая ж гэта няпраўда, які фальш! Адкуль гэты тып вясковага рамантыка, якіх я, колькі жыву, ні ў воднай вёсцы не бачыў*".

Сюжэт аповесці ствараецца ўзаемадзеяннем двух хранатопаў — "вёскі" і "парога", апошні ўключаны ў плынь біяграфічнага часу. Крызіс у жыцці Антона выкліканы знешнімі прычынамі. Роздумы героя над становішчам, у якім ён апынуўся, прыводзяць яго да разумення спецыфічнасці вясковых рэалій і прызнання самабытнасці вясковых жыхароў, сярод якіх ён не знаходзіць сабе належнага месца.

У аснове сюжэта аповесці "Нічые" ляжыць гістарычна-авантурны час. У творы А. Федарэнка звяртаецца да адлюстравання малавядомай старонкі беларускай гісторыі — нядоўгага змагання Слуцкай брыгады за незалежнасць Беларусі ў 1920 годзе.

Пісьменнік прывязвае аповесць "Нічые" да гістарычнага часу ўвядзеннем у кола персанажаў гістарычных асоб, узгадваннем рэалій, цытаваннем сапраўдных дакументаў і сведчанняў удзельнікаў падзей, часам вельмі супярэчлівых. Але больш цікавіць аўтара псіхалагічная матывацыя людзей, якія адважыліся на такую адчайную акцыю.

*"Пісьменнік прывязвае аповесць "Нічые" да гістарычнага часу ўвядзеннем у кола персанажаў гістарычных асоб, узгадваннем рэалій, цытаваннем сапраўдных дакументаў і сведчанняў удзельнікаў падзей, часам вельмі супярэчлівых. Але больш цікавіць аўтара псіхалагічная матывацыя людзей, якія адважыліся на такую адчайную акцыю.*

Вялікае значэнне ў аповесці "Нічые" мае выпадак, шанцаванне, якое спадарожнічае Слуцкай брыгадзе, калі яна аказваецца на лапіку нічыйнай зямлі паміж польскай і чырвонай арміямі, да таго ж сярод сваіх людзей. Адчуванне авантурнасці падзей падмацоўваецца ў тэксце словамі аднаго з персанажаў: "*Дэфіліцыя, бутафорыя — дык так і было задумана ад пачатку! Пакуражыцца, пакуралесіць, колькі дадуць нам, колькі магчыма, шуму, чутак пра сябе нарабіць, прымусіць, нарэшце, каб загаварылі пра Беларусь і беларусаў, — а там вольнаму воля*".

У рамане "Рэвізія" сюжэт ствараецца пры дапамозе ўзаемадзеяння двух часовых пластоў (1989 і 1920 гг.), аб'яднаных біяграфічным часам, у якім адбываецца духоўнае сталенне героя Алеся Трухана (у мінулым — Трухановіча).

Падзеі біяграфічнага часу Трухана-сучасніка цалкам вызначаюцца хваробай і падрыхтоўкай да блізкай смерці (так яму здаецца). Свядомасць героя вызначаецца адчуваннем выключнасці, абранніцтва. Двайнік з мінулага — Трухановіч — мае тыя ж псіхалагічныя характарыстыкі з невялікімі адрозненнямі.

Свабодны пераход аўтара ад аднаго часавага пласта да другога абумоўлены тоеснасцю герояў, якіх аб'ядноўвае недавер да іншых людзей. Абодва героі гатовыя да паражэння і чакаюць смерці (ад хваробы ў сучаснасці і ад расстрэлу ў мінулым), таму ўдала праведзеная аперацыя і вызваленне з турмы становяцца нечаканасцю: "*Не так смерць — прадчуванне яе, падрыхтоўка да яе, набліжэнне яе страшыла, як вось гэтае, раптоўна зваленае на галаву, жыццё. Столькі ўжо было патрачана сілы, энергіі, духоўнага запасу, што ён проста не ведаў, дзе браць дадатковыя рэзервы! Як гэтую дыстанцыю адужаць?!*"

У біяграфічны час рамана "Рэвізія" ў абодва часавыя пласты, знітаваныя асобамі герояў-двайнікоў, арганічна ўключаны хранатоп "парога", калі адбываецца пераасэнсаванне ранейшых каштоўнасцей і пераход на якасна іншы ўзровень (ад фантазій да рэальнага жыцця ў абодвух выпадках).

А. Федарэнка выкарыстоўвае ў творах і іншыя вобразы часа-прасторы. Хранатоп "зоны", пакладзены ў аснову сюжэта апавядання "Бляха", абумоўлівае спецыфічнасць працякання падзей у творы. Закінутая пасля Чарнобыля вёска існуе ў адметных часавых каардынатах, насельнікі яе з-за мінімальнага судачынення з людзьмі па-за зонай існуюць як здані, бо іх стараюцца не заўважаць і нават не ўспамінаць.

Звычайная сітуацыя, якая трапляе ў спецыфічны хранатоп "зоны", адбываецца з пастаянным парушэннем звыклага ходу падзей, эмацыянальны настрой якіх змяняецца на супрацьлеглы звычайнаму. Нават біццё кабана набывае адзнакі адметнасці, якімі пазначаны ўсе чыннікі гэтага працэсу, што ўвесь час падкрэсліваюцца аўтарам.

Падзея, ход якой ад пачатку парушаўся, нібыта "праграмуе" на няўдачу кожнае наступнае дзеянне: бабу, якая ў калідоры разбірае кабана, палохае злодзей і забірае частку свежыны. Зграя здзічэлых сабак, якая адбірае мяса ў злодзея і пагражае яго жыццю, прымушае Бляху злітавацца над нешчаслівым рабаўніком і ўпусціць у хату. Шкадаванне да незнаёмага чалавека прымушае героя здзейсніць ірацыянальны ўчынак — пайсці па дапамогу праз звар'яцелую ад смаку крыві зграю. Так, спецыфічная сітуацыя "зоны", якая дазволіла Бляху ўпершыню ў жыцці адчуць сябе чалавекам, прыносіць яму гэткую ж жахлівую і недарэчную, як і яго папярэдняе жыццё, смерць ад сабачых зубоў.

Матэрыялам празаічных твораў А. Федарэнкі з'яўляецца не факт сам па сабе, а тое, як ён трансфармаваўся, трапіўшы ў свядомасць аўтара. У большасці яго твораў знешнія падзеі маюць значэнне толькі ў той ступені, у якой яны закранулі ўнутраны свет героя, зрушылі там лавіну згадак, домыслаў, асацыяцый. У фінале большасці апошніх твораў А. Федарэнкі сцвярджаецца жыццё як вышэйшая каштоўнасць, існаванне на зямлі прызнаецца найвышэйшым відам творчасці.

# Карась дзеда Паўла

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**У кагосьці, магчыма, іншае меркаванне, але я найбольш прыемнае ўражанне атрымліваю ад кніг для дзяцей, напісаных у традыцыйным рэчышчы. Што ў такім разе казаць пра саміх хлопчыкаў і дзяўчынак. Ім таксама хочацца чытаць пра тое, што зразумела, проста, але разам з тым займальна, цікава.**




Новая кніга Паўла Саковіча "Князь-карась", выпушчаная рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва", — акурат для тых, хто шукае вядомае ў невядомым, а, здавалася б, паўсядзённых рэчы, звычайныя з'явы гатовыя ўспрымаць так, быццам бачаць гэта ўпершыню. І, канечне ж, для тых, хто любіць "братоў нашых меншых", як, да прыкладу, юны герой з верша "Фядот і чорны кот".

Твор гэты невялікі, але змястоўны і жыццёвы. П. Саковіч, добра ведаючы псіхалогію маленькіх, якім ён па сваім узросце дзядулем даводзіцца, па сутнасці нічога не выдумляе. Сітуацыя, пакладзеная ў аснову верша, узятая з самога жыцця. Гэта акурат тое, з чым неадночы сутыкаюцца дзеці, разважаючы, як быць далей:

*Па вуліцы бег малы Фядот,*
*Аж насустрач — чорны кот.*
*Спыніўся хлопчык: што рабіць?*

Аднак у разгубленасці знаходзіцца не толькі сам Фядот, а і той, каго ён нечакана напаткаў, бо, як неўзабаве высветліцца, кот гэты акурат з тых сваіх сародзічаў, да якіх у людзей здаўна асаблівае стаўленне і не на карысць яму, таму:

*І кот, збянтэжаны, стаіць.*
*Хоць ён шчыруе для людзей —*
*Палюе пацукоў, мышэй,*
*Аднак уведаў за свой век,*
*Што часам любіць чалавек*
*Пужнуць і крыкнуць наўздагон*
*Кату, што чорны, страшны ён...*
*Няўжо і гэта хлапчанё*
*З людзьмі такімі заадно?*

Апошняя страфа дзякуючы дакладнай сюжэтнай прадуманасці атрымалася выйгрышнай у псіхалагічным плане. Як вядома, у творах, адрасаваных дзецям, як правіла, мусіць прысутнічаць дыдактычны момант, таму аўтар павінен знайсці такі выхад, каб маралізатарства празмернага не было, але разам з тым дзіця магло атрымаць для сябе пэўны ўрок. П. Саковіч справіўся з такой задачай паспяхова, бо, так сказаць, у саюзнікі сабе ўзяў... Фядота. Хлопчык сам вырашае, як быць у гэтай сітуацыі. Сам ён і тлумачыць, чаму зрабіў менавіта так, а не інакш:

*Фядот жа... раптам адступіў,*
*Ката наперад прапусціў,*
*Бо кот стары, па ўсім відаць,*
*А старасць трэба паважаць!*

Запамінальным атрымаўся і Антон з верша "Антонавы антоны", які з яблык асабліва любіць антонаўкі. Не пазбаўлены ён і пачуцця гумару: "У нас ёсць яблыневы сад, // Расце антонавак там шмат. // Каб я любіў іх, даглядаў, // Імя Антон мне бацька даў!" Дзяўчынка Ала з верша "Дзед-вязальшчык" таксама кемная. Перад Новым годам пахвалілася аднакласнікам, што дзед яе —"вязальшчык лоўкі, // Робіць розныя абноўкі. //А ягоныя карункі// — Як прыгожыя малюнкі. // Ён шчыруе ўдзень і ўночы, // Нават есці, піць не хоча". Калі настаўніца прапанавала Але запрасіць свайго дзеда ў школу,

*Аднакласнікам з хітрынкай*
*Адказала так дзяўчынка:*
*— А ў мяне няма сакрэтаў,*
*Дзед Мароз звычайны гэта!*

Шмат якія вершы П. Саковіча напісаныя з досціпам, напоўненыя тонкім гумарам. Ёсць у ягонай кнізе і ўсмешкі-пацешкі, і жартаўлінкі. Яны атрымаліся на дзіва арыгінальныя. Дый, як і вершы, звязаныя з будзённым жыццём. Асучасніванне сітуацый ідзе толькі на карысць. Як, для прыкладу, ва ўсмешцы-пацешцы "Дзед-бязменасмен", у якой абыгрываюцца два словы — бізнесмен, што сёння на слыху, і бязмен, які выкарыстоўваўся здаўна для ўзважвання:

*— Дзед наш рыначнікам стаў! —*
*Горда Стась сябрам сказаў.*
*— Кожны тыдзень на базар*
*Носіць з дачы ён тавар.*
*А з сабой бярэ бязмен...*
*Дзед у нас — бязменасмен!*

Да кнігі "Князь-карась" падыходзіць вядомае выслоўе: "З рога — усяго многа". Пад адной вокладкай знайшлося таксама месца загадкам, казкам, абразкам, баечкам у прозе. Гэта, несумненна, сведчыць пра шматграннасць таленту пісьменніка. Ухвальна і тое, што П. Саковіч адчувае сябе ў розных жанрах упэўнена. Не можа не радаваць і тое, што яму ў аднолькавай ступені ўдаюцца як паэтычныя, так і празаічныя творы. У першую чаргу гэта датычыць казак. Праўда, у кнізе ёсць і паэтычныя казкі, але менавіта ў празаічных пераважае сваё, аўтарскае. У іх больш адчувальны выхаваўчы момант. Пісьменнік кранаецца такіх паняццяў, як дабро, спагада, шчырасць... Найбольш удаліся казкі "Цып-цып і Жоўцік", "Самы смачны яблык", "Ком-блін і Вожык", "Ветрык-мастак"... Ёсць нават і казка-загадка — "Ветлівая вандроўніца". І падборка казачных баек уключана ў кнігу. Чытаць усе гэтыя творы — адно задавальненне.

Што да верша "Князь-карась", то гэта адзін з лепшых мастакоўскіх набыткаў П. Саковіча. Дзед Павел такога героя прыдумаў, якога яшчэ пашукаць трэба. Чым жа ён адметны, хлопчыкі і дзяўчынкі і даведаюцца, пазнаёміўшыся з кнігай "Князь-карась".

# Паэзія



Валянціна Гіруць-Русакевіч

* * *

*З табой няпроста, без цябе — ўдвая...*
*Душу трывожыць-студзіць адзінота.*
*І мне ўжо немагчыма аніяк*
*Спатканне наша адпісаць на потым.*

*Так холадна, хоць спёка на двары,*
*Душы, неацяплёнае ўвагай.*
*Хоць слоўца прашапчы-прагавары,*
*Сагрэй, спатоль акрыленасцю смагу.*

*З табой — святочным стане будні дзень,*
*А без цябе і ў свята — шэры будзень.*
*І калі лёс у згодзе не звядзе,*
*То і мяне сапраўднай ўжо не будзе...*

*Я запалю акна свайго маяк,*
*У ночкі папрашу для нас саюза...*
*Адкрыты дзверы і душа мая —*
*Заходзь...*
*паэзіі акрыленая Муза!*

* * *

*Матуля любая, старонка дарагая,*
*Дазволь схіліць з удзячнасцю калені*
*За кожны год і дзень, і за імгненне,*
*Што тут, у гэтым краі, пралятае.*

*Дазволь узнесці светлую малітву*
*За кожны ўздых з табой Святому Небу,*
*За тое, што не за сваю прашу патрэбу*
*Ўсявышняга, а каб табе паслаў Ён літасць.*

*Табе, мая прасветлена-святая,*
*Абмытая вадзіцаю крынічнай,*
*Як самай яркай зорцы, а не знічцы,*
*Што падае, — я веру й прысягаю.*

*Ты не ўпадзеш, а будзеш палымнецца*
*Усё ярчэй, праменнямі любові*
*Асвечваць шлях,*
*і клікаць Родным Словам,*
*І наталяць ім нашы душы, сэрцы.*

*Ўсявышні! Зберажы маю Радзіму*
*Ад хціва-неразумнага, ліхога,*
*Каб годнай, светлаю была дарога*
*Яе, Матулі любае, адзінай.*

*Дазволь яе палеткаў быць пясчынкай,*
*Крыніцы кропляй, ноткаю у песні,*
*Што льецца над зямлёй парою веснай,*
*Любові полымя — хаця б іскрынкай...*

*І разам з тым —*
*быць вольнай, гордай птушкай*
*У гэткім вольным, гордым, годным краі,*
*Якому ў вернасці, ў любові прысягаю,*
*Як маці любае ўдзячная дачушка.*

### Вёсачка-матулечка

*У расінцы кожнай сонейка іскрыцца*
*І пяе-шапоча пушча Налібоцкая...*
*Я хачу сваёй зямельцы пакланіцца*
*І прызнацца у любові роднай вёсачцы.*

*Наша вёска, наша вёсачка-матулечка,*
*Ты ўсіх сваёй пяшчотаю атульваеш.*
*Працавітая, увішная, лагодная,*
*Найгасціннейшая вёска наша родная!*

*Каласіцца, спее ніва залатая*
*І хвалюецца прыгожа пералівамі…*
*Хай жа вёсачка ніколі не ўмірае —*
*Наша матухна-карміліца руплівая.*

*Наша вёска, наша вёсачка-матулечка,*
*Ты ўсіх сваёй пяшчотаю атульваеш.*
*Працавітая, увішная, лагодная,*
*Ты жыві заўсёды, вёска наша родная!*

*Наша любая, святая працаўніца,*
*Ты была заўжды руплівіцай нястомнаю.*
*За цябе і за людзей тваіх маліцца*
*Буду, вёсачка-матулечка, штодзённа я.*

*Наша вёска, наша вёсачка-матулечка,*
*Ты ўсіх сваёй пяшчотаю атульваеш.*
*Працавітая, увішная, лагодная,*
*Ты жыві заўсёды, вёска наша родная!*
*Працавітая, гасцінная, лагодная,*
*Ты жыві ў шчасці, вёска наша родная!*

### Там, у дзяцінстве…

*Там — рэчка яшчэ не зямлелая*
*І буйная квецень лугоў…*
*Не бегла, здаецца, — ляцела я*
*Да хараства таго*
*Па палявой сцяжынцы*
*Між каласення жытоў…*
*Вось бы вярнуцца ў дзяцінства*
*Хоць на хвіліначку зноў!*
*У тую вясну пявучую,*
*Летнюю бесклапотнасць,*
*У школьным званком абуджаную*
*Ранюю цуда-восень,*
*У зімкі сумёты шчодрыя*
*З гэткімі ж маразамі…*

*Тыя малюнкі, той водар мне*
*Ноч толькі дорыць снамі.*



Фота Кастуся Дробава



Міхась Пазнякоў

### БЛІСКАВІНКІ

*Край маленства — найадзіны!*
*Зараслі мае сцяжыны...*
*Сэрца поўнае трывогі:*
*Раптам знікнуць і дарогі...*

* * *

*Прыснілася: падаю ў бездань...*
*Прачнуўся і ўспомніў радзіму...*
*Прысніў я такое, каб ведаў,*
*Як многа я дома пакінуў.*

* * *

*Шчасце — і праз сотні кіламетраў*
*Лютаю марознаю зімой*
*Адчуваць яднанне нашых сэрцаў,*
*Сагравацца ўсмешкаю тваёй.*

* * *

*Так кахаць! — Балюча, невымоўна...*
*І астыць! Навошта? Божа мой...*
*На душы павеяла ўсё роўна*
*Сівернай, сцюдзёнаю зімой.*

* * *

*Узнёслае ў сэрцы пяшчотным*
*Знішчаецца ўмомант хлуснёй,*
*І той гэта робіць, каго ты*
*Узвысіў усёю душой.*

* * *

*Чым больш жыву, тым болей*
*Адценняў набывае свет,*
*І прыбывае ў сэрцы болю,*
*І заварожвае сусвет.*

* * *

*А сэнс жыцця зямнога*
*У тым, каб тут, відаць,*
*Ачысціцца ад злога*
*І дабрынёю стаць.*

* * *

*А годна жыць —*
*Штодня служыць*
*Айчыне, людзям, слову,*
*Каб ні на момант не згубіць*
*Жыццёвай існасці аснову.*

* * *

*Калі цябе ізноў сустрэў,*
*То скрозь зямлю гатоў быў праваліцца.*
*Я так табой перахварэў,*
*Што сто гадоў душы не ўскаласіцца.*

* * *

*Клічуць зноў дарогі ў далі.*
*Зноў мне зоркі падказалі,*
*Што з нас кожны на прыкмеце,*
*Не дарэмны ў гэтым свеце.*
*І пакуль жывём, якраз*
*Дзесьці там чакаюць нас.*

* * *

*Забываем, забываем*
*Аб саромнасці, любві...*
*Прывыкаем, прывыкаем*
*Да нахабства і крыві...*

* * *

*Як не стае нам велічы і згоды...*
*О, час! Дарэшты ўсё не руш!*
*Хоць вельмі шмат паўсюль народу,*
*Ды малавата светлых душ.*

* * *

*Вымярайце сябе не гадамі,*
*Не багаццем, што вы набылі,*
*А любоўю, што рухае намі,*
*Чысцінёю душы і зямлі.*

* * *

*Ухіляемся часта ад бою,*
*Каб выгоды якой не згубіць...*
*І калі ж мы самімі сабою*
*Будзем верыць, змагацца, любіць?*



Валянціна Пабягайла

### Лірычныя вершы будаўніка

**Ведаю Валянціну Пабягайлу, бадай, ці не з часоў юнацтва, калі працаваў у ляхавіцкай раённай газеце і, бываючы на будаўнічых пляцоўках, часта сустракаў там гэтую мілавідную і строгую, як здавалася, жанчыну — вядомага ў Ляхавічах інжынера-будаўніка. Тады, у сухіх газетных інтэрв'ю, яна і слова не сказала, што любіць паэзію і сама піша вершы. Толькі нядаўна ў рукі мне патрапіў ліст-прызнанне Валянціны Іванаўны: "Люблю сваю родную мову, хоць нарадзілася ў Мінску і вучылася ў рускай школе, падпісваюся і пастаянна чытаю "ЛіМ", таму і дасылаю вам свае вершы". Да гэтага застаецца дадаць, што ў Ляхавічы Валянціна Пабягайла прыехала пасля заканчэння Беларускага палітэхнічнага інстытута, займала высокія інжынерныя пасады ў розных будаўнічых арганізацыях, цяпер — інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама.**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

## ПАМІЖ ВЯСНОЙ І ВОСЕННЮ

### Дрэвы

*Зайздрошчу дрэвам, да якіх штогод*
*Іх маладосць вяртаецца вясною,*
*І ў садзе белым яблынь карагод*
*Зноў вабіць незвычайнаю красою.*

*А мне на скроні выпаў першы снег,*
*Бывае, сэрца холадам сціскае,*
*Ды толькі мой шчаслівы, звонкі смех*
*Навек застаўся там, за небакраем.*

### Родная мова

*Беларуская родная мова,*
*І прыгожая, і пявучая!*
*Яе шчырыя, звонкія словы*
*Майму сэрцу — як травы гаючыя.*

*У блакіце куляецца бусел,*
*Ветрык воблакі з раніцы гушкае.*
*Беларуская ў Беларусі*
*Мова журыцца папялушкаю.*

*Я ж хачу яе ўбачыць прынцэсаю,*
*Паважанаю і любімаю, —*
*Сэрбразвоннай каб неслася песняю*
*Над маёй белакрылай Радзімаю.*

### Беларусачкі

*Беларусачкі — красуні.*
*Працавітыя, што пчолкі.*
*У сукеначках квяцістых*
*Нібы зорачкі-вясёлкі.*

*Іх шануйце кожным раннем,*
*А не толькі калі свята,*
*Дык напоўняцца каханнем*
*І багаццем вашы хаты.*

### Вера і вернасць

*Што будзе жыць шчаслівa і бясконца —*
*У маладосці верыць чалавек,*
*Калі каханне — яркае, як сонца,*
*А вернасць і адданасць — дык навек.*

*Бывае, сябра, што заўсёды з вамі,*
*У цяжкі час знікае, быццам дым.*
*Каханне, не палітае слязамі,*
*Было б, напэўна, прэсным і сухім.*

*І ўсё ж якое шчасце жыць на свеце.*
*Сагрэтым сонцам, ласкай у мароз,*
*Убачыць маладосць сваю у дзецях*
*І быць удзячным за няпросты лёс.*

### Чаканне

*Вясна як чароўная фея:*
*Знікаюць і смутак, і стома.*
*Успыхнула ў сэрцы надзея —*
*Чакаю, а што — невядома.*

*Ад сну абудзіліся пчолы.*
*У вуллях гудуць безупынку,*
*А гоман дзіцячы вясёлы*
*У даўняе кінуў сцяжынку.*

*Вясна, і чаго я чакаю.*
*Здаецца ж, усё адбылося?*
*Таму я, напэўна, такая,*
*Што ў сэрцы вясна, а не восень.*

# Пераклад без “халтуры”

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**Госць “Кніжнага свету” — перакладчык мастацкай літаратуры з французскай мовы Ігар Найдзенкаў. Перастворанымі па-руску Ігарам Васільевічам, ужо пабачылі свет каля дзесяці раманаў і больш як сто апавяданняў франкамоўных аўтараў. Наш карэспандэнт сустрэўся з перакладчыкам, каб пагутарыць пра цяжкасці інтэрпрэтацыі французскіх рэалій для ўспрымання беларускага чытача, перспектывы існавання і развіцця перакладной літаратуры, актуальныя кірункі перакладчыцкай дзейнасці.**



**— Ігар Васільевіч, якім крытэрыям павінна адпавядаць кніга, каб вы ўзяліся за яе пераклад?**

— Перш за ўсё трэба, каб кніга мне спадабалася. Улічваю і агульны сюжэт, наколькі ён можа быць цікавым для чытача. Напрыклад, у №№ 1—2 часопіса “Нёман” за 2010 год апублікаваны пераклад рамана, у якім ідзе гаворка пра Другую сусветную вайну з пункту гледжання француза. Дастаткова незвычайная кніга, якая паказвае нязвыклы беларусу погляд на падзеі гэтай вайны. Яшчэ адзін перакладзены мною раман апублікаваны ў №№ 1—2 “Нёмана” 2011 года. Яго аўтар — Рэнэ Баржавель, цяпер у Францыі ён лічыцца класікам. Твор гэты прысвечаны праблеме наркаманіі. У ім настолькі жудасна паказаны лёс наркамана, і раман настолькі моцна ўплывае на чытача, што, думаю, калі малады чалавек спачатку пачытае Баржавеля, а потым яму прапануюць наркотык, — ён адмовіцца. Увогуле, стараюся французскую мову, якую вельмі люблю, зрабіць больш папулярнай сярод беларусаў.

**— Перакладная літаратура, каб стаць часткай культуры мовы, на якую перакладаецца, павінна ўвайсці ў агульны культурны кантэкст літаратуры “рэцыпіента”, стаць зразумелай чытачам. Як гэтага разумення (поўнага ці частковага) можна дасягнуць у выпадку перакладу з французскай?**

— Калі перакладаю, абавязкова думаю, як паказаць французскую культуру зразумелым для беларусаў шляхам. Калі ў Расіі ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. французская мова для вышэйшых слаёў грамадства была ледзь не бліжэй, чым родная, то Беларусі з-за асаблівасцей яе гістарычнага развіцця больш зразумелая і блізкая польская культура. Таму і сёння расіяне ўспрымаюць Францыю інакш, чым беларусы. Для нас французы ў многім падаюцца чужымі. Патлумачыць рэаліі іншай культуры беларускаму чытачу, перадаць моўныя асаблівасці вельмі складана. Некаторыя паняцці тут і там інтэрпрэтуюцца па-рознаму. Вельмі часта даводзіцца, трымаючы на “задворках памяці” з’явы нашай культуры, суадносіць з імі рэаліі культуры французскай так, каб яны сталі зразумелымі нашаму чытачу. Увогуле, гэта адна з асноўных цяжкасцей перакладу з замежнай мовы.

**— Ці адрозніваюцца французскія творы, што вы чытаеце і перакладаеце, ад беларускіх? Якія тэмы хвалююць сучасных франкамоўных аўтараў?**

— Французскія аўтары пішуць пра ўсё. У іх кожны месяц выходзяць сотні раманаў рознай тэматыкі. У мазгах аўтараў няма “ўнутраных цэнзараў”, і таму часта чым болей скандальная тэма, тым болей аўтар можа разлічваць на тое, што кніга лёгка разыдзецца. Франкамоўная літаратура вельмі блізкая да таго, што можна назваць “сусветнай літаратурай”: па-французску пішуць многія аўтары з розных краін — Тахар Бен Джэлун (Марока), Сэмюэль Бэкет (Англія), Мірча Эліадэ (Румынія), Даніель Фернандэс (мексіканец паводле паходжання) Ясміна Хадра (Алжыр), Мілан Кундэра (Чэхія), Андрэй Макін (Расія), многія пісьменнікі ў В’етнаме, Канадзе, Малі, іншых краінах. А гэта дадае цяжкасцей: да прыкладу, каб перакладаць раман мараканскага аўтара, трэба ведаць рэаліі жыцця ў Марока. Часта, перакладаючы, даводзіцца браць на сябе вялікую адказнасць “інтэрпрэтатара”, бо ў многіх творах усё вельмі складана і неадназначна. Часам даводзіцца крыху адыходзіць ад аўтарскага тэксту і прыстасоўваць яго да разумення нашага чытача.

**— Чым адметны светапогляд французскага аўтара у параўнанні са светапоглядам яго беларускага калегі?**

— Падаецца, што беларусы яшчэ не прывыклі лічыць сябе незалежнай, свабоднай нацыяй. А французы даўно ўжо гэта ўсвядомілі. Таму заўсёды маюць вельмі шырокі погляд на свет, тэму, асобна ўзятае пытанне. Яны разглядаюць кожную праблему ў масе варыянтаў, маюць доступ да матэрыялаў самых розных краін. Кожны француз можа пазнаёміцца з літаратурай Гаіці, Алжыра, Туніса, В’етнама, Марока, Малі — краін, у якіх французская мова не так даўно была дзяржаўнай, дзе і сёння выдаецца шмат літаратуры па-французску. Любы чалавек, калі захоча гэтае пытанне для сябе асвятліць, мае доступ да агромністага аб’ёму матэрыялаў. А мы, калі і маем яго з дапамогай Інтэрнэта, не можам асвоіць з-за няведання замежнай мовы.

**— Адчуваеце цікавасць беларускага чытача да твораў французскай літаратуры?**

— Сёння чытач сур’ёзнай літаратурай у цэлым цікавіцца намнога менш, чым раней. У нашага пакалення было па меншай меры прэстыжна ставіць на паліцы зборы твораў класікаў — Пушкіна, Чэхава, Талстога, Гюго, Дзікенса і іншых пісьменнікаў. Цяпер жа вельмі папулярны лёгкі жанр, тое, што ў французаў называецца паралітаратурай: дэтэктывы, дамскія раманы, фантастыка, прыгоды... Такіх кніг стала выдавацца намнога больш і вельмі значнымі накладамі. А сур’ёзная літаратура рэдка калі выйдзе накладам 5 тысяч асобнікаў. Як тут можна сказаць, што яна будзе шырока вядома чытачу? І таму гаварыць пра цікавасць беларускага чытача менавіта да французскай літаратуры наўрад ці магчыма.

**— Ведаю, што вы цікавіцеся фантастыкай — французскай, канадскай, італьянскай...**

— Так, фантастыку я люблю, маю шэраг апублікаваных артыкулаў і перакладаў па гэтай тэматыцы. У ліку фантастычных твораў, хоць яны і лічацца легкадумнымі, ёсць і сапраўдныя кнігі. Сёння і беларускія выдаўцы па фантастыку пачынаюць звяртаць увагу. Да таго ж, у нас нямала добрых пісьменнікаў-фантастаў — Яўген Дрозд, Сяргей Булыга, Наталія Новаш, Юрый Брайдэр і Мікалай Чадовіч. А вось перакладной фантастыкі ў нас мала. Калі не лічыць чатырох анталогій, што пабачылі свет у 1986—1991 гг., складзеных Г. Ануфрыевым, У. Цвятковым, С. Саладоўнікавым, то і ўспамінаць асабліва няма чаго, хіба што такія зборнікі, як “Садок для роздумаў”, “Ружа для Эклезіяста” і “Канчатковы адказ”. Гэтая літаратура менш залежваецца на паліцах, чым больш сур’ёзная. Думаецца, што часопіс “Сусветная літаратура” ў нейкай меры не карыстаўся такой папулярнасцю, як мог бы, бо яго выдавалі для элітарнага чытача. Мне здавалася, што часам трэба перакладаць і друкаваць літаратуру больш даступную для шараговага чытача. Не абавязкова дрэнную. Простая — не значыць дрэнная. Да прыкладу, ёсць французскі аўтар Шарль Эксбрая, які напісаў каля 150 дэтэктыўных раманаў. Яны лёгка чытаюцца, маюць захапляльны, дынамічны сюжэт. І ў той жа час у гэтых кнігах няма “халтуры”. Падзеі кожнага новага рамана адбываюцца ў новай краіне. Ён піша пра Італію, Іспанію, Расію, заўважае дэталі, якія дазваляюць убачыць сітуацыю, у якой адбываецца дзеянне. У Беларусі былі падрыхтаваны да выдання некалькі яго раманаў, але выйшаў, здаецца, толькі адзін. Я лічу, што Эксбраю можна было б працягваць выдаваць у нас. У цэлым жа многа добрых пісьменнікаў, у тым ліку і фантастаў, чые кнігі сур’ёзныя, разумныя, імі, думаецца, можна было б зацікавіць беларускага чытача.

## *Прэзентацыя*

# Лiскіны хітрыкі і іншыя гісторыі



Вольга ПАЛОМЦАВА

Скажаце, вы ведаеце тузін казак пра Хітрую Лісу? Упэўнена, гэтыя вам таксама прыйдуцца даспадобы. У кнізе А. Якімовіча “Хітрая Ліса”, якую аздобіў забаўнымі малюнкамі Уладзімір Пашчацей і выпусціла ў свет “Народная асвета”, рудая гераіня аб’явіла сябе не больш не менш як гаспадыняй Сонца. З новымі памагатымі — Сабакам ды Папугаем абклала Ліса лясных жыхароў данінаю. І каб не параіліся з Сонцам птушкі, як ад такой “гаспадыні” пазбавіцца, марны быў бы лёс жыхароў ляснога царства.

Запомняцца чытачам і казкі пра ледзяныя зярняткі, і пра братоў з незвычайнымі імёнамі Вайна і Мір, якія па-рознаму разумелі шчасце, і чароўная казка пра Сякеру, Пілку, селяніна Данілу, Ведзьмака і Чорныя Моцы. Завітаюць чытачы ў мядзведжыя сны і падслухаюць размову падручнікаў у школьнай бібліятэцы, пашукаюць з Чалавекам зніклую Усмешку — бо як жа жыць, калі радавацца няздольны?

Пацешацца і маленькія, і дарослыя з Вароны, якой захацелася стаць чырванавата-рыжай, як Каршун Чырвоны. Дапамог ёй знаёмы кот Васіль, выкупаў у гаспадынінай місцы з фарбай для валасоў. Ды толькі радасць была нядоўгай. Напалоханыя птушкі прынялі Варону за Каршуна і ледзь не задзяўблі “красуню”. Кот Васіль да самага вечара за комінам ад смеху заходзіўся, падглядзеўшы, як Вароне давялося цэлы дзень у рэчцы адмывацца.

Увайшлі ў кніжку не толькі казкі — на яе старонках разам з героямі апавяданняў даведаецца чытач, каму на самай справе належыць добрае сэрца (“Хто самы добры?”), усміхнецца намаганням Вовы заслужыць добрую адзнаку ў змаганні са свавольніцамі-літарамі ў вучнёўскім сшытку (“Тройка”) і прыемнаму сюрпрызу, які атрымаў малы Алесь (“Падзяка”), падумае, ці мела рацыю Насця з апавядання “Піяніна”.

## *У падтрымку чытання*



### Бард Алесь Камоцкі:

# Рабле замест падручнікаў

— Я навучыўся чытаць у пяцігадовым узросце. У дзяцінстве настолькі многа чытаў, што нават цяжка вылучыць самае-самае. І творы Джэка Лондана мне падабаліся, асабліва “Марцін Ідэн”, з другога боку — захапляўся Рабле. Прачытаўшы Рабле, можна ўжо больш не чытаць ніякіх падручнікаў па паліталогіі і да т.п.

У апошні час аддаю перавагу электронным кнігам. Што сёння перад вачыма? Кніга Рыгора Барадуліна, з якім мы шмат гадоў плённа супрацоўнічаем, — “Толькі б яўрэі былі!..” Творы “Эстэтычная тэорыя” Т. Адорна, “Балты” М. Гімбутаса, “Найстаражытнейшая Русь. Сварог і Сварогавы ўнукі” А. Цюняева, “Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа”. А таксама В. Рыжкоў “Дзверы, замкнёныя на ключы” і папулярны ў інтэрнэт-прасторы Слава Сэ “Сантэхнік, яго кот, жонка і іншыя падрабязнасці”.

Запісала Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

# Практычнасць, сучаснасць і асобасная скіраванасць




**Калі меркаваць па змесце вучэбных праграм і адпаведных дапаможнікаў, факультатыўныя заняткі па беларускай літаратуры ў 7 і 8 класах маюць адбывацца паводле традыцыйнай схемы: чытанне твораў, іх аналіз, засваенне пэўнага набору тэарэтыка-літаратурных паняццяў. Затое для вучняў 10—11 класаў падрыхтаваны абсалютна нетыповыя, найзахапляльныя курсы, якія даюць магчымасць не толькі прыгадаць азначэнне алітэрацыі і экспазіцыі, але і даведацца пра самыя розныя рэчы — ад правілаў цытавання да этапаў падрыхтоўкі навуковага даследавання, што вельмі спатрэбіцца будучым студэнтам і спецыялістам-гуманітарыям. Дзякуючы практычнай скіраванасці курсаў (вучні будуць пісаць водгукі, рэцэнзіі, эсэ, навукова-даследчыя работы) школьнікі самастойна звернуцца да праблем тэорыі і гісторыі літаратуры. А як вядома, самастойна здабытая інфармацыя запамінаецца найлепш!**

Алеся ЛАПІЦКАЯ

Дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў 10 класа “Пад ветразем спасціжэння і творчасці” падрыхтаваны Мікалаем Грынько і Аленай Руцкай. Паводле новай праграмы сучасныя школьнікі замест таго, каб па прыкладзе бацькоў і дзядуль пісаць сачыненні, пазнаёмяцца з жанрам эсэ, які мае сваю гісторыю і сваіх прыхільнікаў з шэрагу класікаў сусветнай літаратуры. У дапаможніку для вучняў змешчаны эсэ розных відаў, а таксама асноўныя патрабаванні да стварэння тэкстаў гэтага жанру. Безумоўна, праца над эсэ навучыць школьнікаў выказвацца лагічна, прыгожа, паслядоўна, дапаможа вызначыцца з уласнымі зацікаўленнямі.

Калі з напісаннем эсэ давядзецца сутыкнуцца амаль усім будучым студэнтам, то стварэнне водгуку і рэцэнзіі мае больш вузкую, спецыялізаваную мэту — у першую чаргу, развіццё ў школьнікаў уменняў успрымання мастацкага тэксту. Праўда, здольнасць адгукацца і сцісла рэцэнзаваць патрэбна не толькі крытыкам, але і ўсім маладым карыстальнікам Інтэрнэта. Выдатна, што вучні нарэшце атрымаюць канкрэтныя парады да напісання творчых прац азначаных жанраў, пазнаёмяцца з узорамі водгукаў на кароткія мастацкія творы, якія не трэба шукаць у бібліятэках, бо іх тэксты змешчаны на старонках гэтага ж дапаможніка. Добра, што між рэцэнзій ёсць цікавыя тэксты, прысвечаныя творам, якія яскрава вывучаліся ў дзясятым класе, — апавяданню “Літоўскі хутарок” М. Гарэцкага і спектаклю паводле рамана І. Мележа “Людзі на балоце”. А вось прыклады з раздзела, прысвечанага мове мастацкага твора, маглі б быць падабраныя з больш сучасных тэкстаў, чым творы Янкі Купалы і М. Багдановіча: радкі арыгінальных вершаў сённяшніх паэтаў маглі б выклікаць у вучняў цікавасць да сучаснай беларускай паэзіі.

Дапаможнік для 11 класа (аўтары Ірына Гоўзіч і Ірына Шаўлякова-Барзенка) карысны для школьнікаў тым, што знаёміць з рэчамі, якія вельмі спатрэбяцца ў блізкім студэнцтве незалежна ад абранай спецыяльнасці (не ўсе ж наведвальнікі факультатыва звяжуць лёс менавіта з літаратурай!). З гэтай нагоды невялічкая танная кніжачка можа спатрэбіцца нават студэнтам першых курсаў ВНУ: з яе чытач даведаецца пра этапы даследчай дзейнасці, адрозненні між дакладам і рэфератам, патрабаванні да афармлення навукова-даследчых работ. І да таго ж атрымае безліч практычных парад! Спатрэбіцца вучням і кароткі даведнік па тэорыі літаратуры, у якім змешчаны кароткія азначэнні больш як васьмідзесяці асноўных літаратуразнаўчых тэрмінаў.

На працягу года адзінаццацікласнікі маюць рыхтаваць уласныя навукова-даследчыя праекты, якія павінны быць прэзентаваны на заключнай навукова-практычнай канферэнцыі. Прапануюцца і іншыя формы працы — ад стварэння цыкла гутарак пра праблемы мастацтва да распрацоўкі сайта, прысвечанага сучбелліту. Варта думаць, сучасныя формы працы знойдуць сваіх прыхільнікаў як сярод вучняў, так і сярод настаўнікаў.

Ці былі запатрабаваныя выдадзеныя дапаможнікі ў мінулым 2010 — 2011 навучальным годзе? Паводле дадзеных Нацыянальнага інстытута адукацыі, правядзенне факультатываў у сталічных школах практычна не арганізаванае. Больш запатрабаваныя заняткі такога кшталту ў вобласці — факультатывы па беларускай літаратуры праводзіліся ў гімназіях Жодзіна і Чэрвеня, сярэдняй школе № 1 г. Заслаўя і сярэдняй школе № 2 г. Узды. Разам з тым, дапаможнікі для 9 — 11 класаў карыстаюцца папулярнасцю ў школьнікаў на звычайных уроках літаратуры і падчас падрыхтоўкі да алімпіяды. Звяртаюцца да дапаможнікаў і першакурснікі ВНУ, якія вывучаюць беларускую мову і літаратуру.

*Да ведама*

# Вартыя любові імёны

**Ці здаралася вам разважаць, а мо нават спрачацца з блізкімі людзьмі з-за выбару імён для сваіх дзяцей? Бываюць сітуацыі, калі і ў ЗАГСе альбо нават у царкве ці касцёле вам раяць даць немаўляці тое ці іншае імя… І заўсёды пачынаюцца складанасці з прыняццем рашэння. Часам толькі інтуітыўна маладыя бацькі разумеюць, што ад таго, як яны будуць звяртацца да свайго родненькага дзіцяці, залежыць яго будучыня. Што ў такім разе можа спрыяць правільнаму выбару імя? Канечне ж, веды: што азначаюць імёны самага рознага паходжання. Як мне асабіста падаецца, некаторую падказку можа даць і наступная кніга. Пра яе і хацелася б расказаць.**




**Усціновіч, А. К. Слоўнік асабовых уласных імён / А. К. Усціновіч; навук. рэд. А. А. Лукашанец. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 240 с.**

Максім ПРЫТЫКА

Гэта — “Слоўнік асабовых уласных імён” Анны Усціновіч. У прадмове да кнігі член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Лукашанец зазначае: “Уласныя імёны складаюць вельмі важную і разам з тым вельмі спецыфічную частку слоўнікавага складу любой мовы, у тым ліку і беларускай”. І далей: “Уласнае імя перадаецца ў спадчыну дзецям, паколькі ў пасведчанні аб нараджэнні ўказваюцца імёны бацькі і маці. Імя бацькі перадаецца асобе і ў выглядзе імя па бацьку, якое разам з уласным іменем і прозвішчам выступае абавязковай часткай сучаснай трохкампанентнай формулы афіцыйнага найменне асобы”.

У слоўніку пададзена інфармацыя пра ўсе імёны, якія існуюць у прасторы беларускай мовы. У лаканічных мовазнаўчых артыкулах гаворыцца пра іх паходжанне, падаецца іх значэнне. Напрыклад, цікава даведацца, што Амалія азначае працавітасць, Аманда — вартая любові, Аманцій — той, які любіць. Слоўнік задаволіць усіх аматараў даваць сваім дзецям экзатычныя, малавядомыя імёны, дапаможа вызначыць, што значыць тое ці іншае імя. Карысным будзе выданне і для работнікаў пашпартных сталоў і кадравых служб, ЗАГСаў, натарыяльных кантор, юрыдычных кансультацый, якія са слоўнікам А. Усціновіч ніколі не перапблытаюць, як правільна пісаць розныя імёны. Ды і ўвогуле, хіба не кожнаму з нас важна ведаць асабліваці свайго нацыянальнага іменніка?

Яшчэ нядаўна рэдка калі давалі імёны кшталту Вітаўт, Рагнеда, Стафанія (дарэчы, па-беларуску ўсё ж правільна Стафанія, а не Стэфанія). А між тым гэта вельмі цікавыя імёны. Стафанія, напрыклад, азначае “вянок”. А Рагнеда — імя старажытнагерманскага паходжання. Яно складаецца з дзвюх частак: “парада” і “бітва”. Вітаўт — таксама старажытнагерманскае імя, якое значыць “гнаць люд”. Цяпер гэтыя імёны ўжываюцца нашмат часцей, чым пятнаццаць-дваццаць гадоў таму. І гэта добра, бо яны адносяцца да сістэмы традыцыйных хрысціянскіх імён і звязаны з гісторыяй і культурай беларускага народа.

Слоўнік А. К. Усціновіч — не толькі нарматыўны даведнік, але і займальнае чытанне ў сям’і, кніга-падказка да свят, звязаных з днём нараджэння сябра, блізкага чалавека. Просты ў карыстанні, лаканічны ў пераказе гісторый паходжання іменаў, слоўнік варты іншых мастацкіх твораў. Дарэчы, зазірнуць на старонкі сапраўды ўнікальнага выдання не лішнім было б і для многіх пісьменнікаў.

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Перад пачаткам новага навучальнага года ААТ “Белкніга” сумесна з выдавецтвам “Кузьма” абвясцілі акцыю “Хатняе заданне з падарункам!”. Паводле ўмоў акцыі, набываючы тры кнігі з серыі “Хатняе заданне” выдавецтва “Кузьма”, пакупнік гарантавана атрымлівае падарунак. Акцыя доўжыцца да 15 верасня ў крамах сеткі ААТ “Белкніга”.

▬ У магазіне “Кніжны свет” ААТ “Белкніга” (г. Жодзіна) прайшла дабрачынная акцыя “Сям’я дапамагае сям’і: збяром дзяцей у школу”. Адным з яе ініцыятараў выступіў аддзел ідэалагічнай работы Жодзінскага гарвыканкама. Набываючы дзецям усё неабходнае да школьнага сезона, пакупнікі адразу ж у магазіне маглі пакінуць адну ці некалькі з толькі што купленых рэчаў на спецыяльным сталe, прызначаным для збору дабрачынных падарункаў.

● Кніга амерыканскага пісьменніка Стыва Хіларда “Ліхалессе: Раман пра Дж. Р. Р. Толкіна” (*Mirkwood: A Novel About JRR Tolkien*) будзе экранізавана Галівудам. “Ліхалессе” — выдуманая гісторыя, што далёка не ва ўсім адпавядае сапраўднай біяграфіі Толкіна. Але пры гэтым гледачы даведаюцца шмат малавядомых фактаў з біяграфіі Толкіна, як, напрыклад, яго планы стаць дэшыфравальнікам падчас Другой сусветнай вайны. Прыхільнікаў Толкіна чакае таксама экранізацыя аповесці “Хобіт”. Першая частка фільма выйдзе на экраны ў 2012 годзе.

▬ Букінгемскі ўніверсітэт (Вялікабрытанія) запусціў праект алічбоўкі часопіса *All the Year Round* (“Круглы год”), прымеркаваны да двухсотгоддзя з дня нараджэння яго заснавальніка, выдаўца і рэдактара Чарльза Дыкенса. Двухсотгадовы юбілей пісьменніка будзе адзначацца 7 лютага 2012 года. Да гэтага часу плануецца змясціць у сетцы Інтэрнэт поўны архіў выдання, што на працягу дваццаці год было ўлюбёным чытвом лонданцаў віктарыянскай эпохі. На старонках часопіса публікаваліся не толькі маляўнічыя рэпартажы пра падзеі дня, журналісцкія расследаванні, падарожныя нататкі, навукова-папулярныя, гістарычныя, палітычныя каментары, але таксама фрагменты твораў самога Чарльза Дыкенса і іншых брытанскіх пісьменнікаў, якія ў будучыні стануць класікамі сусветнай літаратуры.

● 17 жніўня распачаўся прыём работ на другі сезон нацыянальнага конкурсу на лепшы літаратурны твор для падлеткаў “Кнігуру”. Сярод пераможцаў мінулага сезона тры беларускія аўтары. На конкурс прымаюцца празаічныя творы, напісаныя па-руску, — як мастацкія, так і навукова-папулярныя. Мінімальны аб’ём тэксту — 2 аўтарскія аркушы, максімальны — 10 аркушаў. Конкурс не ўсталёўвае абмежаванняў па ўзросце і месцы жыхарства суіскальнікаў. На першым этапе рукапісы і кнігі прачытае экспертны савет, у які ўвайшлі вядомыя крытыкі, журналісты, бібліятэкары, пісьменнікі. Пераможцаў жа выбера адкрытае журы, у якое ўвойдуць толькі падлеткі 10—16 год.

▬ Бібліятэка Кангрэса ЗША вызначыла паэта-лаўрэата 2011 года. Ім стаў 83-гадовы Філіп Левін, які праславіўся гімнамі працоўнаму класу Дэтройта. Пра гэта паведамляе The New York Times. Філіп Левін — аўтар больш як 20 зборнікаў вершаў і лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі 1995 года за кнігу *The Simple Truth* (“Простая праўда”). Ужо шмат гадоў асноўныя тэмы творчасці Левіна як гарадскога паэта застаюцца нязменнымі, з часам робячыся ўсё больш празрыстымі і простымі.

# Что можно назвать классикой?

Денис МАРТИНОВИЧ,
Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**Какие книги считаются детской классикой? Пожалуй, те, которые могут быть названы образцовыми, показательными произведениями, которые задают канон для своего жанра. Представляем читателям “Кніжнага свету” классические шедевры русской и зарубежной детской литературы, вышедшие в ООО “Харвест”.**




## Капиталистический Незнайка

Детский писатель **Николай Носов** на протяжении двадцати лет являлся режиссёром-постановщиком мультипликационных, научно-популярных и учебных фильмов. Но наибольшую известность ему принесли литературные произведения. По словам самого писателя, в литературу он пришёл случайно: родился сын, и нужно было рассказывать ему всё новые и новые сказки, забавные рассказы для него и его приятелей-дошкольников. Как писали исследователи творчества Н. Носова, он “ввёл в детскую литературу нового героя — наивного и здравомыслящего, озорного и любознательного непоседу, одержимого жаждой деятельности и постоянно попадающего в необычные, зачастую комические ситуации”. Как вы уже догадались, речь пойдёт о Незнайке.




Первым произведением, посвящённым этому герою, стала сказка “Винтик, Шпунтик и пылесос”. В дальнейшем Незнайка появился в знаменитой трилогии, включающей романы-сказки “Приключения Незнайки и его друзей”, “Незнайка в Солнечном городе” и **“Незнайка на Луне”**.

Написанный в середине 1960-х годов, роман-сказка задумывался как сатира на капиталистическое общество того времени. Тем не менее, в ней простым языком описываются такие экономические явления, как торговля ценными бумагами, функционирование акционерных обществ, влияние рекламы на людей и многие другие явления, которые вошли в обиход в начале 1990-х годов.




## “Принёс заметку про вашего мальчика”

Писатель **Эдуард Успенский**, как и Н. Носов, вовсе не собирался писать для детей. Инженер по образованию, он зарабатывал на жизнь тем, что создавал сценарии для мультфильмов. А потом увлёкся юмористическими рассказами. Но поскольку большинство из них не пропускала советская цензура, писатель ушёл в детскую литературу. В 1974 году вышла книга “Дядя Фёдор, пёс и кот”, которая стала началом знаменитого цикла. Главным героем был шестилетний мальчик, которого звали Дядей Фёдором за то, что он был очень самостоятельным. После того, как родители запретили ему оставить в квартире говорящего кота Матроскина, Дядя Фёдор ушёл из дома. Вместе с Матроскиным и псом Шариком они поселились в деревне Простоквашино. Нашли клад, благодаря чему купили трактор, работающий на супе и картошке. Впоследствии Успенский написал ряд книг, которые рассказывали о приключениях героев, полюбившихся читателям. Одной из них стали **“Неприятности в Простоквашино”**. В ней рассказывается о том, как в деревню из красноярских краёв вернулся хозяин домика, где жили герои, поселился вместе с ними. Сумел ли дядя Фёдор перевоспитать этого воришку и хулигана?




## “Кто с доброй сказкой входит в дом?”

Отдельным читателям **Алексей Николаевич Толстой** известен как третий писатель Толстой: после Льва Николаевича и Алексея Константиновича. Для многих он остаётся автором исторического романа “Пётр I”, трилогии “Хождение по мукам” и фантастического романа “Гиперболоид инженера Гарина”. Но для детей он — замечательный сказочник, написавший повесть-сказку “Золотой ключик, или Приключения Буратино”.




Первоначально Толстой хотел издать в своей литературной обработке повесть Карло Коллоди “Приключения Пиноккио. История деревянной куклы”. Но позднее увлёкся оригинальной идеей и создал собственную интерпретацию истории.

Сказка была неоднократно переиздана и переведена на многие языки мира. На основе сюжета создавали пьесы, оперу и даже балет. Культовым фильмом стали “Приключения Буратино”, снятые Леонидом Нечаевым на “Беларусьфильме”.

“Золотой ключик” А. Толстого — редкий пример того, как произведение, созданное на основе другого (то есть фактически ремейк), иногда может встать вровень с первоисточником, а в чём-то даже превзойти его.

## Сказки от Бианки

“Мы с сынишкой собрались в лес по грибы. И только свернули тропой с просёлочной дороги, — навстречу нам из лесу собака Клеопарда. Злющая — чистый волк. Сынишка был впереди меня. Он хотел кинуться назад, ко мне, но я успел крикнуть ему:

— Только не беги! Иди, как шёл.

Ускорив шаг, я поравнялся с сынишкой и взял его за руку. Ни ружья, ни палок у нас с собой не было: одни простые корзинки. Обороняться было нечем. А Клеопарда была уже в нескольких шагах от нас. Или мы ей дорогу должны были уступить, или она нам: тропа была узкая, а по сторонам — грязь”. Так начинается рассказ **Виталия Бианки** “Бешеный бельчонок”.

Сын учёного-энтомолога Бианки с детства был с природой на ты. Отец брал сына на охоту и прогулки, показывал ему каждую птицу и зверя. Но главное — научил Виталия записывать свои наблюдения. Одной из таких книг стали **“Сказки о природе”**, рекомендованные для чтения детям.

## Где взять свободное время

Вы полагаете, только вам некогда? У мамы тигрёнка Бинки времени было куда меньше вашего! Тигрёнок появился на свет, когда она была занята выпечкой сладкого пирога. Тигрица так усердно раскатывала тесто, что мука и сахарная пудра летали по всей кухне. Мельком глянула, что сынок родился без полосок, сказала: “Ну ничего, мы всё равно будем любить тебя” и продолжила своё занятие. Но Бинки-то знал, что тиграм полагается быть полосатыми, и отправился к тем, кто мог бы одолжить ему парочку. Кончилось всё прекрасно, как и положено в сказке: Бинки облизала зебра, и полоски обнаружились. По этой забавной сказке был снят прекрасный мультфильм. Издательство “Харвест” предлагает маленьким читателям эту и другие истории, придуманные **Дональдом Биссетом,** в книгах **“Маленькие сказки для маленьких”, “Сказки про тигрёнка Бинки, поросёнка Икара, дракончика Эндрью и других”, “Пойду-ка поищу чего-нибудь вкусненького”**.

Дональд Биссет — английский детский писатель, художник, киноактёр и театральный режиссёр. Родился 3 августа 1910 года в Брентфорде, Мидлсекс, Англия. Умер 18 августа 1995 года в Лондоне.

Переводчица его сказок на русский язык Н. Шерешевская говорит: “Биссет создал мир коротких сказок, не только воплотил свои задумки в двух прославивших его книгах — “Забытый день рождения” и “Путешествие по реке Времени”, — но и осуществил телепостановки из лучших своих сказок. Биссет ещё и художник — сам оформлял свои книги. Также он отличился как изобретательный театральный режиссёр, сам поставил свои сказки на сцене Королевского Шекспировского театра в Стрэтфорде-на-Эвоне и даже сыграл в них с десяток небольших ролей. Он придумал и поселил в Африке зверя, которому никогда не бывает скучно: одна половина его состоит из Обаятельнейшего Кота, а другая — из Находчивого Крокодила. Зовут зверя Крококот. Любимый друг Дональда Биссета — тигрёнок Рррр, вместе с которым Дональд Биссет любит путешествовать по реке времени до конца Радуги. И так умеет шевелить мозгами, что его мысли шуршат. Главные враги Дональда Биссета и Тигрёнка Рррр — Вреднюги с именами Нельзя, Несмей и Стыдись”.

Вы с удовольствием подружитесь с лошадкой Реджи и собачкой Блэки, которые мечтают о славе, совёнком Джо, вынужденным отправиться к бабушке на время, когда дочка начальника станции в Пэддигтоне моет крышу своего дома и совы, которые живут на крыше, часто падают вниз, потому что крыша делается скользкая, паровозом Шервудом, который испачкал вареньем рельсы и не мог сдвинуться с места, умницей Мэри, которая отбила у орла Дэвида охоту угоститься её овечкой, памятником генералу Нельсону и мальчиком, который рычал на тигров.

Позабавит вас и история о Рыбке, которая хотела достать с неба красную шапочку. Вместе с кошкой Мурр удивитесь, когда за ней погонятся мыши в сказке “Всё кувырком”. Прогуляетесь по Антарктике с пингвинчиком Джо и поплаваете в Карибском море с черепашкой Джен, приспособите вместе с храброй девочкой Сьюзи дракона Комодо для зажигания уличных фонарей.

С удовольствием прочитаете, как поросёнок учился летать, а носорог перестал падать с кровати (если бы не добрая фея, кто бы догадался, что причина падений кроется в крошках от шоколадных печений, сотню которых он съедает прямо в кровати перед сном).

Наверняка вы полюбите слонёнка Ялмара, который в шесть лет встретился со своим забытым днём рождения, охотно прогуляетесь с муравьём Томасом по буфету тётушки Люси и познакомитесь с коровой Аннабель, которая спасла корабль от крушения. Она с радостью продемонстрирует вам серебряную медаль от капитана корабля, на которой это написано.

На прогулке можно будет поискать в траве, нет ли случайно в наших широтах кузнечика Денди, который признавал только большие прыжки, и улитки Оливии, обладательницы очень доброго сердца. А вечером так уместна будет сказка про тигрёнка, любившего принимать ванну.

Сказки Дональда Биссета можно слушать бесконечно. В серии “Планета детства” их оформил художник Б. Тржемецкий, книгу “Сказки про тигрёнка Бинки, поросёнка Икара, дракончика Эндрью и других” проиллюстрировала Елена Селиванова. А когда дети сами научатся читать, у вас появится свободное время. Ведь где оставил ребёнка с книжкой Дональда Биссета, там его и найдёшь. Наконец-то можно заняться приготовлением пирога!

# Манжэтка: як апрануць кнігу з густам

**Ці бачылі вы калі-небудзь бандэроль ці манжэтку? “Канечне, шмат разоў!” — адкажа большасць з вас. Бандэроль — нешта кшталту пасылкі, а крухмальныя манжэткі на дзявочых сукенках усе добра памятаюць яшчэ са школы. Аднак у адпаведнасці з тэрміналогіяй Гандлёвых стандартаў (ГСТ) Расіі, манжэтка (бандэроль, пояс, паясок, рэкламны паясок) — гэта палоска паперы, склееная ў выглядзе кола і надзетая на выданне. Манжэтка звычайна мае шырыню пяць-дзесяць сантыметраў і займае каля трэці вышыні кнігі. Бандэроль нясе рэкламную і эстэтычную нагрузку, а ў кнігагандлі таксама выступае доказам, што выданнем не карысталіся: пры парушэнні цэласнасці манжэткі кнігу нельга вярнуць на аптовую базу.**

**Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ,**
**Пекін**

## Раздражніць апетыт чытачоў!

У Кітаі гісторыя кніжных манжэтак пачалася ў 1990-я гады са з’яўленнем на рынку японскіх падручнікаў са стратэгіямі паспяховага маркетынгу ў галіне кнігавыдання. “Мэта манжэткі на кнізе — раздражніць апетыт чытачоў”. Гэта выказванне Ікары Харуа, аўтара выдання “Як прадаць мільён экзэмпляраў: сто спосабаў зрабіць кнігу бестселерам”, стала сапраўднай мантрай для кітайскіх кнігавыдаўцоў.

Манжэтка як элемент вонкавага афармлення кнігі дапаўняе дызайн вокладкі. Таму ў краіне, дзе штодзень выходзіць больш як сем соцень новых кніг, каб прыцягнуць




увагу патэнцыяльных пакупнікоў, выдавец не можа не выкарыстаць плошчу манжэткі (хоць яна і невялікая) на сваю карысць.

У інтэрв’ю газеце “Сінь цзінбао” спецыяліст па сувязях з грамадскасцю адной з буйнейшых прыватных выдавецкіх кампаній Кітая “Бо цзі цянь цзюань чубань гунсы” расказала пра вопыт іх выдавецтва: кнігі з манжэткамі прадаюцца значна лепей, таму цяпер усе кнігі “Бо цзі цянь цзюань чубань гунсы” выходзяць у свет з рэкламнымі паяскамі. Яшчэ адзін прыклад маркетынгавай эфектыўнасці манжэткі можна знайсці ў артыкуле, што быў надрукаваны ў газеце “Цзіньжы цзаобао (Ханчжоу)”. Адна з кніг адукацыйнага характару з’явілася на паліцах кнігарні без рэкламнага пояска і попытам у пакупнікоў не карысталася. Выдавецтва забрала ўвесь наклад і праз некаторы час зноў пусціла той жа падручнік у продаж, але на гэты раз аздоблены манжэткай. У выніку попыт на кнігу значна павялічыўся. У іншай інтэрнэт-публікацыі распавядаецца пра маці, якая прыйшла ў кнігарню купіць дзіцяці вучэбны дапаможнік. Тэкст на манжэтцы дапамог зарыентавацца сярод мноства аднолькавых выданняў. У выніку яна абрала дапаможнік, на якім было пазначана: “Рэктары ста ВНУ краіны ў адзін голас рэкамендуюць”, і патлумачыла выбар тым, што кніга, рэкамендаваная кіраўнікамі ўніверсітэтаў, не можа быць дрэннай.

Пры падрыхтоўцы макета кнігі манжэтка — апошняе, на што звяртае ўвагу дызайнер, але на ўзроўні адказнага рэдактара нязменна дзейнічае прынцып “Ніводнай кнігі без манжэткі!”. Таму каля дзевяноста працэнтаў выданняў у кнігарнях суправаджаюцца паяскамі, а тэксты на іх усё больш квяцістыя і нерэалістычныя.

## “Ненавіджу рэкламны паясок!”

“Як чалавека, які любіць чытаць і паводле дзейнасці мае дачыненне да кніг, мяне гадзіць ад пустазвонства, вонкавай прыгожасці і перабольшванняў аж да хлусні, што ўсё часцей назіраюцца ў кніжнай справе, — патлумачыў нам лідар інтэрнэт-суполкі “Ненавіджу рэкламны паясок”, якая з’явілася ў маі 2009 года на кітайскім сайце Доубань. — Нягледзячы на назву аб’яднання, супраць манжэтак як з’явы я нічога не маю, непрыхільнасць выклікаюць кепскія і ілжывыя надпісы на рэкламных паясках”.

У 2009 годзе выйшла кніга Юй Цююя “Спасцігаць навуку з Юй Цююем”. Юй Цююй — значная фігура ў культурным і навуковым жыцці сучаснага Кітая. Некалькі год таму ён вёў перадачу “Час Юй Цююя” на тэлеканале “Фэнхуан вэйшы”, дзе распавядаў пра асаблівасці кітайскага менталітэту, розніцу паміж заходняй і ўсходняй культурамі. Кніга “Спасцігаць навуку з Юй Цююем” стала працягам тэлеперадачы, у ёй аўтар апублікаваў высновы, зробленыя падчас падрыхтоўкі да эфіраў. Але шырокі рэзананс выклікаў не столькі змест кнігі, колькі тэкст і малюнак на манжэтцы. На рэкламным пояску было напісана: “У старажытнасці тры тысячы вучняў “Вялі гутаркі і слухалі меркаванні”* Канфуцыя, сёння студэнты Пекінскага ўніверсітэта “Спасцігаюць навуку” з Юй Цююем”. Параўнанне Юй Цююя з вялікім кітайскім мысляром выклікала ў чытачоў зразумелае абурэнне і зрабіла манжэтку кнігі “Спасцігаць навуку з Юй Цююем” папулярнай тэмай для размоў.

На рэкламным паяску рамана-прызёра прэміі часопіса “Жэньмінь вэньсюэ” “Адно слова лепш за тысячу слоў” Лю Чжэньюня чытаем: “Сто год адзіноты па-кітайску”. У адказ на такі дызайн пояска Лю Чжэньюнь адзначыў, што згоду на тэкст даў таму, што не вельмі разумее асаблівасці выдавецкай справы. Але прымаючы пад увагу негатыўную рэакцыю чытачоў, пры перавыданні рамана не жадае, каб “Адно слова больш за тысячу слоў” на манжэтцы параўноўвалася з шэдэўрам Габрыэля Гарсія Маркеса.

## Знакамітасць з вокладкі

Акрамя скаргаў на бессаромныя перабольшванні барацьбіты за якасць тэкстаў на манжэтках таксама ставяць пад сумненне мэтазгоднасць вялікай колькасці спасылак на вядомых людзей, якія рэкамендуюць тое ці іншае выданне. У артыкуле газеты “Цзіньжы цзаобао (Ханчжоу)” літаратурны крытык Ся Ле прыводзіць прыклад трох катэгорый знакамітасцей, чые імёны можна сустрэць на рэкламных паясках. Да першай адносяцца тыя, хто ўважліва прачытаў твор і затым выказаў сваё меркаванне. На жаль, такіх сумленных рэцэнзентаў не так і шмат. Каб зразумець, чаму другая катэгорыя вядомых людзей дае згоду на ўжыванне іх імёнаў на манжэтцы, трэба згадаць некаторыя асаблівасці са-




цыяльных адносін у кітайскім грамадстве. Кітайцы вераць, што адмовіцца выканаць просьбу — значыць прынізіць суразмоўцу, згубіць твар. І калі знаёмы ці знаёмы знаёмага просіць дапамагчы і пахваліць кнігу, знакамітасці застаецца толькі пагадзіцца. Ся Ле згадвае ў артыкуле славутага эканаміста. На просьбу выдавецтва зрабіць рэцэнзію ён адказаў: “Вы самі што-небудзь напішыце, і добра”. Што да трэцяй катэгорыі знакамітасцей, іх імёны змяшчаюцца на рэкламных паясках без іх дазволу. Сярод нячыстых на руку выдаўцоў значным попытам карыстаецца імя вядомага літаратурнага крытыка і пісьменніка Лян Вэндао. Яму нават мянушку далі адпаведную – “Прынц манжэтак”.

## Маркетынг кажа “Так!”

Нягледзячы на актыўную крытыку, манжэтка — маркетынгавы інструмент, які забяспечвае патэнцыяльную магчымасць прыцягнуць увагу чытачоў і, як вынік, дапамагае хутчэй прадаць выданне. Да самой жа кнігі паясок мае дастаткова ўскоснае дачыненне. “Я б, канечне, не пагадзіўся ўставіць гэтыя словы [рэкламны тэкст] у твор, але, змешчаныя на манжэтцы, на змест рамана яны ніяк не ўплываюць. Усё роўна, як зазывала запрашае пакаштаваць страву: калі і перахваліць, смак стравы гэта не сапсуе”, — адзначыў аўтар рамана “Адно слова лепш за тысячу слоў” Лю Чжэньюнь.

Прафесійна зробленая манжэтка пакідае добрае ўражанне. Галоўнае — ведаць мяжу і не скаціцца на пустаслоўе. Так, у маёй любімай пекінскай кнігарні “Ваньшэн шуюань” на паліцы рускай перакладной літаратуры побач з вершамі Аляксандра Пушкіна знайшла кнігу Аксаны Робскі “Casual”. Згадзіцеся, мастацкая вартасць твора дастаткова сумнiўная, але манжэтка на выданні — удалы прыклад рэкламнага тэксту, напісанага з густам: “Паўбіяграфічны раман пра жыццё новых рускіх. Расійскі бестселер 2005 года”. Проста і інфарматыўна.

---

*Спасылка на знакаміты твор Канфуцыя “Гутаркі і меркаванні”.

***На здымках: манжэтка рамана Аксаны Робскі “Casual”: “Паўбіяграфічны раман пра жыццё новых рускіх. Расійскі бестселер 2005 года”; манжэтка на кнізе “Падарожжы з Герадотам” Рышарда Капусцінскага: “Рышард Капусцінскі. Лаўрэат 50 польскіх і замежных літаратурных узнагарод. 6 разоў намініраваны на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. На працягу пяці год у Лацінскай Амерыцы было чатыры замахі на яго жыццё, 40 разоў яго бралі ў заложнікі. Прайшоў праз 27 рэвалюцый і дзяржаўных пераваротаў у Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы. Ён пакінуў больш як дваццаць кніг і незлічонае мноства ўнікальных фотаздымкаў. Яго асноўныя творы былі перакладзены на 30 моў. Прызнаны адным з самых уплывовых пісьменнікаў XX ст.”***




### Кнігарня «Далеч», г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Міхась Лынькоў. Міколка-паравоз. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009.
2. Алесь Бадак, Раіса Баравікова, Алесь Наварыч. Адзінокі васьмікласнікхоча пазнаёміцца. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009.
*Аповесць Алеся Бадака “Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца” прысвечана праблеме няпростых адносін паміж старшакласнікам і маладой настаўніцай, якія ў выніку прывялі да трагедыі. Вельмі выразна гучыць ключавая думка твора: перад тым як штосьці зрабіць, заўжды неабходна падумаць пра магчымыя вынікі ўчынку… Жыццё — не чарнавік, які можна перапісаць. Пра далікатныя пачуцці расказваецца і ў аповесці Раісы Баравіковай “Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 “Б” = [каханне]”, але гэта пачуцці ўжо іншага кшталту. Прышэльцы з іншасвету знаходзяць у дзяўчыне Насці Кропку вяртання... У аповесці Алеся Наварыча “Пакланюся Перуну, памалюся Вялесу...” манах, закансерваваны ў дупле з мёдам, ажывае і праз тысячу гадоў з’яўляецца ў нашым часе.*
3. Зборнік гістарычнай беларускай прозы. — Мінск: Беларусь, 2010.
4. Беларускія народныя казкі. — Мінск: Харвест, 2011.
5. Александр Локотко и др. Туристическая мозаика Беларуси. — Минск: Беларуская навука, 2010.
6. Жемчужины мысли. — Минск: Современная школа, 2010.
7. Вадим Деружинский. Тайны белорусской истории. — Минск: ФУАинформ, 2011.
8. Антон Чехов. Вишнёвый сад. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010.
9. Л. И. Зуборев. Возлюбленные Максима Горького. — Минск: МФЦП, 2008.
10. Математика: решение задач с подробными объяснениями. 6 класс. — Минск: Кузьма, 2011.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Анатолий Рыбаков. Дети Арбата. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.
2. Габриэль Гарсия Маркес. Любовь во время чумы. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
3. Всё о зверятах. Полная хрестоматия для младших школьников. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.
4. Царевна-лягушка. По мотивам русской народной сказки. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.
5. Лууле Виилма. Главная книга о счастье и благополучии. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.
6. Майя Гогулан. Попрощайтесь с болезнями. — Санкт-Петербург: Вектор, 2010.
7. Борис Болотов. Программа здорового питания академика Болотова. — Санкт-Петербург: Питер, 2011.
8. Е. А. Бойко. Рукоделие. Полная энциклопедия. — Москва: АСТ, 2010.
9. П. Траннуа. Настольная книга садовода и огородника. — Москва: АСТ, 2007.
10. Люси Пэйнтер. Декупаж, солёное тесто, лоскутное шитьё, папье-маше, декоративное стекло и многое другое. Полная энциклопедия рукоделия. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.

**Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 33.**

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «Барк». ОДО | 246050, Гомель, пр. Ленина, 3, к. 312а | 400084989 | 0549485 выд. 14.05.2009 №56 | 3, 8, 9, 10 | 14.05.2014 |
| «Друк-С», ОДО | 220102, Минск, ул. Ангарская, 2, к. 3 | 190276474 | 0549463 выд. 14.05.2009 №56 | 3, 4, 8 | 14.05.2014 |
| «Веды», ЗАО | 220028, Минск, ул. Маяковского, 129а, к. 109 | 100664948 | 0549486 выд. 14.05.2009 №56 | 2, 3, 4, 8 | 14.05.2014 |
| «Инфофорум», ООО | 220007, Минск, ул. Володько, 20, к. 29, 30 | 190330076 | 0548554 выд. 26.06.2009 №8.2 | 8, 9 | 26.06.2014 |
| «Белсэнс», ООО | 220029, Минск, ул. Чичерина, 19, оф. 006 | 100825195 | 0548536 выд. 26.06.2009 №8.2 | 2, 3, 4, 8 | 26.06.2014 |
| «Авестийская школа астрологии», культурно-просветительное ЧУП | 220037, Минск, ул. Багратиона, 58, п. 33, 34 | 190771441 | 0548542 выд. 26.06.2009 №8.2 | 3, 8, 9 | 26.06.2014 |
| «Удобные покупки», ООО | 220073, Минск, 1-ый Загородный пер. 3, к. 210, 22 | 191116171 | 0552990 выд. 26.06.2009 №8.2 | 8, 9 | 26.06.2014 |
| «ПРОПИЛЕИ», ЗАО | 220123, Минск, ул. Старовиленская, 131, к. 17 | 100707040 | 0548552 выд. 26.06.2009 №8.2 | 2, 3, 8, 10 | 26.06.2014 |
| «Редакция газеты «Гомельская праўда», КУП | 246003, Гомель, ул. Полесская. 17а | 400058871 | 0548559 выд. 26.06.2009 №8.2 | 3, 4, 8, 9, 10 | 26.06.2014 |
| «Научно-практический центр НАНБ по механизации сельского хозяйства», РУП | 220049, Минск, ул. Кнорина, 1, к. 17 | 100230575 | 0548563 выд. 26.06.2009 №8.2 | 2, 4, 8 | 26.06.2014 |
| «Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке Полоцкой епархии Белорусской Православной Церкви», РО | 211407, Полоцк, ул. Евфросинии Полоцкой, 89 | 300330190 | 0548564 выд. 26.06.2009 №8.2 | 3, 12 | 26.06.2014 |
| «Полоцкий государственный университет», УО | 211440, Полоцк, ул. Блохина, 29 | 300220696 | 0548568 выд. 26.06.2009 №8.2 | 2, 3, 4, 6, 8 | 26.06.2014 |
| «Стройэконорм», ЗАО | 220099, Минск, ул. Казинца, 6, к. 309 | 190174476 | 0548570 выд. 26.06.2009 №8.2 | 8, 9 | 26.06.2014 |
| «Редакция бюллетеня «Стройка», РИ ЧУП | 220141, Минск, пр. Независимости, 168, к.. 2, п. 11Н | 101558969 | 0548573 выд. 9.07.2009 №78 | 8 | 9.07.2014 |
| «Ковчег», ООО | 220072, Минск, пр. Ф. Скорины, 68-19 | 100022376 | 0548599 выд. 9.07.2009 №78 | 2, 3, 4, 8, 9, 10 | 9.07.2014 |
| «Евразийский центр развития интеллектуальных ресурсов», ООО | 220028, Минск, ул. Маяковского, 127, к. 2, к. 417 | 690342639 | 0548574 выд. 9.07.2009 №78 | 2 | 9.07.2014 |
| «Полифакт», ООО | 220012, Минск, пер. Калинина, 12, к. 206 | 100435907 | 0552509 выд. 9.07.2009 №78 | 2, 3, 4, 8, 10 | 9.07.2014 |
| «Белорусский дорожный НИИ «БелдорНИИ», дочернее РУП | 220073, Минск, 4-ый Загородный пер., 60 | 190893882 | 0548575 выд. 9.07.2009 №78 | 2, 8 | 9.07.2014 |
| «Белкартография», РУП | 220029, Минск, пр. Машерова, 17, литер А 7/к, к. 412 | 190024351 | 0548551 выд. 9.06.2009 №8.2 | 1, 2, 3, 4, 6, 8, 9 | 26.06.2014 |
| «Институт «Белжилпроект», НИ проектно-изыскательское РУП | 220004, Минск, ул. Кальварийская, 17, к. 217 | 100048299 | 0548578 выд. 9.07.2009 №78 | 1, 2, 4 | 9.07.2014 |
| «ТоргПрессАналитик», ООО | 220085, Минск, ул. Притыцкого, 62, к. 4, оф. 411 | 191236288 | 0548577 ан. 08.06.2010 № 90 | 4 | |
| «ЛарХо», ЧИУП | 220136, Минск, ул. Скрипникова, 48, кв. 90 | 191104853 | 0548576 выд. 9.07.2009 №78 | 10 | 9.07.2014 |
| «Тэхналогія», НП кооператив | 220007, Минск, ул. Левкова, 19, к. 19а | 100008965 | 055216 выд. 9.07.2009 №78 | 2, 3, 4, 6, 8, 10 | 9.07.2014 |
| Пунько П.И., ИП | 220112, Минск, ул. Я. Лучины, 4, кв. 204 | 100745456 | 0552510 выд. 9.07.2009 №78 | 4, 8 | 9.07.2014 |
| Кузнецова Н.В., ИП | 220086, Минск, ул. Калиновского, 48, к. 2, кв. 266 | 191019055 | 0552503 выд. 9.07.2009 №78 | | 9.07.2014 |
| Чернушевич А.Б., ИП | 220123, Минск, ул. Кропоткина, 112, кв. 72 | 191100184 | 0548600 выд. 9.07.2009 №78 | 8 | 9.07.2014 |
| «Лазурак», ООО | 220036, Минск, ул. Р. Люксембург, 143, оф. 5а | 100409723 | 0548544 выд. 26.06.2009 №8.2 | 2, 3, 4, 8, 9, 10 | 26.06.2014 |
| «Белфаксиздатгрупп», ИТ дочернее ЧУП | 220030, Минск, ул. Мясникова, 70, оф. 621, п. 18 | 100896378 | 0552926 выд. 9.07.2009 №78 | 3, 8, 9, 10 | 9.07.2014 |
| «Белорусский государственный университет физической культуры», УО | 220020, Минск, пр. Победителей, 105 | 100007545 | 0548582 выд. 9.07.2009 №78 | 2, 3, 4, 6, 8, 9 | 9.07.2014 |
| «Полисфер», ООО | 220030, Минск, ул. Комсомольская, 11, к. 206 | 101486739 | 0548541 выд. 26.06.2009 №8.2 | | 26.06.2014 |
| «Техностройконтроль», ООО | 220068, Минск, ул. Л. Карастояновой, 32, п. 14, к. 19 | 100007545 | 0548553 выд. 26.06.2009 №8.2 | 4 | 26.06.2014 |
| «Мэджик», ООО | 220033, Минск, ул. Рыбалко, 9-30 | 101486739 | 0552969 выд. 9.07.2009 №78 | 4, 8, 9 | 9.07.2014 |

# Внесение изменений в сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 16 мая 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Выдана лицензия на осуществление полиграфической деятельности сроком на пять лет частному производственному унитарному придприятию «Гомельобои» | | | | | |
| ЧУП «Гомельобои» | г. Гомель, ул. Севастопольская, д. 45 | 810001080 | 02330/409, выд. 02.08.2011 №133 | 02.08.2016 | за исключением газет |
| Внесено изменение в лицензию на полиграфическую деятельность, выданную открытому акционерному обществу «Управляющая компания холдинга "Белорусские обои"» в связи с изменением юридического адреса | | | | | |
| ОАО «Управляющая компания холдинга «Белорусские обои» | г. Добруш, пр-т Луначарского, д. 4/2 | 100063724 | 02330/170 выд. от 02.02.2010 №10, вн. изм. 04.03.2011 №34, 14.05.2011 №87, 02.08.2011 №133 | 02.02.2015 | за исключением газет |
| Внесено изменение в лицензию на полиграфическую деятельность, выданную открытому акционерному обществу «НТС —полиграфия» в связи с изменением юридического адреса | | | | | |
| СООО «НТС-полиграфия» | 247000, Гомельская обл., г. Речица, ул. Луначарского, 97-2 | 490850326 | 02330/402 выд. 03.01.2011 №1, вн. изм. 02.08.2011 №133 | 03.01.2016 | за исключением периодических изданий |
| Прекращено действие лицензии на полиграфическую деятельность, выданной обществу с ограниченной ответственностью «АН-Принт» на основании его письменного уведомления о прекращении осуществления им полиграфической деятельности | | | | | |
| ООО «АН-ПРИНТ» | г. Минск, ул. Вильямса, д. 45, комн. 25 | 101520416 | 02330/0494103 выд. 29.03.2004 №71, прод.11.03.2009 №29 | 29.03.2014 | за исключением газет |

Унікальны праект

# Ад Арцімовіча — да Янушкевіча



**У апошнія гады ў сталіцы і малых гарадах Беларусі з'яўляецца ўсё больш помнікаў, паркавай і гарадской скульптуры, якія арганічна ўпісваюцца ў архітэктурна-ландшафтнае асяроддзе, дапамагаюць пераадолець безаблічнасць гарадской прасторы. Розныя па тэматыцы і стылістыцы работы, выкананыя як знакамітымі майстрамі, так і маладымі мастакамі, прыўносяць у будзённасць і хуткаплыннасць сучаснага жыцця запамінальныя акцэнты і сустрэчы з сапраўдным мастацтвам.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Новае выданне, якое ў хуткім часе ўбачыць свет у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", — фотаальбом "Сучасная беларуская скульптура. XXI стагоддзе" — пазнаёміць чытачоў з новымі творамі вядомых скульптараў, прэзентуе новыя імёны, пакажа разнастайнасць і разнапланавасць сучаснага айчыннага мастацтва, перапляценне традыцый і наватарства, з'яўленне новых тэм і форм.

Дарэчы, гэта другі альбом з серыі "Сучаснае беларускае мастацтва". Першым быў "Сучасны беларускі жывапіс. XXI стагоддзе", што выйшаў у мінулым годзе і сабраў прыхільныя водгукі. У прыватнасці, сёлета ён атрымаў дыплом наміната прэміі "ART-кніга" на VIII міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД. "Зразумела, — адзначае аўтар-складальнік Кацярына Аксёнава, — прысутнічалі і заўвагі да выдання. У любым выпадку, такая рэакцыя стала сведчаннем таго, што альбом не пакінуў нікога абыякавым. А значыцца, стымуляваў далейшую працу".

У "Сучаснай беларускай скульптуры. XXI стагоддзе" прадстаўлена каля 100 твораў розных пакаленняў, якія працуюць у манументальнай, станковай, мемарыяльнай і паркавай пластыцы. Іх адбор ажыццяўляўся гэткім жа чынам, што і пры падрыхтоўцы папярэдняга выдання. Спярша кандыдатуры прапаноўваліся на ўзроўні секцыі скульптараў, што дзейнічае ў складзе Саюза беларускіх мастакоў. А потым адбіраліся сумесна з супрацоўнікамі выдавецтва. Прычым кожны скульптар выступіў у якасці крытыка ўласных мастацкіх здабыткаў, паколькі мог адабраць для альбома творы на ўласны густ.

Альбом суправаджаецца ўступным артыкулам, напісаным Наталляй Шаранговіч, мастацтвазнаўцам, дырэктарам Беларускага музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Далей у выданні прадстаўлены біяграфіі і творы скульптараў. Гэта Анатоль Арцімовіч і Генадзь Буралкін, Мікалай Байрачны і Сяргей Бандарэнка, Святлана Гарбунова і Аляксандр Дранец, Леў і Сяргей Гумілеўскія, Іван Міско і Канстанцін Селіханаў, Уладзімір Слабодчыкаў і Аляксандр Фінскі, Аляксандр Шатэрнік і Валяр'ян Янушкевіч, а таксама шэраг іншых творцаў. Асобны раздзел складаюць помнікі, з якімі звязаныя народныя прыкметы. Напрыклад, калі дакрануцца да ланцужка на шыі бабра, героя аднайменнай кампазіцыі (скульптар Уладзімір Гаўрыленка), пашанцуе ў азартных гульнях. Скульптура "Ліхтаршчык", створаная Аляксандрам Чумаковым у Брэсце, стала месцам рамантычных сустрэч закаханых. А полацкая літара "Ў" (скульптар Аляксандр Фінскі) — проста напамін пра адметнасць беларускай мовы.

Тэкст, аўтарам якога, нагадаю, выступіла К. Аксёнава, прадстаўлены адразу на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. Арыгінальнай "разынкай" кнігі стала ўключэнне ў звесткі пра творцаў іх персанальных сайтаў і адрасоў электроннай пошты. Цяпер патэнцыяльны глядач, пакупнік, а можа нават і мецэнат, зможа лёгка звязацца з героем альбома.

Прэзентацыяй выдання "Сучаснай беларускай скульптуры. XXI стагоддзе", якая запланавана на верасень 2011 года, серыя не заканчваецца. Наадварот, яна набывае новы імпульс. У бліжэйшых планах "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі" — выданне чарговага альбома, які мае рабочую назву "Сучаснае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. XXI стагоддзе", дзе будуць прадстаўлены кераміка, вырабы са шкла, габелены… У далейшым плануецца распрацоўка асобных кніг, прысвечаных графіцы, плакату, манументальнаму мастацтву.

Але вернемся да "Сучаснай беларускай скульптуры". У чым бачыцца значэнне гэтага альбома? Пагодзімся з яго стваральнікамі: на прыкладзе прац амаль 100 творцаў "паказана багацце сучаснай беларускай скульптуры, яе стылёвая разнастайнасць, шматпланавасць пластычнай мовы і імкненне да новай вобразнай выразнасці".

"Але ці не стануць асобныя дэталі зразумелыя толькі спецыялістам?" — спытае скептык. Якраз наадварот: альбом створаны не толькі для іх, але і для таго, каб задаволіць мастацкія патрэбы шараговых аматараў скульптуры. Таму ўпэўнены, што "Сучасная беларуская скульптура. XXI стагоддзе" годна прадставіць беларускае мастацтва ў нашай рэспубліцы і за межамі краіны, а таксама стане крыніцай натхнення, уяўлення і ўзнёслага настрою чытачоў.



*На здымках: скульптуры "Бабёр" (скульптар Уладзімір Гаўрыленка), г. Бабруйск Магілёўскай вобл., "Жаба-вандроўніца" (скульптар Уладзімір Панцялееў), г. Гродна — ілюстрацыі з альбома "Сучасная беларуская скульптура. XXI стагоддзе".*

Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА, Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**



**Пазнякоў, М. П. Гульняслоў: гульні з літарамі і словамі / Міхась Пазнякоў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 128 с.**

Гэтая кніга — сапраўдны скарб для настаўнікаў пачатковых класаў, выхавальнікаў, бацькоў, бабуль і дзядуль. "Гульняслоў" — цэлы комплекс гатовых займальных заданняў з літарамі і словамі, гульняў, красвордаў, крыжаванак, пытанняў на кемлівасць, анаграм, шарад, загадак на амонімы і антонімы… Змест усіх заданняў скіраваны на абуджэнне цікавасці да роднай мовы, выяўленне яе багатых магчымасцей.



**Пархута, Я. Сонечныя борці: аповесць, лірычныя навелы / Яраслаў Пархута. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 463 с.**

Серыя "Беларуская проза XX стагоддзя" папоўнілася кнігай "Сонечныя борці" Яраслава Пархуты. У выданне ўкладальнік Юры Пацюпа ўключыў лепшыя творы пісьменніка, які ў сваёй творчасці спалучыў талент публіцыста і краязнаўцы, майстра пейзажу і вытанчанага паэта-імпрэсіяніста. Чытач знойдзе на старонках кнігі дакументальную аповесць пра "палескага рабінзона", які пражыў у пушчы сорак гадоў, і навелы — лірычныя, філасофскія.



**Прылуцкі, І. Ф. Мудрости зачало и конецъ…: драма / Іван Прылуцкі. — Мінск: РІВШ, 2011. — 52 с.**

Драма ў класічным стылі захоўвае кананічнае трыадзінства — месца, час, дзеянне. Вялікае Княства Літоўскае, першая трэць XVI ст. У цэнтры ўвагі аўтара — постаць Францыска Скарыны на фоне гісторыка-культурнага жыцця ВКЛ і ўсёй Еўропы пачатку XVI стагоддзя, у атачэнні такіх дзеячаў Адраджэння, як Марцін Лютэр, Эразм Ратэрдамскі, Франсуа Рабле, Парацэльс і іншых. Але творчая задача вырашаецца Іванам Прылуцкім досыць своеасабліва — у драме сумешчаныя часавыя пласты — XVI і XXI ст. Таму аўтар заклікае рэжысёраў не імкнуцца да поўнай адпаведнасці ў знешнім выглядзе, адзенні, фрызурах герояў, у афармленні сцэны і дэкарацый. Наадварот, анахранізмы будуць больш спрыяць рэалізацыі задумы.



**Шлинк, Б. Три дня / Бернхард Шлинк; пер. с нем. И. Стребловой. — Санкт-Петербург: Издательская Группа "Азбука-классика", 2010. — 256 с.**

Новы раман Бернхарда Шлінка распавядае пра першыя тры дні на волі пажыццёва асуджанага, але памілаванага пасля дваццаці чатырох год зняволення нямецкага тэрарыста, аднаго з лідараў ультралевай экстрэмісцкай арганізацыі "Фракцыя Чырвонай арміі". Першыя дні на волі становяцца нялёгкім выпрабаваннем для Ёрга і яго старых сяброў — былых адзінадумцаў, а цяпер цалкам паспяховых і надзейных грамадзян. Не высветлішы ўсе пытанні і супярэчнасці мінулага, немагчыма будаваць будучыню. А ў мінулым — забойствы, крадзяжы, пастаянная рызыка, фанатычная вера ў ідэю і амаль чвэрць стагоддзя ў турэмнай камеры.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

Маладзічок

# Шэры камячок шчасця



**Андрэй СУЛЬЖЫЦ**

**Існуе меркаванне, што па ўсім свеце людзі дзеляцца на "каштнікаў" і "сабачнікаў". І перад людзьмі, якія вырашылі ўпершыню завесці хатнюю жывёлу, узнікае пытанне — сабака ці кот? Часцей за ўсё кропку ў гэтай справе ставяць дзеці.**

Калі каму-небудзь з бацькоў-"каштнікаў" захочацца схіліць вагі на свой бок, то РВУ "Літаратура і Мастацтва" можа прапанаваць дзейсны метад. Тут пабачыла свет дзіцячая кніга Маі Гарэцкай "Разумніца Пуся (Пра котку і яшчэ трошкі...)".

У кнізе на простай, па-дзіцячы пяшчотнай мове аўтарка распавядае пра сваю шэрую котку Пусю, празваную ў гонар Пусі "вернай" — дацкай коткі, якая праз 6 месяцаў неверагодных падарожжаў знайшла сваю гаспадыню ажно ў Нарвегіі. Прачытаўшы кніжку, вы даведаецеся пра некаторыя цікавыя выпадкі з жыцця Пусі. Як заўважае сама Мая Гарэцкая, выданне дапамажа зразумець, "якая гэта няпростая справа — выхаваць кацяня". Выхаванне — гэта праца. Але ў дадзеным выпадку гэта праца ў задавальненне. Для аўтаркі, напрыклад, найвялікшае шчасце прачнуцца раніцай ад дотыку халоднага носа сваёй любіміцы, пасля чаго яна пачынае смяяцца, і цэлы дзень праходзіць у добрым настроі. Альбо паспрабуйце ўявіць сабе, што Пуся сама адчыняе дзверы ці можа лекаваць сваю гаспадыню ад розных хвароб.

"Разумніца Пуся" дасць магчымасць зразумець, як гэта хораша, калі на свеце ёсць маленькі шэранькі камячок шчасця, які штохвіліны гатовы даваць вам невымерную порцыю сапраўднага кахання.

Дэбют



Святлана Дзянісава

# Сунічкі

**Святлана Дзянісава нарадзілася ў 1972 годзе ў Гродне. Дзяцінства правяла ў бабулінай вёсцы Старыца Капыльскага раёна. Скончыла медыцынскае вучылішча і біялагічны факультэт БДУ. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Женский журнал". У газеце "Літаратура і мастацтва" друкуецца ўпершыню.**

*Сунічкі-сунічкі,*
*Гарлачык невялічкі,*
*Сыпцеся роўна —*
*Тады будзе поўна.*

Сунічкі сыпаліся ў гарлачык, спачатку выкладаючыся на донцы дужкаю, потым — паўмесячыкам. А пасля, калі дно закрывалася, сыпацца яны чамусьці пачыналі марудней. І тады ўжо збіраць іх было не так цікава. Куды цікавей прыпасці тварам да гарлачыка і прагна ўдыхаць у сябе той пах, што паспелі стварыць у ім чырвоныя драбінкі. Але трэба ж збіраць. Зазіраючы пад кожны лісток, то ставячы гарлачык на зямлю, то зноў беручы яго ў рукі ад страху, што вось паваліцца ён нечакана, і ўсе сунічкі перасыплюцца з яго ў траву, і гэта будзе крыўдна. Падштурхоўвала думка-мара: як прынясеш дадому гарлачык з сунічкамі, перасыплеш іх у эмаліраваную міску з ружовымі кветкамі, пасыплеш цукрам, патаўчэш лыжкай, нальеш зверху трохі малака або вяршкоў, возьмеш у рукі мяккі тоўсты блінец, згорнеш яго, як табе падабаецца, — і… То адкусіш яго, а тады заясі лыжкай сунічак, то абмакнеш гэты блінец — так, каб нешта зачарпнулася, а то проста пакладзеш на яго трохі гэтай смакаты і потым ужо адкусіш, разам з ёю.

Сунічак ніколі не было многа, а трэба ж было яшчэ з кім-небудзь падзяліцца. Нават з тымі, хто не збіраў, — абавязкова. І была такая завядзёнка: дзеці, якія не жылі разам з бабулямі, бо іх бацькі мелі асобныя хаты, кожны раз, ідучы з лесу, заходзілі да сваіх бабуль і пакідалі ім хаця б кубачак тых ягад.

Так, не ўсе ў гэтай вёсцы жылі разам з унукамі — маладыя імкнуліся аддзяліцца. Старыца — вёска вялікая. Калісьці, да вайны, яна таксама была вялікая...

* * *

Фашысты прыйшлі сюды амаль адразу, недзе ў канцы чэрвеня. Як прыйшлі, загадалі людзям пакінуць хаты і ўсіх — старых і маладых, жанчын і дзяцей — пагналі да рэчкі…

Цяпер гэта не рэчка, а простая канава з кладкай, прызначанай, бадай, толькі для таго, каб можна было хутчэй трапіць у бальніцу, бо калі ісці да старыцкіх дактароў увесь час па дарозе, дык хвароба паспее недзе падзецца — надта ж доўга абыходзіць рэчку.

Памятаю, як мы, малыя, бегалі праз тую кладку ў сад па яблыкі. Там яны былі зялёныя, кіслыя, нават трохі горкія, але іх чамусьці ўсё роўна хацелася есці, хоць у двары ў бабулі паспявала ўжо белы наліў, салодкі і сопкі.

…Людзі ішлі і не ведалі, што будзе далей. А далей было вось што. Прыехаў да рэчкі фашыст у лакавых ботах. Сказаў, што вёска павінна згарэць у агні, уся, каб ніводнай хаты не засталося. А яны, людзі, павінны сядзець тут, ля рэчкі, і глядзець, як гараць іх хаты. Як гараць яны разам з мэбляй, адзеннем, посудам, ежай. Як гараць разам з хатамі хлеўчукі і дрывотні, як гарыць у хлеўчуках жывёла — куры, свінні, каровы. Сядзець да самага вечара, покуль не згасне апошні вугольчык. Сядзець на ліпеньскай спякоце, не маючы нават і надзеі на тое, каб хоць нечым прыкрыцца ад сонца. Сядзець разам з маленькімі галоднымі дзеткамі, якіх няма чым пакарміць. Людзі на каленях поўзалі каля ног фашысцкага афіцэра, гладзілі яго лакавыя боты, але толькі боты рабіліся яшчэ больш бліскучымі, а надзеі ніякай. Нехта падхапіўся і пабег да вёскі, бо нельга было гэта ўсё трываць, — і атрымаў кулю. Астатнія працягвалі сядзець ля рэчкі…

Калі хвароба не вельмі моцная і ў бальніцу ёсць час шкандыбаць па вуліцы, то можна ўбачыць пры дарозе насып, а на ім — "пушку". Так мы называлі ў дзяцінстве гаўбіцу, пра якую нам дарослыя расказвалі, што яе выкапалі з ілу, калі рабілі возера. Тое самае возера, у якім дзед кожнае лета лавіў карасікаў. Памятаю, як мы любілі іх чысціць. Бабуля варыла з гэтых карасікаў і маладзенькай бульбы цудоўную юшку — з крышанчыкамі морквы, зялёненькай цыбулькай і кропам. Цыбульку, моркву і кроп яна трохі падсмажвала на патэльні з маслам. Патэльня была з чыгуну, спрэс чорная, і звонку і знутры. На ёй бабуля і блінцы пякла таксама. І кожны раз, калі я бачыла ў яе руках або на пліце гэтую патэльню, то ўспамінала тую, якую яна ўжо даўно выкінула, бо патэльня з адбітым бяражком — не вельмі зручная рэч. Пра тую патэльню бабуля расказвала, што яе знайшлі на пажарышчы.

…Людзі змаглі пайсці назад у вёску толькі вечарам, пасля таго, як згас апошні вугольчык. Навошта ісці ў вёску, якой ужо няма? Каб пашукаць на пажарышчы тое, што ў агні не гарыць. Так людзі знайшлі свае патэльні і чыгуны, лыжкі і нажы. А потым яны пайшлі ў свінарнік, які стаяў трохі ад вёскі, і таму яго не кранулі ні фашысцкія запальныя кулі, ні полымя. Свіныя клеткі сталі людзям хатамі — кожнай сям'і па клетцы. Свіней там ужо не было…

* * *

Сунічкі растуць у лесе, вядома. Сунічкі майго дзяцінства раслі на ўскрайку, амаль ля самага поля. І, канечне ж, у крапіве. Без яе, калі сунічак шмат і яны не вельмі дробныя, не абысціся. Апякаючыся крапівою, мы дацягваліся рукамі да самых буйных ягад, а потым вельмі ганарыліся здабычаю. Часам заходзілі і трохі глыбей у лес. Там таксама раслі сунічкі. Іх у Старыцкім лесе было шмат, хоць назбіраць поўныя гарлачыкі нам ніколі, вядома, не ўдавалася. Бо як жа ты назбіраеш столькі тых сунічак, калі табе толькі сем гадоў.

Так, самастойнай у бабулінай вёсцы я сябе памятаю менавіта з гэтага ўзросту. Памятаю, як скончыла першы клас, як купілі мне з гэтай нагоды ружовую сукенку ў белыя бобачкі і як аднойчы з бацькамі доўга ехалі на аўтобусе спачатку ў Мінск, а потым з Мінска ў Старыцу. Памятаю, што ў бабуліну хату мы ўвайшлі позна, калі ўжо сцямнела. Але я яшчэ шмат разоў выбягала з хаты на ганак. Тады я ўпершыню спазнала, як прыемна адчуваць голымі рукамі казытлівае цяпло чэрвеньскага вечара і дыхаць паветрам, якое наскрозь напоена пахам язміну.

— Які добры вечар, — сказаў неяк тата. І дадаў: — А сёння ж 22-е.

— У гэты дзень пачалася вайна, — ціха прамовілі мама і бабуля. Калі скончыла першы клас, я, канечне ж, ужо ведала, што гэта за вайна, якая пачалася 22 чэрвеня. Пройдзе час — і бабуля раскажа мне і пра лакавыя боты, і пра тое, як на яе вачах упаў ад фашысцкай кулі малады хлопец, і пра жыццё ў свінарніку…

* * *

Дзе-нідзе па лесе сустракаліся то ўзвышэнні, то яміны. Мне заўсёды здавалася, што гэта сляды партызанскіх зямлянак. Партызаны ў Старыцкім лесе з'явіліся адразу, як толькі гэта стала магчымым — як толькі ідэя партызанскай барацьбы ўзнікла ў галовах змучаных і таму асабліва смелых людзей. Восенню напярэдадні 25-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі партызаны вырашылі правесці мітынг. На ўскрайку лесу зрабілі нешта накшталт трыбуны, але раптам убачылі, як праз поле да лесу імкнуцца нямецкія танкі. Мітынг перарос у вялікі бой...

Калі на Старыцу насоўваліся прыцемкі, гэта быў якраз той час, калі бабуля даіла ў хляве карову. Мы заўсёды чакалі яе, каб узяць вядро, хуценька аднесці яго ў хату, прыхапіўшы па дарозе цадзілку, што вісела на дроціку пад акном, зняць з шафкі ў кухні трохлітровыя слоікі і працадзіць у іх малако, а потым памыць цадзілку і павесіць яе сушыцца на той самы дроцік пад акном каля ганка. Калі я выходзіла з цадзілкай на ганак, заўсёды адчувала сябе партызанкай, за якой, магчыма, сочаць немцы. Што, калі яны сцішыліся недзе за плотам, ля антонаўкі? Мне, канечне, было страшна. А засынаючы, я думала, як заўтра мы, бабуліны ўнучкі, возьмем гарлачыкі і пойдзем у лес па сунічкі.

...Вядома, што ў тым баі загінулі ўсе. Усе, хто пахаваны ў брацкай магіле каля самага лесу. Яна абгароджана драўляным плотам блакітнага колеру. На ёй, здаецца, і цяпер растуць тыя самыя касачы, якія запомніліся з першага паходу ў лес, па сунічкі. Сярод касачоў стаіць помнік — невысокі блакітны абеліск з чырвонай зорачкай наверсе. На абеліску — прозвішчы і імёны. І дата — 6 лістапада 1942 года.

* * *

Ці раслі сунічкі ў Старыцкім лесе да вайны? Ці ласаваліся імі партызаны? Я не ведаю. Я толькі ведаю, чаму яны — сунічкі.

Пахіленыя ніц, да зямлі, яны — сунічкі. Іх чырвоныя галоўкі сумна апушчаны — у суладдзі з настроем зямлі, на якой ягады выраслі, у суладдзі з часам, калі яны паспяваюць. Іх сутаргавыя рухі пад прыўзнятым рукой лісцем супадаюць з пяшчотным трымценнем душы чалавека, іх звон, калі падаюць яны на дно посуду, сугучны сэрцу. Яны сумуюць. Але і супакойваюць: калі людзі змаглі вытрываць тое, што яны вытрывалі, то ўсё будзе добра. Калі людзі памятаюць пра тое, што яны перажылі, то гэта не паўторыцца.

...Кожны чэрвень у лесе паспяваюць сунічкі.

Дэбют



Таццяна Дземідовіч

# Абразкі

**Таццяна Дземідовіч, 1979 года нараджэння, скончыла БрДУ імя А. С. Пушкіна, працавала журналістам. Кіраўнік літаратурнага клуба пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры. У газеце "Літаратура і мастацтва" друкуецца ўпершыню.**

## Нас пазналі

Чарнагорыя.

— Вы адкуль? — пытаецца гаспадар міні-гатэля.

— Мы — з Беларусі! Дзве тысячы кіламетраў на машыне праехалі! — ганарліва кажу я.

Гаспадар задумліва чухае галаву, глядзіць на сваю жонку. Тая пацiскае плячыма.

— Рускія мы! — не вытрымлівае мой сябра Віктар і ціхенька шыкае на мяне: — Якая розніца…

— А, рускія! — узрадаваўся гаспадар.

— Ды не, не рускія, — адразу абураюся я і сярдзіта штурхаю Віктара. — Мы — беларусы.

І раптам чую:

— Янка Купала…

Узнімаю вочы. На балконе другога паверха стаіць старая жанчына. Хударлявая, маршчыністая, але ў какетлівай курортнай панамцы.

— Краіна азёр ды лясоў… Янка Купала… Я ў школе вывучала, — гаворыць яна. — Беларусы — добрыя людзі… А дзеці мае ўжо не ведаюць…

Віктар адразу пабег да машыны ўзяць падарункі для гаспадароў — беларускія паштоўкі выпадкова засталіся яшчэ з мінулагодняй вандроўкі. А я нарэшце зняла сонечныя акуляры. Было так прыемна, што нас пазналі.

## Чараўніцтва

Мы доўга прабіваліся скрозь снежную сетку завеі. Рукі азяблі, ступні былі мокрымі і халоднымі, што бывае пры надта цесных ботах. І, здаецца, толькі магутныя вартаўнікі-хвоі, апрануўшы белыя цяжкія даспехі, ганарліва пазіралі, як няўмела мы супрацьўляемся зімовай стыхіі. Паход у Белавежскую пушчу відавочна не атрымаўся. А да прыпынку было яшчэ далёка.

"Не дойдзем", — хацела сказаць я і ўжо сабралася паваліцца ў зманлівы мяккі снег. Але раптам мы дагналі старога чалавека. Ён таксама бездапаможным мурашом поўз па дарозе. Але, пачуўшы нашы галасы, спыніўся, пачакаў нас і, неяк вельмі радасна, вымавіў:

— Цяжка?

— Цяжка, — адказала я.

Стары палез у сваю вязаную торбу і дастаў адтуль тэрмас.

— Тады будзем чаяваць! — сказаў ён, наліваючы ў накрыўку тэрмаса гарбату.

Мы ўтрох пераглянуліся.

— Дык бярыце ж! Піце па чарзе, — незнаёмец сунуў мне ў рукі паходную конаўку. — Бяры, бо пакрыўджуся! Усё лета травы збіраў — святаяннік, чабор, ну там, мята… Чароўная гарбата! Сілы дае… Вып'еш і, здаецца, паляцеў бы. Любая завіруха ніпачым….

Мы не адмовіліся. Здымалі вуснамі квітнеючы дух спякотнага лета. З кожным глытком і сапраўды рабілася лягчэй, цяплей, весялей…

— Вось так, — прыгаворваў дзядок. — А пасля будзеце адпачываць дома на канапе і ўспамінаць мой напой.

І мы, канечне, потым неадноўчы ўспаміналі чароўную лясную гарбату. Магічны рэцэпт напою — звычайная чалавечая велікадушнасць.

## Кніга

"Сёння самы неважнецкі падарунак — гэта кніга", — неяк перад калядным святамі прачытала я ў газеце… З тых часоў ні родным, ні сябрам кніг не дарыла.

Але аднойчы, калі мой сын навучыўся добра чытаць, я прынесла з падвала стос дзіцячых кніг. Калісьці суседзі рабілі ў кватэры рамонт і вырашылі пазбавіцца ад непатрэбнага хламу. Так старыя кнігі былі выкінутыя ў наш падвал.

Сын адразу ж узяўся за "Барона Мюнхгаўзена". Зімовым вечарам, згарнуўшыся ў ложку абаранкам, ён чытаў пра прыгоды вялікага хлуса. Смяяўся і спрачаўся з ім, здзіўляўся і сам прыдумляў неверагодныя гісторыі. Мёртвая, пыльная кніга зноў загаварыла, адагрэлася ў дзіцячых руках пасля доўгіх гадоў "зняволення" ў халодным, цёмным падвале.

А потым сын заснуў. Я накрыла яго коўдрай, выцягнула з рук кнігу, пагасіла святло… А калі папраўляла ў кнізе закладку, заўважыла на форзацы надпіс: "Дарагая Ларачка! Віншую цябе з Днём нараджэння… Твая бабуля".

Ларыса — гэта наша былая суседка. Адзінокая мілая жанчына нядаўна памерла ў даволі маладым узросце. І бабулі, якая так любіла яе, таксама ўжо няма... І толькі кніга, як старадаўняя катрынка, па-ранейшаму чаруе сваёй музыкай, сваёй гульнёй, сваім ёмкім словам.

# Дасціпна, дзёрзка, трапна!

**У артыкуле "«Прамяністая» сатыра" (гл. "ЛіМ" за 19.08.2011) мастацтвазнаўцы Людміла Налівайка ды Яўген Шунейка звярнулі ўвагу на мала даследаваны і амаль забыты пласт беларускай выяўленчай творчасці 1920—1930-х гадоў — графіку, якая змяшчалася на старонках аператыўных выданняў і закранала самыя розныя надзённыя праблемы тагачаснага жыцця, ад рэгіянальных да глабальных. Лепшыя з такіх графічных работ сведчылі пра назіральнасць і дасціпнасць, грамадзянскі тэмперамент, шырыню мыслення, дасведчанасць і прафесійнае майстэрства іх аўтараў. Здавалася б, тыя сатырычныя мініяцюры, вясёлыя шаржы, прапагандысцкія малюнкі, звязаныя са зместам газетных і часопісных старонак, даўно ўжо аджылі сваё. Аднак Людміла Налівайка ды Яўген Шунейка сцвярджаюць: "Займаючыся мэтанакіраванымі даследаваннямі, можна ўсё ж знайсці нямала цікавага і прыгадаць тое, за што мы можам быць удзячныя айчыннай карыкатуры." Прапануем увазе чытачоў працяг іх мастацтвазнаўчага агляду.**

***Святлана Берасцень, рэдактар аддзела мастацтваў***



Якуб Колас.

Людміла НАЛІВАЙКА,
Яўген ШУНЕЙКА

У тагачасным выяўленчым мастацтве як таленты з вялікім творчым патэнцыялам вызначыліся М. Пашкевіч і Г. Дакальская. Абое яны былі добра вядомыя як жывапісцы, стваральнікі першых тэматычных карцін. Разам вучыліся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, потым М. Пашкевіч працягваў навучанне ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Цікава, што ў 1930-я гады Г. Дакальская працавала як мастачка газеты "Літаратура і мастацтва". У 1935 годзе на старонках "ЛіМа" былі змешчаны яе сяброўскія шаржы на Андрэя Александровіча і Міхася Клімковіча, якія ва ўяўленні аўтара мелі свае характэрныя творчыя памкненні: быць вядомымі і моднымі! Паэта Валерыя Маракова, паводле шаржу Г. Дакальскай, можна параўнаць толькі з самім Аляксандрам Пушкіным. Ды толькі Маракову аўтар малюнка прапануе іншае месца: зразумела, побач з класікам, але на ўдвая ніжэйшым узроўні, чым статуя вялікага паэта.

Карыкатура М. Пашкевіча "Бацька і сын узялі рамізніка" адгукаецца на нэпаўскі перыяд жыцця горада, дзе можна было за грошы рабіць што заўгодна, хоць вазіць у брычцы самога рамізніка, але заставацца пры гэтым у коле сацыяльных праблем, уласцівых тагачаснаму грамадству.

Звяртаюць на сябе ўвагу карыкатуры А. Заборава (1911 — 1984) на мясцовыя парадкі. Напрыклад, своеасаблівы дыптых "Раёны чакаюць...". Супрацоўнік РВК таўчэцца ля пустога памяшкання. Ён нічога не робіць сам, а толькі чакае загадаў, дзеля чаго трымае ў руках вялікую падзорную трубу, а побач з ім нудзіцца вялікі кот. Ці не ў яго пытаецца занепакоены выканкамавец: "Чаму не едуць «госцікі»"? А карыкатуру на чыноўніка з цыгарэтай у вуснах суправаджае некалькі вербальных падказак. На дрэве, пад якім разлёгся гэты малады прадстаўнік мясцовай улады, замацавана вялікая папера са словамі: "Пуцёўка ў раён"; пад лістамі дрэва падпісана: "Аб'ектыўныя прычыны". А ўнізе — аўтарскі каментарый: "Пад ценьню «аб'ектыўных» прычын".

Мастак М. Дучыц (1896 —1980) вылучыўся як аўтар шэрагу твораў на тэмы дрэнных дарог паміж горадам і сялом, сацыяльнага становішча, самагонаварэння, дрэннага гаспадарання на вёсках, дзе багацеі моцна, усім сваім целам, сцерагуць уласную прыватную гаспадарку і не хочуць дзяліцца з прадстаўнікамі калгаса.

М. Гусеў (1896 — 1965) вельмі драматычна вырашаў тэму "Максім Горкі і інтэлігенцыя". На яго думку, з такой інтэлігенцыяй, якая пры савецкай уладзе сябе не спраўджвала, трэба было абыходзіцца менавіта вось так: узяць "Басяка" ды біць ім па галовах і спінах прадстаўнікоў усіх творчых аб'яднанняў... Бо яны адасобленыя і не могуць сябе адстаяць.

Кампазіцыі Ф. Выхадцава (1902 — 1941) звязаныя з сацыяльнымі праблемамі жыцця ў суседняй краіне. Тамтэйшы люд паказаны як гарапашны, прыгнечаны рэакцыйнай уладай, што абапіраецца на ўзброеныя сілы і паліцыю. Напрыклад, у цэнтры карыкатуры "Панскія здзекі" — выява моста, пабудаванага на могілках, на касцях змардаваных людзей. Па самім мосце рушыць вялікая група добра апранутых багацеяў, якіх ахоўваюць прадстаўнікі ўлады. Гэты добрапрыстойны натоўп нібыта мкнецца ў вялікі свет, але ўпэўнена ісці наперад ім замінае... дрэнны пах з-пад моста.

Самыя выразныя сяброўскія шаржы на класікаў беларускай літаратуры належаць студэнту палітэхнічнага інстытута Я. Кашкелю. Герояў сваіх ён падгледзеў у халодны, слотны восеньска-зімовы час і ўвасобіў сапраўды трапна. Янка Купала, захінуўшыся ад ветру ў паліто з паднятым каўнярам, рашуча тупае па вуліцы ў галёшах з кіёчкам у руках і звязкай рукапісаў. Але шляхетнасць сваю не хавае, на самыя вочы ён насунуў модны капялюш; міжволі звернеш увагу на "матылёк"-банцік. А тонкія вусны ледзь хаваюць іранічную ўсмешку, маўляў, "я яшчэ пакажу, як трэба пісаць вершы-паэмы". Якуб Колас, наадварот, выглядае, як сапраўдны селянін, што прыехаў у Мінск на закупы: у валёнках, кажушку, у шапцы-аблавусе. Сур'ёзны позірк скіраваны літаральна

СЯБРОЎСКІ ШАРЖ.



Янка Купала.

на гледача. Паэт нібы нешта выглядвае ў думках і хавае сваю заклапочанасць. Абодва ўтрыраваныя малюнкі вельмі розныя па настроі і вельмі блізкія па шаржаванасці выяў. Такія вобразныя жарты яшчэ больш замацоўвалі вялікі аўтарытэт лідараў маладой беларускай літаратуры.

Не менш выразны атрымаўся сяброўскі шарж Я. Кашкеля на мовазнаўцу Язэпа Лёсіка (дзядзьку Якуба Коласа па матчынай лініі). Ён увасоблены ў вельмі яскравым вобразе вучонага-педагога. У жыцці Я. Лёсік адрозніваўся валявым характарам чалавека з народных мас, таму і на малюнку крочыць гэтак смела і рашуча, што з-пад ног ажно пырскі ляцяць. На яго галаве аблавуха, насунутая па самыя вочы, схаваныя за акулярамі. Ад холаду бароніць вясковы кажушок. У моцных, працавітых руках ён трымае сукаваты кій і агромністую кнігу "Беларускі правапіс". На твары з'едлівая ўсмешка, ледзь прыхаваная цёмнымі вусамі. Яго з'яўленне падобнае да грому-маланкі з яснага неба. У Лёсікавых апанентаў ад жаху валасы становяцца тыркачом і ўзляцаюць дагары капелюшы. Вось так, з добрай усмешкай, паказаны даследчык і абаронца вартасцей літаратурнай беларускай мовы, якая тады яшчэ толькі набірала сваю вагу ў грамадстве.

Сродкі гумару і сатыры з'яўляліся і ў афармленні вокладак выданняў Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Перш за ўсё гэта кнігі К. Крапівы "Людзі-суседзі" (1928), "Хвядос Чырвоны нос" (1931), З. Бядулі "На зачараваных гонях" (1929), М. Лужаніна "Аднагалосна!" (1931). Мастакі В. Літко, Д. Дваракоўскі, Я. Тарас імкнуліся выназходзіць свае новыя сродкі выразнасці для падкрэслення асноўных аўтарскіх ідэй. Пад маскай сур'ёзнага вызначаліся недахопы, узнікалі з'едлівыя, а то і злаславыя насмешкі, іронія рознай ступені "напалу".

Газетна-часопісная графіка, вокладкі ды ілюстрацыі БДВ 1920-х сталі жывым водгукам-рэзанансам, трыбунай культурнага, грамадскага, палітычнага жыцця Беларусі. У ёй увасобіліся многія падзеі, факты, настроі, якія немагчыма было вокамгненна адлюстраваць у іншых відах мастацтва, не звязаных у такой ступені з друкаваным словам, з ідэалагічнымі арыенцірамі, з аператыўнымі тэрмінамі падрыхтоўкі належных матэрыялаў. Сярод графічнай спадчыны няма ўзораў другасных, малавыразных, аднадзённых па сваёй значнасці. Мастакі з рознай прафесійнай падрыхтоўкай пасвойму шчыра і эмацыянальна адгукнуліся на падзеі пераломнага перыяду ў айчыннай гісторыі і пакінулі свой незабыўны вобразны след, які з цягам часу не страчвае сваёй выразнасці і праўдзівасці. У работах беларускіх графікаў-карыкатурыстаў заўважна вялікая разнастайнасць мастацкіх стыляў: ад акадэмізму да мадэрнізму. Можна адзначыць актыўнае ўзаемадзеянне актуальных кірункаў ды індывідуальных творчых метадаў. Адбываўся працэс пошукаў новых выяўленчых сродкаў выразнасці, якія давалялі адлюстроўваць як імгненныя ўражанні, так і працяглыя, сутнасныя станы жыцця.

Такі ўнікальны вопыт, калі да перыядычных выданняў далучаліся самыя актыўныя мастакі, не можа не ўражваць даследчыкаў новымі адкрыццямі. Палітыка беларусізацыі дазволіла хутка сфарміраваць нацыянальную сістэму адукацыі, сродкі масавай інфармацыі, наладзіць кнігавыдавецкую справу і інш. Гэтая палітыка была звязаная з неабмежаванай дэмакратызацыяй творчага працэсу, пра што сведчаць свабода ў сферы карыкатуры і права мастакоў на сатырычную вастрыню ў паказе многіх надзённых праблем. Не будзе перабольшаннем сказаць, што згаданыя намі прыклады сталіся для беларускай культуры ўзорна-паказальнымі, як і многія іншыя факты і з'явы ў айчынным мастацтве таго часу.

***На здымках: сяброўскія шаржы Я. Кашкеля на Якуба Коласа і Янку Купалу.***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

У наступны чацвер адкрываюць сезон музычныя тэатры сталіцы. Мюзіклам К. Брэйтбурга "Блакітная камея" распачне восеньскую афішу Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі 1 і 2 верасня пакажа прэм'еру, якая завяршыла мінулы сезон: чатырохактовую "Аіду" Дж. Вердзі. А на 9 верасня тут замоўлена ўжо чарговая прэм'ера — новая пастановачная версія оперы Дж. Расіні "Севільскі цырульнік". Рыхтуюцца таксама імпрэзы ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай. Сярод іх — сольны канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў Юрыя Гарадзецкага і вечар цыкла "Легенды Беларускай оперы" да 85-годдзя з дня нараджэння ўладальніка незабыўнага лірычнага тэнара, народнага артыста Беларусі Валерыя Глушакова.

Днямі тэатралы будуць успамінаць адну з легенд сузор'я акцёраў-купалаўцаў — Зінаіду Браварскую, народную артыстку Беларусі. Спаўняецца 95 гадоў з дня яе нараджэння. Зінаіда Іванаўна пражыла амаль 89 гадоў і вызначалася рэдкасным творчым даўгалеццем. Выпускніца ГІТІСа (Масква), пачынала ў Беларускім ТЮГу, з 1938 г. працавала ўжо на Купалаўскай сцэне. У родным тэатры, на экране, у студыі Беларускага радыё, на педагагічнай працы ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце З. Браварская вылучалася яркай эмацыянальнай індывідуальнасцю, экспрэсіўнасцю, моцным характарам. Яна сыграла Зіначку Зёлкіну, непаўторна ўвасобіўшы камедыйна-сатырычны вобраз, і пражыла ў спектаклі трагічны лёс вялікай Сары Бернар... Ажыццяўляла радыёпастаноўкі для дзяцей. Спрычынілася да інсцэніроўкі і рэжысуры спектакля купалаўцаў "Людзі на балоце". Пакінула ўспаміны. І нават пісала ў "ЛіМ".

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі выпусціла ў абарачэнне адметны паштовы канверт (тыраж 34 тыс. экз.),




прысвечаны 500-годдзю з часу атрымання горадам Навагрудкам магдэбургскага права. На канверце — арыгінальная марка з выявай герба горада і яго старажытных абрысаў, рэканструяванага замка ды надпісам "500 гадоў з часу надання Навагрудку магдэбургскага права". Канверт аздоблены малюнкам, які абагульняе відарыс горада: Касцёл Перамянення Пана, будынак райвыканкама, руіны замка, Свята-Барысаглебская царква, помнік Адаму Міцкевічу. Мастак канверта і спецыяльнага паштовага штэмпеля — Мікалай Рыжы. У адным з аддзяленняў паштовай сувязі Навагрудка адбылося памятнае гашэнне навінкі, што парадавала і патрыётаў, якія шануюць родную гісторыю, і аматараў графічнай мініяцюры, і калекцыянераў.

***На здымку: выява эксклюзіўнага штэмпеля.***

Дзіяна СТЭЛЬМАХ

# Колькі гадоў нашаму ТЮГу?

**8 красавіка грамадскасць адзначала 55 гадоў Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. З гэтай нагоды ізноў згадалі пра сапраўдны ўзрост айчыннага ТЮГа. Колькі ж яму гадоў — 55 альбо 80?**

Вядома, што да Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску працаваў Тэатр юнага гледача БССР (з 1939 года — імя Н. Крупскай). Ёсць яшчэ сярод нас і тыя, хто бачыў яго спектаклі. Тэатр быў створаны ў красавіку 1931 года пры Доме камсамола. Яго арганізатарам стаў вядомы рэжысёр Мікалай Кавязін (на той час — энтузіяст тэатральнага мастацтва, настаўнік малявання і кіраўнік драматычнага гуртка чыгуначнай школы).

У 1937 годзе тэатр узначаліў слынны рэжысёр і педагог Еўсцігней Міровіч, а ў 1941-м, незадоўга да пачатку вайны, — знаны акцёр і рэжысёр Міхаіл Зораў. Тэатр быў вядомы не толькі ў Беларусі. Самы малады, ён увайшоў у лік шаснаццаці лепшых тэатраў СССР, якія паказалі свае спектаклі ў Маскве на заключным туры Усесаюзнага агляду тэатраў для дзяцей (нашы артысты прадставілі "Цудоўную дудку" В. Вольскага, лістапад 1940 года).

Да Усесаюзнага агляду была выдадзена брашура пра тэатр ("Тэатр юнага гледача імя Н. К. Крупскай". Мн., 1940). Нарыс пра ТЮГ змешчаны ў падрыхтаванай да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве (чэрвень 1940-га) кнізе "Искусство Советской Белоруссии" (Мн., 1940). У раздзеле "Драматические театры Белоруссии", (аўтары В. Вольскі, Я. Рамановіч, А. Сегедзі) расказана пра стварэнне тэатра, спектаклі (асабліва з 1937 г.). Падрабязна пра ТЮГ напісана ў "Гісторыі беларускага тэатра" (Мн., 1985, т. 2). Творчай дзейнасці тэатра прысвечана кніга С. Пятровіча "Дзіцячы тэатр БССР (1931 — 1941 гг.)". Выдадзеная ў 1983 годзе, яна была задумана аўтарам, які, на жаль, у 1981-м пайшоў з жыцця, як першая частка кнігі пра Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Коратка дзейнасць даваеннага ТЮГа выкладзена ў брашуры, падрыхтаванай да 50-годдзя сучаснага тэатра — "Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача" (Мн., 2006).

Вялікая Айчынная вайна спыніла дзейнасць тэатра. Як вынікае з дакладной запіскі ад 22 сакавіка 1943 года в. а. начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК СССР Е. Уралавай старшыні Камітэта па справах мастацтваў пры СНК СССР М. Храпчанку пра аднаўленне тэатральнай сеткі БССР, намячалася на працягу 1-й паловы 1943 года аднавіць тры тэатры: Дзяржаўны драматычны рускі тэатр БССР, Брэсцкі абласны рускі тэатр і Дзяржаўны беларускі тэатр юнага гледача (Нац. Архіў. Ф. 799 П. Воп. 1 Спр. 2. С. 9 ці "Белорусы в советском тылу. Июль 1941 г. — 1944 г. Сб. документов и материалов". — Вып. 2. 1943 г. — 1944 г. Мн., 2010.). Але — не адбылося. З трох згаданых тэатраў быў адноўлены толькі рускі.

У 1949 г. пра неабходнасць аднаўлення ТЮГа нагадала пісьменніца, дзеяч культуры Зінаіда Бандарына, выступіўшы ў газеце "Літаратура і мастацтва" 8 кастрычніка з артыкулам "Тэатральнае мастацтва дзецям". Яна пісала: "У перыяд Вялікай Айчыннай вайны некаторыя тэатры юных гледачоў вымушаны былі часова расфарміравацца. Аднак у першыя пасляваенныя гады яны аднавілі сваю дзейнасць… Ва ўсіх саюзных рэспубліках працуюць… Усім вядома, што і ў Мінску да вайны быў ТЮГ, які на ўсесаюзным аглядзе дзіцячых тэатраў заняў адно з першых месц… абслугоўваў дзясяткі тысяч юных гледачоў. Узнікае пытанне, чаму да гэтага часу ён не аднаўляе сваю дзейнасць?.. А шматлікія юныя гледачы пазбаўлены дзіцячага тэатра".

У 1951 годзе на Бюро ЦК КП (б) Беларусі (пратакол пасяджэння № 139 ад 2 сак. — Нац. архіў. Ф. 4П, воп. 81, спр. 405, л. 27) была прынята пастанова: "1. Пабудаваць у 1951-52 гг. у гор. Мінску дзіцячы рэспубліканскі тэатр, выкарыстаўшы дзеля гэтага каробку, што належыць Мінскаму Палацу піянераў". Поўнае завяршэнне будаўніцтва — 1952 год.

Нарэшце, 22 верасня 1955 г. быў падпісаны загад Міністра культуры БССР Р. Кісялёва пра стварэнне Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Уладзімір Стэльмах, які быў прызначаны дырэктарам тэатра (у даваенным ТЮГу ён служыў акцёрам і заглітам), вельмі хацеў, каб не перарывалася сувязь з даваенным тэатрам, каб сучасны стаў працягам яго дзейнасці. Але ж кіраўніцтва рэспублікі вырашыла інакш. Прыводзіліся довады на карысць новага жыцця ТЮГа: мінула ўжо столькі часу, тэатр ствараецца наноў, у яго новы мастацкі кіраўнік (Любоў Мазалеўская) і новы калектыў (аснову трупы склалі выпускнікі яе курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута). Гэткай была афіцыйная версія.

Але была і неафіцыйная. Пра яе я даведалася ў 1990-я гады, калі ўжо сама працавала ў ТЮГу. Артур Вольскі (сябра тэатра з яго адкрыцця, драматург, дырэктар, нязменны загліт) расказаў пра сапраўдную прычыну: у час вайны частка акцёраў засталася ў акупаваным Мінску, і працавалі яны ў Гарадскім тэатры. У матэрыялах партархіва захоўваецца складзены колішнімі ідэолагамі спіс работнікаў мастацтва, якія ў гады вайны знаходзіліся і працавалі ў Мінску. У раздзеле "драма" ёсць прозвішчы акцёраў ТЮГа і пазначана, што працавалі яны ў Гарадскім тэатры (Нац. архіў. Ф. 4П, воп. 47, спр. 4, л. 183). Дарэчы, ніхто з тюгаўцаў падчас вызвалення Беларусі нікуды не эміграваў.



Безумоўна, пераемнасць даваеннага і сучаснага тэатраў юнага гледача відавочная (пра агульныя мастацка-педагагічныя прынцыпы дзейнасці абодвух творчых калектываў мы ўжо не будзем і гаварыць). Гэта перадусім арыентацыя на нацыянальны рэпертуар. У М. Кавязіна — спроба (праўда, няўдалая) нават на адкрыцці паказаць напісаную для тэатра п'есу "На штурм" Янкі Маўра. У 1936 г. з'явіліся "Мікола Гоман" В. Сташэўскага (п'еса і спектакль высока ацэненыя крытыкай) і "Ная" М. Зарэцкага. Рэжысёр Л. Мазалеўская заахвоціла з'яўленне п'ес Я. Пасава, А. Гутковіча і У. Хазанскага, А. Вольскага і П. Макаля, І. Козела ("Папараць-кветка" — візітоўка тэатра на шмат гадоў; адзначана дыпломам І ступені на Усесаюзным фестывалі тэатраў юнага гледача ў 1958 г.). Новы тэатр, як і даваенны пад кіраўніцтвам Е. Міровіча ў 1937 г. (пасля рэфармавання), адкрыўся спектаклем "Як гартавалася сталь" паводле М. Астроўскага. Двойчы за гісторыю ТЮГа ставіліся ўжо згаданая "Цудоўная дудка" В. Вольскага (у 1939 і 1968) і "Рэвізор" М. Гогаля (у 1941-м з яго распачаў тут сваю працу новы галоўны рэжысёр М. Зораў, рэпетыцыі перапыніла вайна, а сучасны тэатр ставіў камедыю ў 1960 г.). Гэтаксама двойчы адбыліся сустрэчы з галоўным тэатральным і практыкам дзіцячага тэатра Аляксандрам Брянцавым. У 1933 г. М. Кавязін наладзіў паездку калектыву ў Ленінград, пазнаёміў акцёраў з А. Брянцавым і яго Тэатрам юных гледачоў; на Усесаюзным фестывалі сустракаліся з А. Брянцавым і тюгаўцы пасляваеннага часу, а ў 1972 г. на базе тэатра ладзіліся саюзныя "Брянцаўскія чытанні". След у след за даваенным ТЮГам (удзел ва Усесаюзным аглядзе тэатраў для дзяцей у 1939) ступаў і новы тэатр, здабываючы вядомасць і прызнанне за межамі рэспублікі на ўсесаюзных фестывалях тэатраў для дзяцей (з 1958 г.). У сучасным ТЮГу служылі акцёры даваеннай трупы А. Ротар, В. Окалаў, А. Якуцік, П. Бондараў, У. Говар-Бандарэнка, Л. Міхайлаў, У. Стэльмах (як дырэктар), З. Зяленка (памочнік рэжысёра), В. Станкевіч (загадчык бутафорскага цэху), А. Сагальчык (загадчык пастановачнай часткі).



У 1966 г. часопіс "Народная асвета" (№ 4) надрукаваў артыкул У. Стэльмаха "Шчыры сябар школы". Цытую: "Беларускаму тэатру юнага гледача — трыццаць пяць год. Ён быў створаны пры Мінскім доме камсамола… а першым мастацкім кіраўніком быў рэжысёр М. Кавязін… У 1941 годзе вайна абарвала творчую дзейнасць тэатра. Аднавілася яна толькі 8 красавіка 1956 года спектаклем "Як гартавалася сталь"…

Вось і лічыце, колькі гадоў цяпер нашаму Тэатру юнага гледача.

***На здымках: Іван Ахрэмчык, партрэт Еўсцігнея Міровіча (1949); будынак пасляваеннага ТЮГа (сёння на рэканструкцыі).***



# У Маладзечне — свята!

## *XI Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі пачынаецца сёння ў Маладзечне*

**Што ж гэта за феномен, якога культурная грамадскасць краіны з неаслабнай цікавасцю чакае і вітае кожныя два гады? Гэта наша песня, напоўненая мілагучным родным словам; паэтычны радок, акрылены шчырай мелодыяй; самабытныя беларускія вобразы, увасобленыя ў інструментальнай музыцы і ў тэатральнай творчасці; разнажанравы фальклор. Майстры мастацтваў і таленавітая моладзь. Неабыякавыя гледачы, для якіх адзінае ў свеце свята роднай песні ў звязку з роднай мовай — знакавая падзея, прынцыповая для жыцця незалежнай Беларусі... Вось што такое маладзечанскі фэст.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Фестываль "Маладзечна-2011", арганізатарамі якога з'яўляюцца Міністэрства культуры краіны, Мінскі аблвыканкам, Маладзечанскі райвыканкам, Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, працягнецца тры дні. Мэта яго застаецца нязменнай: далучэнне шырокіх колаў насельніцтва краіны да нацыянальных каштоўнасцей, беларускай музыкі, паэзіі і мовы, папулярызацыя новых твораў сучасных беларускіх паэтаў і кампазітараў, пошук таленавітых выканаўцаў і рэалізацыя іх творчага патэнцыялу, пашырэнне творчых кантактаў. Адметнасць жа свята ў тым, што адбываецца яно ў год юбілею вялікага Артыста — Уладзіміра Мулявіна, і 70-годдзю незабыўнага песняра прысвечаны сёлетні фестываль. Напрыклад, заўтрашні ўрачысты гала-канцэрт, які адбудзецца ў нядаўна пабудаваным Летнім амфітэатры, пройдзе пад зоркаю Мулявіна: менавіта яго песні складаюць аснову праграмы, якую прадставіць Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Удзельнікі рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, якія пазмагаюцца за спецыяльны прыз імя У. Мулявіна, абавязкова ўключаць у сваё выступленне адну з яго песень.

Не злічыць тыя мастацкія імпрэзы ды творчыя сустрэчы, якімі будуць поўніцца фестывальныя дні. "Цэнтрам прыцягнення", безумоўна, стане новы амфітэатр. А колькі падзей мае адбыцца ў гарадскім Палацы культуры, у залах Мінскага абласнога драматычнага тэатра і лялечнага тэатра "Батлейка", у Маладзечанскім музычным вучылішчы імя М. Агінскага, у Горадзе майстроў, на вуліцах фестывальнай сталіцы, а яшчэ — падчас вандровак у Купалаву Вязынку ды ў Багдановічаву Ракуцёўшчыну! Канцэрт айчынных рок-гуртоў і праект камерных калектываў Нацыянальнага канцэртнага аркестра "Чатыры нацыянальныя пасталі Беларусі" (творы Д. Лукаса, П. Падкавырава, Р. Пуксты, А. Туранкова); прэзентацыя творчасці самых маладых паэтаў і кампазітараў ды парад зорак айчыннага джаза; гала-канцэрт выканаўцаў сучаснай беларускай эстраднай песні ды выступленні карыфеяў нашай паэзіі.

І такая адметнасць. Адзін з ініцыятараў Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, яго арганізатар і асноўны ўдзельнік — Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга распачаў свой 25-ы сезон. Свята ў Маладзечне — першае ў чарадзе імпрэз юбілейнага творчага года заслужанага калектыву.

***На здымку: народны артыст СССР Уладзімір Мулявін.***

# Нашы творы і нашы душы



**“ЛіМ” ніколі не абмінае ўвагай суседнія літаратуры, іх дасягненні і прадстаўнікоў. Творы сербскай пісьменніцы Нэвены Вітошавіч-Чэкліч друкаваліся на нашых старонках, сама яна была ўдзельніцай “круглага стала”, прымеркаванага да Дня беларускага пісьменства. “Круглы стол” з удзелам замежных гасцей, дарэчы, плануецца і на сёлетнім свяце. У выдавецтве мінскага Брацтва ў імя Архістраціга Міхаіла пабачыла свет кніга Нэвены Вітошавіч-Чэкліч “Маленькі Ангел — Хрысціянская азбука”. Неўзабаве пасля выхаду “Маленькі Ангел...” стаў лаўрэатам Восьмага міжнароднага конкурсу дзяржаў-удзельніц СНД “Мастацтва кнігі”. У пярэдадзень Дня беларускага пісьменства сербская пісьменніца пагадзілася адказаць на пытанні “ЛіМа”.**

**— Пані Нэвена, вы ж, можна сказаць, нарадзіліся ў літаратурным асяроддзі. Вашы і бацька, і маці — літаратары. Як і ў якой ступені гэта ўплывала на ваш лёс?**

— Уплывала, бадай, многае. Прычым у розных аспектах... Ужо тое, між іншым, што тата, Драгіша Вітошавіч, у першы мой дзень нараджэння, г. зн. у 1968 годзе, заснаваў своеасаблівы часопіс — *“Расковник”* (“Разрыў-камень” — ***І. Ч.*** ) з мэтаю сцвярджаць, а таксама развіваць культуру і мастацтва вёскі. Прычым гэтае перыядычнае выданне хутка стала самым тыражным у краіне. Але паколькі тагачасныя ўлады СФРЮ былі захопленыя пралетарскай ідэалогіяй, а пра ўсё, што звязана з вёскаю і народнымі традыцыямі, не дбалі, то і датацыі выданню абмяжоўваліся коштамі на друк. Часопіс не меў нават рэдакцыйнага памяшкання — яго замяняла наша невялічкая, 28 квадратных метраў, кватэра ў паддашшы. Туды кожны дзень прыходзілі збіральнікі і розныя аматары народнай творчасці, а таксама літаратары. Дарэчы, мы, сербы, маем вельмі моцны, унікальны сярод усіх народаў свету рух паэтаў-сялян. Так што ў нашай кватэрцы ўвесь час чыталіся вершы, вяліся амаль безупынныя размовы пра паэзію. Адпаведна, нічога дзіўнага няма ў тым, што з чатырохгадовага ўзросту я таксама пачала складаць вершыкі. А мой тата, дарэчы, іх запісваў. І неяк, знаходзячыся ў Бельгіі на канферэнцыі “Дзеці і паэзія”, прачытаў нешта з маіх вершаказаў у сваім перакладзе на французскую мову. Тады да яго падышоў вядомы бельгійскі паэт Морыс Карэм і папрасіў дазволу выкарыстаць гэтыя вершы ў перадачы радыё Брусэля...

Наогул у нашай сям’і творчасць успрымалі як справу святую. Тата і мама заўжды ўважліва ставіліся да маіх паэтычных практыкаванняў: выслухоўвалі і выказвалі, што ім падабаецца, а што не — адным словам, тлумачылі, што ў мяне атрымалася. За мяне яны не прыдумвалі ніводнага сказа, а заахвочвалі, каб я шукала замену тым словам і выразам, якія аказваліся недарэчнымі. І праяўлялі настойлівасць, не адступаліся, пакуль я не знаходзіла лепшага рашэння. Так што я мела шчасце ўзрастаць у свайго роду выдатнай літаратурнай студыі.

Таму, зноў жа, цалкам натуральна, што ў адзінаццацігадовым узросце я ўжо мела варыянт першага свайго зборніка, які выйшаў у свет пазней, калі мне было пятнаццаць гадоў, прычым выдавец сам праявіў цікавасць — пасля таго, як прачытаў мае вершы ў часопісе.

**— Вы пішаце і для дзяцей, і для дарослых, а таксама і малюеце, самі выконваеце ілюстрацыі да сваіх твораў.**

— Так, я заўжды пісала і малявала, што называецца, паралельна. І ўсе мае зборнікі вершаў выходзілі з маімі ж ілюстрацыямі.

У 1991 годзе ў былой Югаславіі выбухнула грамадзянская вайна. Той свет, які я ведала, пачаў маланкава і кардынальна мяняцца ў аснове. Тэлевізійныя навіны сталі ўяўляць сабою суцэльныя жахі. Многія мае суайчыннікі пачалі з’язджаць за мяжу. А ў Бялград прыбывалі дзясяткі тысяч людзей, якія засталіся без даху над галавою...

Што можа і што павінен рабіць мастак, калі рушыцца звыклы навакольны свет? Напэўна, ствараць іншы. Дык вось, я імкнулася ствараць свой мастацкі свет, у якім можна знайсці выратаванне з дапамогаю дабрыні, чысціні, пяшчоты, радасці. Хоць мне было ўжо за дваццаць гадоў, я вярталася да дзяцінства як да крыніцы натхнення, ды і самога жыцця. Там я шукала прытулку, які быў патрэбны мне і які я магла прапанаваць іншым.

Так з’явіліся мае малюнкі для дзяцей. Я малявала вясёлых істот з Краіны Мараў. Гэта былі Дзівасмаўжы, якія ў сваім жытле захоўвалі таямніцы прыроды, а на галовах насілі кароны з радасных думак, і Птушкакветы, якія, лётаючы і распасцюджваючы водары, складалі прыгожыя песні, і Чарэшнялюбы, якія збіралі найсмачнейшыя чарэшні з вершалін дрэў, і Сэрцалісты, якія прымалі да сваіх сэрцаў турботы ўсіх істот, гэта былі Высотнікі-Чарадзейнікі, на паверхах якіх дзецям выдаюцца самыя прыгожыя і самыя ўтульныя кватэры...

Захапіўшыся такімі незвычайнымі істотамі, я пачала пісаць да гэтых малюнкаў вершы — у асноўным пытанні-фантазіі. Да гэтага я ўжо мела тры выстаўкі сваіх “дарослых” твораў. А ў 1993 годзе, калі наша краіна знаходзілася ў міжнароднай ізаляцыі, пад санкцыямі, я правяла сваю першую выстаўку малюнкаў для дзяцей і разам з малюнкамі прадставіла таксама вершы. Другую такую выстаўку я наладзіла ў той самы год, правёўшы яе як свайго роду студыю: дзеці, якія прыходзілі, фантазіравалі разам са мною і рабілі свае малюнкі.

Зразумела, замест вайны мы вялі гульні, стараючыся драконаў і вядзьмарак навучыць дабрыні. Як вынік гэтай калектыўнай творчасці з’явілася мая першая кніжка для дзяцей пад назваю *“Маштованка”(“Фантазійка”),* асаблівасць якой у тым, што малюнкі для дзяцей суправаджаюцца тэкстам — шматлікімі пытаннямі, якія стымулююць фантазію дзяцей, заахвочваюць, каб яны малявалі і пісалі самі.

**— Толькі што мінскім Брацтвам у імя святога архістраціга Міхаіла выдадзеная ваша кніга для дзяцей “Маленькі Ангел — Хрысціянская азбука” на рускай мове. І яна адразу ж атрымала першую ўзнагароду на прэстыжным маскоўскім конкурсе. У продаж выданне яшчэ не паступіла, але тыя, хто яго бачыў, кажуць, што вельмі прыгожае. Вы, наколькі мне вядома, яго ўжо атрымалі. Якое ўражанне?**

— Пра ўзнагароды я яшчэ нічога не ведаю. А пару экзэмпляраў кнігі мне ўжо прыслалі.

Для мяне асабліва дорага, што кніга выйшла з прадмоваю Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

Не дзеля камплімента адзначу: я шчаслівая, што “Маленькім Ангелам” зацікавіліся і з любоўю пераклалі кнігу вы, аўтарытэтны славіст і выключны знаўца сербскай літаратуры.

Мяне як аўтара выданне кранула многім. Перш за ўсё тым, што выглядае сапраўды вельмі хораша. Прыемна, што на вокладцы змешчаны герб Сербскай Праваслаўнай Царквы і растлумачана значэнне чатырох літар “С”: *Само слога Србина Спасава* (Толькі згода Сербаў уратуе). Нечакана, але добра, што захаваныя старонкі, на якіх апісваецца сербскі звычай “Слава” — праслаўленне святых ахоўнікаў роду, сям’і. Добра таксама, што пакінутыя прадмовы да сербскага выдання нашага Мітрапаліта Амфілохія і манаха Давіда (Перавіча).

Прыемныя ўражанні выданне выклікала не толькі ў мяне. Усе мае суайчыннікі, якія бачылі кнігу, здзіўляліся той любові, якую беларусы праявілі да сербскага народа і Сербскай Праваслаўнай Царквы.

**— Вы тут выступаеце таксама і як пісьменнік, і як мастак, а яшчэ і як багаслоў-педагог, паколькі раскрываеце для юных чытачоў усе найважнейшыя пытанні, якія датычыцць Бога нашага, Госпада Ісуса Хрыста, праваслаўнай веры і Царквы... Можа, раскажаце нам, як у вас узнікла ідэя стварыць такую кнігу?**

— У свой час я выдала “Буквар Кірылка”. Ён вельмі спадабаўся настаяцелю бялградскай царквы святога Апостала Марка. І гэты свяшчэннік выступіў з прапановаю, каб мне замовілі напісаць кніжку пра веру ў разліку на самае юнае пакаленне, бо ў нас тады зусім не было праваслаўных кніг для дзяцей. А мне самой неаднойчы даводзілася чуць, як малыя, убачыўшы свяшчэннікаў, пытаюцца ў таты ці мамы: “А хто гэтыя дзядзі?” І бацькі часцей за ўсё не давалі ім ніякіх адказаў. Назірала таксама, што дзеці, якіх прыводзілі ў царкву, не разумелі як след, дзе яны знаходзяцца і што вакол іх адбываецца. Таму і вырашыла ўзяцца за кнігу, якая б дала адказы на ўсе істотныя пытанні, звязаныя з хрысціянствам. Прычым так, каб дзецям гэта было зразумела і цікава.

> “Дарослая” літаратура апынулася пад знакам замкнёнасці, адчужэння, абсурду, тады як літаратура “дзіцячая” ўсё ж такі застаецца пад знакам хараства і сэнсу. А мой выбар заўсёды зарыентаваны на тое, што мае сапраўдны сэнс.

Якраз у той час вядомы псіхіятр і прафесар Праваслаўнага багаслоўскага факультэта падарыў мне копію даследавання пра тое, як дзеці разумеюць Бога, хоць ён і не ведаў, якую кнігу я пачала пісаць. Дарэчы, не ўпершыню патрэбнае мне неяк містычна з’яўляецца.

Першы малюнак Маленькага Ангела я зрабіла яшчэ ў 1985 годзе, калі рыхтавала *“Маштованку”*. Маленькі Ангел і Маленькі Смоўж — героі майго казачнага аповеда *“Як смоўж трапіў у рай”*. А калі я ілюстравала *“Буквар Кірылка”*, манах Давід сказаў мне, што галоўным героем маёй чарговай кнігі павінен стаць Маленькі Ангел, а тая кніга павінна быць праваслаўнай чытанкай. Гэтак ён са сваёй манаскай празорлівасцю прадбачыў кнігу, пра якую потым клапаціўся па-бацькоўску ў працэсе яе падрыхтоўкі: — ажно шэсць разоў чытаў рукапіс і пільна сачыў за тым, як выконваюцца ілюстрацыі. Вялікую ўвагу да гэтай кнігі праявілі і Мітрапаліт Амфілохій (Радавіч) — ён двойчы, на розных стадыях, знаёміўся з рукапісам і ілюстрацыямі. Для мяне было вельмі істотна, каб кніга, нягледзячы на тое, што яна адрасуецца дзецям і павінна лёгка чытацца, нідзе не адступала ад духу хрысціянства.

**— У вашай кнізе Маленькі Ангел непасрэдна звяртаецца да чытачоў. А ў ілюстрацыях паўсюдна прысутнічаюць маленькія сэрцы... Гэта, відаць, пэўныя асноўныя ключы да дзіцячага разумення і, адпаведна, ключы ад дзіцячага свету?**

— Сапраўды так. Маленькі Ангел прадстаўляецца дзіцяці як яго Ангел-ахоўнік, тлумачыць, што настаў час ім бліжэй пазнаёміцца. Яны знаходзяць паразуменне. І так, праз казку ці іншы літаратурны твор, не толькі здзяйсняецца далучэнне да праваслаўнай веры, але і ўстанаўліваюцца адносіны дзіцяці з яго Ангеламахоўнікам. Асаблівa ў дзіцячым узросце неабходна ахова, падтрымка — найперш з боку бацькоў, але таксама і тонкая духоўная ахова, духоўная падтрымка, якая патрэбна ў розных сітуацыях, у тым ліку і ў дзіцячых таямніцах.

А сэрца як сімвал любові — знак універсальнай выяўленчай сістэмы дзяцей. Таму, натуральна, яно стала адным з важнейшых ключоў у кнізе, якая цалкам прысвечаная сутнасці любові — любові хрысціянскай.

**— Дарэчы, шаноўная калега, у маі “ЛіМ” віншаваў вас з прысуджэннем ступені доктара навук. Удакладнім для нашых чытачоў, што вы даўно і сур’ёзна займаецеся навукай і ў дзвюх сваіх дысертацыях — магістарскай і доктарскай — даследавалі казкі і дзіцячы тэатр. А як спалучаюцца ў вас мастак і навуковец?**

— Нядаўна ў размове са сваім навуковым кансультантам, прафесарам Міленкам Місаілавічам, высокааўтарытэтным у Сербіі тэатразнаўцам, я пачула: “Акрамя гэтых кніг пра тэатр я ўсё жыццё пісаў вершы. Так, між іншым. Больш для самога сябе. А, уласна, якая розніца. Паэзія — гэта ўсё разам”.

І праўда. Усё, чым займаюся, я таксама ўспрымаю як часткі аднаго цэлага. Важна, што гэтыя мае справы прыносяць мне радасць, дапамагаюць шырэй і глыбей спасцігаць сэнс жыцця. Пэўна ж, адно дапаўняе другое.

Ну а ўвогуле, кожнаму, хто далучаны да творчасці для дзяцей, вельмі карысна вывучаць казкі, бо гэта вяршыні творчасці і з імі ў літаратуры амаль няма чаго параўноўваць... хіба што зноў жа казкі — найлепшыя літаратурныя, накшталт “Блакітнай птушкі” Метэрлінка ці “Маленькага прынца” Экзюперы.

**— Паколькі прадметам вывучэння вы абралі ўсё ж творчасць для дзяцей, то ці азначае гэта, што яна для вас бліжэй, чым творчасць для дарослых?**

— Калі звярнуць увагу на шырокавядомыя літаратурныя творы XX стагоддзя — скажам, “Чужаніцу” Камю альбо “У чаканні Гадо” Бэкета, то бачна, што “дарослая” літаратура апынулася пад знакам замкнёнасці, адчужэння, абсурду, тады як літаратура “дзіцячая” ўсё ж такі застаецца пад знакам хараства і сэнсу. А мой выбар заўсёды зарыентаваны на тое, што мае сапраўдны сэнс. Калі настане — а я лічу, што яна павінна хутка прыйсці — эпоха “верніцкай” літаратуры, якая будзе весці размову пра сутнасць жыцця ў хрысціянскім сэнсе, як гэта рабілі Дастаеўскі ці Ламарцін, то я выберу менавіта такую літаратуру, незалежна ад таго, якому ўзросту яна будзе адрасавацца.

**— Што для вас самае галоўнае ў жыцці і ў творчасці?**

— Любоў. Любоў, пэўна, важней за ўсё. Любоў як сям’я, гэта значыць мой муж Аляксандр і мой сын Васілій. Любоў як сяброўства, як вера і сэнс. Любоў як навука з навук. Любоў як бясконцы шэраг рэчаў, належным чынам звязаных. Усе мае кнігі і для дзяцей, і для дарослых прасякнутыя гэтай тэмай. Некалі я напісала цыкл вершаў *“Слова мне сказала”*, у якім спрабавала разгадаць таямніцы самых глыбокіх і самых высакародных слоў — такіх, як любоў, шчырасць, дабрыня... І тады бацька мне сказаў: “Цяпер твае вершы цябе абавязваюць, каб ты жыла ў адпаведнасці з імі”. Вось што істотна, згадзіцеся. Не так важна, кім мы становімся — пісьменнікамі, мастакамі, вучонымі... Важней, каб усё станавілася паэзіяй, а мы кіраваліся любоўю. Нашы душы маюць значэнне большае, чым нашы творы.

**Гутарыў Іван Чарота,**
**доктар філалагічных навук**



Уладзімір Пасюкевіч "У краіне светлай" (Максім Багдановіч).

**Пра Максіма Багдановіча сказана і напісана ўжо столькі, што, згадваючы яго імя, страшна патрапіць у вір паўтораў, агульных месцаў і захопленых эпітэтаў. Творчасць яго ўсебакова даследаваная. І тым не менш застаецца яшчэ месца для адкрыццяў, ёсць таксама і неабходнасць сістэматызаваць напрацаваны матэрыял. Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" рыхтуе да выдання персанальную энцыклапедыю "Максім Багдановіч", прымеркаваную да 120-годдзя з дня нараджэння паэта. Мяркуецца, што энцыклапедыя будзе змяшчаць больш як 2000 артыкулаў. Сярод іх аўтараў і вядомыя навукоўцы, якія пайшлі з жыцця, і сучасныя літаратуразнаўцы. Навуковы рэдактар выдання – Аляксандр Кастыка. "ЛіМ" прапануе ўвазе чытачоў некалькі артыкулаў з будучай энцыклапедыі, якая, думаецца, стане падзеяй у кніжным свеце.**



Віктар Барабанцаў "На радзіме М. Багдановіча".

## АНТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА І М. БАГДАНОВІЧ.

Багдановіч высока цаніў антычную літаратуру, таленавіта развіваў яе традыцыі гуманізму і грамадзянскасці, вучыўся паэтычнаму майстэрству ў антычных аўтараў і знаходзіўся пад іх моцным уплывам. У яго паэтычнай спадчыне назіраецца арганічнае засваенне найбольш плённых ідэйна-мастацкіх кампанентаў антычнасці ў непасрэднай сувязі з індывідуальным творча-псіхалагічным вопытам. Ужо ў маленстве ён пазнаёміўся з культурай і літаратурай антычнага свету. Першым настаўнікам паэта ў гэтай справе быў яго бацька, Адам Ягоравіч, які кіраваў пазакласным чытаннем сына. Пазней Багдановіч успамінаў: "Мы змалку праходзілі гэтую сусветную школу. Бацька пачынаў, з чаго пачынае кожны народ у сваёй творчасці, з эпасу. Мы ўжо ў дзяцінстве ведалі "Рустэма і Зараба", "Іліяду", "Калевалу", быліны..." Захапленне антычнай культурай спалучалася ў Багдановіча з любоўю да Радзімы, да фальклорнай спадчыны. У сваіх творах ён часта згадваў антычных пісьменнікаў — Анакрэона, Сафокла, Авідзія, Катула, Вергілія, Герадота, Дэмасфена, Цыцэрона, выкарыстоўваў імёны такіх вядомых міфалагічных персанажаў, як Геракл, Антэй, Гея, Пегас і інш. З вялікім замілаваннем гаварыў Багдановіч аб паэзіі старажытнагрэчаскага паэта-лірыка Анакрэона. Для Багдановіча гэта высокі ўзор мастацкай творчасці, варты глыбокага асэнсавання і творчага наследавання: "Бледны, хілы, усё ж люблю я // Твой мудры і кіпучы верш, Анакрэон". "Мудрым і кіпучым" вершам сцвярджалася тое, што найбольш імпанавала Багдановічу як паэту, а менавіта мудрасць як духоўны запавет паэзіі, як адна з яе першаасноў, а таксама жыццярадаснасць, эмацыянальная насычанасць і змястоўная напоўненасць. У вершы не толькі аналізуецца паэзія старажытнагрэчаскага аўтара, але і даецца эмацыянальная ацэнка вобразнай сістэмы анакрэантычнай лірыкі, прасякнутай адчуваннем хуткацечнасці чалавечага быцця, радасці і хваләвання. Сімволіка Анакрэона вырастае з рэальнага жыццёвага асяроддзя Багдановіча, напоенага тым "віном" і "паветрам", якім ён жыў і дыхаў. У сваіх радках беларускі паэт гаворыць, што вершы лірыка Старажытнай Грэцыі не старэюць з цягам часу, а становяцца, накшталт вінаграднага віна, мацнейшымі і хмяльнейшымі. Багдановіч, прасякнуты "анакрэонавым" духам і стылем, праявіў сябе сапраўдным майстрам "лёгкай" паэзіі. Параўноўваючы паэзію з "вінаградным, густым, цёмным віном", ён прарочыў ёй славу і вечнасць, пракладаў новыя шляхі, узбагачаў яе трапнымі назіраннямі, пашыраў яе мастацкія магчымасці. Багдановіч першы ўвёў у беларускую літаратуру памеры антычнай паэзіі — *гекзаметр* і *пентаметр*. Прыклады гекзаметраў — у яго вершах "Непагодаю маёвай", "На цёмнай гладзі сонных луж балота", "Тая крыніца, што раньш к акіяну нясла свае хвалі", "Да вагітнай" і інш. Пентаметры Багдановіча заключаюць у сабе цэлую гаму пачуццяў, нясуць адбітак думак паэта аб вечнай барацьбе супрацьлеглых пачаткаў, якой скрозь напоўнена чалавечае жыццё. Яго радкі прасякнуты самымі разнастайнымі адценнямі чалавечых дум і пачуццяў, увасоблены ў пластычна яркія вобразы. Пентаметр у Багдановіча гэтак жа мілагучна гучыць па-беларуску, як ён некалі гучаў на паэт. мове элінаў. Дзякуючы Багдановічу побач з гекзаметрамі і пентаметрамі ў беларускай паэзіі з'явіўся александрыйскі верш. Гэтым памерам напісаны верш "Ліст да п. В. Ластоўскага", у якім паэт засведчыў сваю любоў да грэчаскай паэзіі. Класічнымі "александрынамі" намаляваны вобраз вясковай дзяўчыны-маці ў вершы "У вёсцы". Гэта сімвал душэўнай велічы і прыгажосці. Беларускі паэт не проста аднаўляе архаічны шасцістопны ямб, а хутчэй за ўсё архаічную жанравую функцыю метра: пасланне, эпісталу, сяброўскі ліст. Адчувальны ўплыў на яго паэзію Гамера і Вергілія. Іх творы захапілі Багдановіча грандыёзнасцю ідэй, велічнасцю прастаты і гуманізмам. Адзін з першых даследчыкаў паэзіі Багдановіча М. *Грамыка* выказаў на гэты конт глыбокую і ўніверсальную па абагуленасці думку, што беларускі паэт — "гэта старажытны грэк у беларускай вопратцы... Толькі грэкі ўмелі так разумець і любіць жыццё". У паэтычнай творчасці Багдановіча асаблівае месца займае рымскі паэт Гай Валерый *Катул*. Яго творы сталі эстэтычным арыенцірам у спробе кампенсаваць амаль поўную адсутнасць у беларускай паэзіі пач. 20 ст. любоўнай і эратычнай лірыкі, якая займае значнае месца ва ўсіх літаратурах свету. Багдановіч узбагаціў беларускую літаратурную прасодыю, смела ўвёўшы ў свой паэтычны арсенал ледзь не ўсе прыёмы і формы антычнай паэтыкі. Аналізуючы засваенне яе традыцый у беларускага мастака слова, нельга не адзначыць, што пры іх асэнсаванні фарміраваліся светапоглядныя моманты паэтычнага мыслення Багдановіча. Сведчаннем гэтаму могуць служыць шматлікія факты, якія выяўляюцца ў розных суадносінах як у галіне ідэйна-эстэтычных набыткаў, так і на ўзроўні форм і сюжэтаў, памераў і жанраў. Паэзію Багдановіча нельга ўявіць без міфалагічных вобразаў антычнасці, без грэчаскіх, рымскіх багоў і герояў. Але веданне літаратуры і культуры антычнасці не зводзіцца ў паэта да выкарыстання міфаў і вядомых персанажаў. Для Багдановіча старажытнае — гэта "Бура", "Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя", "Вераніка", "Ліст да п. В. Ластоўскага", "Купідон", "На могілках" і інш.

Выкарыстанне антычных вобразаў для беларускага паэта — з'ява не выпадковая. Антычнасць у яго творах выступае найчасцей сродкам узмацнення лірычнай экспрэсіі, выяўлення ўнутраных перажыванняў і настрояў лірычнага героя. Антычныя традыцыі становяцца працэсам, непасрэдна звязаным з творчай актыўнасцю, талентам, спеласцю светапогляду Багдановіча. І гэта было не знешнім супадзеннем ці пагоняй за арыгінальнасцю. Антычная этыка і эстэтыка цалкам адпавядалі індывідуальнаму жыццёваму і псіхалагічнаму вопыту паэта, яго думкам, настроям і запатрабаванням эпохі. Яго творчы падыход да антычнай спадчыны заключаецца ў тым, каб, перапрацоўваючы і ўзбагачаючы антычныя матывы і вобразы, уздымаць іх да ўзроўню агульнанацыянальнага і праз іх да агульначалавечага.

*Літ.*: Дрэйзін Ю. Антычныя матывы ў паэзіі М. Багдановіча // Узвышша. 1928. № 2; Кабаковіч А. К. Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі: гіст.-тэарэт. нарыс. Мінск, 1989; Лойка А. А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Мінск, 1972; Лебядзевіч Д. М. З жыватворных крыніц Гелікона: антычная спадчына і станаўленне беларускай класічнай літаратурнай традыцыі. Гродна, 2002.

**Д. М. Лебядзевіч.**

**"БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА"**, клуб беларускай інтэлігенцыі. Існаваў у Мінску ў 1916—1920. Заснаваны пры дапамозе аддзела Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У 1916 "Беларуская хатка" знаходзілася па адрасе: Мінск, вул. Захараўская, д. 18 (будынак не захаваўся). Праводзіў культурна-асветніцкую і грамадскую дзейнасць. Тут жа працавала і сталоўка "хатніх абедаў", арганізаваная Л. Сівіцкай (З. *Верас*) і яе маці Э. Сівіцкай. Па суботах ладзіліся культурныя вечарыны, на якіх спявалі беларускія песні, а таксама дэкламавалі вершы. Паводле сведчання ўдзельніцы гэтых вечарын, дзеячкі беларускай эміграцыі Апалоніі Радкевіч (Савёнак), на іх прысутнічаў і Багдановіч: "У адзін з восеньскіх суботнікаў з'явіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая, сутулая постаць, павольныя рухі, ціхі нізкі голас. Пергаментна бледны твар. Сур'ёзны, спакойна-выпытваючы позірк бліскучых вачэй. Па той пашане, якую яму ўдзялялі дарослыя, па той любові, якой яго акружалі А. Смоліч, Ядвігін Ш., мы разумелі, што гэта вялікі чалавек, і пранікліся глыбокай пашанай да яго. Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, бездзейна. Толькі па ледзь значнай шчаслівай усмешцы, якая квола зацвітала на яго тонкіх вуснах, мы бачылі, што ён цешыцца і з нашых спеваў і скокаў і асабліва з дэкламацый, але, калі ён прабаваў падысці да каго з нас, загаварыць, пажартаваць, мы з глыбокай пашанай і страхам, як перад нечым непараўнальна вышэйшым, амаль надлюдскім, змаўкалі, як спужаныя вераб'і, а ён, прачулена насцярожаны, думаў, што гэта страх і асцярожнасць перад яго хворым станам". Менавіта ў "Беларускай хатцы" на адной з перадкалядных вечарын упершыню публічна А.Смоліч у прысутнасці аўтара прачытаў верш Багдановіча "Пагоня". Пра гэта сведчыла ва ўспамінах А.Радкевіч, якая сцвярджала, што верш чытаў А.Смоліч, бо "М. Багдановіч адчуваў сябе зусім знямоганым".

*Літ.*: Апалонія Радкевіч (Савёнак). Беларуская хатка. Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Йорк). Часопісны варыянт: А.С. Калісьці ў Менску // Беларуская Моладзь. 1960. № 8.

**П. У. Сцепаненка.**

**"АНЯ, АНЕЧКА..."**, верш Багдановіча. Датуецца прыблізна 1915. Адзін з твораў, у якім апаэтызавана любімае Багдановічава жаночае імя. Цыкл вершаў, адрасаваных Ані — "Учора шчасце толькі глянула нясмела..." (у аўтарскім рускім варыянце "Счастье, ты вчера блеснуло мне несмело..."), "Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія...", "Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна...", "Больш за ўсё на свеце жадаю я..." (у аўтарскім рускім варыянце "Уймитесь, волнения страсти..."), "Четверной акростих" — мае аўтабіяграфічную аснову і звязаны з асобай Г. Р. *Какуевай*. У вершы "Аня, Анечка..." імя ўжыта безадносна да рэальнай асобы, яно выступае як своеасаблівы эстэтычны знак, як вобраз пачуцця, душэўнага хвалявання. Зваротам да "Ані, Анечкі", якая асацыіруецца ў творчасці паэта з чысцінёй кахання, з асабістымі пачуццямі, ствараецца свет глыбокай чалавечай роднасці. Верш нагадвае галашэнне. Эмацыянальна-вобразным ладам блізкі да народнай песні, дзе жаночае імя ўстойліва замяшчае агульна-родавы вобраз дзяўчыны ў той ці іншай песеннай сітуацыі. У творы Багдановіча гэты вобраз таксама гранічна абагульнены, не індывідуалізаваны, нягледзячы на прамое выяўленне аўтарскіх адносін да выбару імя і азначэннем "мая". Літаратурную мадыфікацыю атрымаў народна-песенны прыём вобразнага паралелізму ("Аня, Анечка, // Мая ёлачка зялёная..."). Асацыятыўны змест твора досыць складаны: у ім абодва мастацкія планы (рэальна чалавечы, звязаны з вобразам дзяўчыны, і яго "прыродная" сфера — вобраз зялёнай ёлачкі) змяшчаюцца ў часе і прасторы; аб'ект і суб'ект параўнання ўзаемазамяняюцца: "Ці віхуры цябе падламалі, // Ці грымоты ўразілі?" Далей — толькі "чалавечы" план: развіваецца матыў смерці як завяршэння чалавечага лёсу. У смерці жанчыны Багдановіч бачыў трагічную несправядлівасць, памнoжаную ўсведамленнем таго, што менавіта жанчына дае жыццё на зямлі, але ў трагізме сітуацыі адначасова вылучаў жыццесцвярджальны момант: нараджэнне новага чалавека, неперамажнасць жыцця ўвогуле (цыкл "Каханне і смерць"). У вершы "Аня, Анечка..." да шкадавання па рана абарваным жыцці дадаецца па-народнаму мудрае суцяшэнне: "Ужо табе не баліць". Так у невялікім творы перадаецца складаная гама пачуццяў; пры гэтым канкрэтная сітуацыя, якая іх нарадзіла, застаецца непраясненай. Верш прасякнуты сумным, тужлівым настроем, які часткова здымаецца элегічным спакоем заключных радкоў. Напісаны народным танічным вершам з выкарыстаннем тыпова фальклорных устойлівых выразаў і форм ("вочкі ясныя", "вусны бледныя", "людзейкі"), інверсій і паўтораў, анафар і сінтаксічнага паралелізму, парнай дзеяслоўнай рыфмы.

**Л. К. Тарасюк.**

# Мастак, касмапаліт… беларус

## Яго творчасць цаніў Альберт Эйнштэйн

**Сёлета спаўняецца 130 год з дня нараджэння Абрама Маневіча (1881 — 1942) — мастака, чыё імя даўно і арганічна ўпісана ў гісторыю ўкраінскага, яўрэйскага і амерыканскага жывапісу. Але паходжанне лучыць яго з Беларуссю: нарадзіўся А. Маневіч у Мсціславе, дзе прайшлі яго дзяцінства ды юнацтва, пачалося фарміраванне светапогляду і мастацкіх густаў. Нездарма краявіды малой радзімы замацаваліся на ягоных палотнах розных часоў.**



"Аўтапартрэт".

**Валянціна ЛЕБЕДЗЕВА,**
**г. Гомель,**
**Вольга ЯМКОВА,**
**г. Кіеў**

Мсціслаў знаходзіўся на памежжы з Расіяй, куды здатныя яго сыны ехалі на вучобу за лепшай доляй. Але не менш прыцягваў Кіеў, сведчаннем чаго быў лёс яшчэ аднаго мсціслаўца — археолага і гісторыка мастацтва Адрыяна Прахава, справай жыцця якога стала кіраўніцтва аддзелкай і роспісамі Уладзімірскага сабора.

Па дасягненні 20-гадовага ўзросту А. Маневіч пакідае бацькоўскі дом і едзе ў Кіеў. Свой шлях у мастацтва ён пачаў з работы ў майстэрні па вырабе шыльдаў, а затым на фабрыцы ложкаў. У 1901 годзе лёс звёў Абрама з асобай, вядомай усяму культурнаму Кіеву, — мастацтвазнаўцам і музейным дзеячам Міколам Біляшэўскім. Мастацкі талент аднаго і захапленне мастацтвам другога сталі падставай для збліжэння фабрычнага рабочага А. Маневіча і інтэлектуала М. Біляшэўскага. Пры падтрымцы апошняга А. Маневіч у той жа год паступае ў Кіеўскае мастацкае вучылішча, дзе рускую гісторыю чытаў яшчэ адзін наш зямляк — прафесар Кіеўскага ўніверсітэта М. Доўнар-Запольскі.

Вучылішча вырасла са школы малявання Міколы Мурашкі, фундаванай мецэнатамі Цярэшчанкамі і вядомай узроўнем выкладання ды дэмакратычным духам. Менавіта тут у 1885 — 1889 гадах вучыўся будучы класік беларускага жывапісу Вітольд Бялыніцкі-Біруля. З А. Маневічам яго радніла паходжанне з Магілёўшчыны, краявіды якой "прывілі" абодвум прыхільнасць да лірычнага пейзажу. За пяць год да з'яўлення А. Маневіча ў школе здабываў асновы майстэрства Казімір Малевіч.

Два гады А. Маневіч заставаўся вольным слухачом аддзялення жывапісу, а ў 1903 годзе быў залічаны ў старшы натурны клас. Разам з ім вучыліся будучыя заснавальнікі новых напрамкаў у мастацтве XX стагоддзя: А. Багамазаў, А. Экстэр, А. Архіпенка, А. Лентулаў.



"Вінніца. Іерусалімка".

Пры падтрымцы М. Біляшэўскага, які з 1902 года стаў дырэктарам Кіеўскага музея старажытнасцей і мастацтва, А. Маневіч ужо ў студэнцкія гады здолеў паказаць свае работы на кіеўскіх выстаўках. У 1905-м спраўдзіліся яго мары на навучанне за мяжой: сын знакамітага фінансіста, філантропа і грамадскага дзеяча Гарацыя Гінцбурга Уладзімір выдаткаваў грошы на навучанне А. Маневіча ў Мюнхенскай акадэміі мастацтва.

Адметна, што "кіеўскія Ротшыльды" Гінцбургі вялі свой радавод з Беларусі. Прадзед Уладзіміра Гаўрыіл Гінцбург у канцы XVIII стагоддзя быў віцебскім равінам. Яго сын Еўзель (Іосіф), здабыўшы першы мільён і званне купца першай гільдыі, атрымаў ад Аляксандра II дазвол жыць за мяжой аседласці. У 1859 годзе стварыўся банкірскі дом "Е. І. Гінцбург" са штаб-кватэрай у Пецярбургу і аддзяленнямі ад Кіева да Парыжа.

На "стыпендыю" У. Гінцбурга А. Маневіч выехаў у сталіцу нямецкай Баварыі Мюнхен. Гэты горад-музей быў прызнаным цэнтрам мастацкай культуры, у яго галерэях захоўваліся шэдэўры ад Леанарда да Вінчы і Рубенса да французскіх і нямецкіх імпрэсіяністаў. За 10 год да з'яўлення тут А. Маневіча група маладых мюнхенскіх мастакоўнаватараў заснавала свой кірунак мадэрновага мастацтва — "Jugendстыль", да якога далучыўся і А. Маневіч. Першым яго еўрапейскім мастацкім поспехам стала персанальная выстаўка ў 1907 годзе.

На працягу 1910 — 1915 гадоў А. Маневіч жыў у Нямеччыне, Швейцарыі, Францыі, Італіі, але перыядычна вяртаўся ва Украіну і Расію. Не забываў ён і Беларусь: у 1911-м арганізоўваў і браў удзел у выстаўцы імпрэсіяністаў у Гомелі.

Па-сапраўднаму зоркавым для мастака стаў 1913 год, калі ў парыжскай галерэі Durand-Ruel, якая была вядома як "стартавая пляцоўка" для славутых еўрапейскіх імпрэсіяністаў, прайшла персанальная выстаўка яго карцін, якая атрымала ўхвальныя водгукі еўрапейскіх крытыкаў і мастацтвазнаўцаў. Палотны мастака набылі еўрапейскія музеі і галерэі, сярод якіх — Ліёнскі і Люксембургскі мастацкія музеі і галерэя Gorvatt (Жэнева).

З 1915-га А. Маневіч перыядычна жыве ў Расіі і ва Украіне, рэалізуе сябе не толькі як мастак, але і як грамадскі дзеяч і выкладчык, імкнецца паспрыяць адраджэнню нацыянальнай культуры народаў Расійскай імперыі. У лістападзе 1917 года разам з М. Грушэўскім і групай кіеўскіх мастакоў А. Маневіч спрычыніўся да фундацыі Украінскай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзе заняў пасаду прафесара пейзажнага жывапісу. Ён падтрымаў таксама "Культур-Лігу" — арганізацыю для развіцця яўрэйскай культуры. Разам з А. Маневічам тут апынуліся М. Шагал, Н. Альтман, Э. Лісіцкі і інш.

1919 год стаў трагічным як для Украіны, так і для А. Маневіча асабіста. Спробы дзяржаўна-нацыянальнага вызначэння былі сарваны, пачалася зацятая і крывавая барацьба палітычных сіл за ўладу. Адзіны сын А. Маневіча, які змагаўся на баку бальшавікоў, трагічна загінуў. Пасля гэтага мастак вырашыў пакінуць бальшавіцкую краіну. У 1921-м з дапамогай А. Луначарскага і М. Горкага ён пакідае краіну. Па звестках, яго шлях на захад ляжаў праз Мінск.

З 1922 года А. Маневіч канчаткова пасяліўся ў ЗША, дзе штогод адбываліся выстаўкі яго карцін, а творчасць набыла папулярнасць. Сярод тых, хто кантактаваў з мастаком і цаніў яго карціны, былі адзін з заснавальнікаў расійскага футурызму Давыд Бурлюк, а таксама вялікі Альберт Эйнштэйн.

Абрам Маневіч памёр у ЗША на 61-м годзе жыцця. Сёння палотны мастака зберагаюцца ў фондах найвялікшых музеяў Украіны, Расіі, а таксама Нью-Ёрка, Філадэльфіі, Таронта, Тэль-Авіва, Іерусаліма і інш. Яго 120-годдзе было адзначана выстаўкамі ў Маскве і Кіеве. Хочацца спадзявацца, што імя і творчасць А. Маневіча не застануцца згубленымі для гісторыі беларускага мастацтва, а выстаўка яго работ некалі пабудзе на радзіме.

Вернісаж

# Успаміны пра ўражанні

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

**Так тлумачыць нараджэнне сваіх непаўторных работ вядомы ў Беларусі і па-за яе межамі мастак Сяргей Балянок, выстаўка якога пад назвай "Няправільная графіка" праходзіць у вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску. У экспазіцыі прадстаўлены графічныя і жывапісныя работы, напісаныя за апошняе дзесяцігоддзе. Майстра ганарыцца тым, што ні адзін яго графічны ліст не быў зроблены на заказ.**



У гэтага творцы рэпутацыя "нетыповага" мастака. Кожны яго афорт нараджаецца лёгка і хутка, а вобраз праяўляецца неспадзявана нават для самога аўтара. Папярэднія нарыхтоўкі, накіды і малюнкі ён не прызнае. Незвычайны след на шкле, некалькі выпадковых ліній у запісной кніжцы, цень на пяску — і ў ім прачынаецца Мастак.

— Усе мае работы, уключаныя ў гэтую экспазіцыю, — розныя, — распавядае Сяргей Балянок. — У кожнай адлюстраваны свой стан душы. Пішу, як атрымліваецца, бо не задумваюся пра раскрыццё нейкай тэмы. Тым мастакам, якія спрабуюць цалкам паўтарыць убачанае, хочацца сказаць: немагчыма паўтарыць шолах лісця, плёскат хвалі... А вось свае ўражанні пра тое, што мне было прыемна глядзець на сонечныя зайчыкі, хочацца данесці да людзей.

Сяргей Балянок нарадзіўся ва Украіне, закончыў аддзяленне кніжнай графікі Львоўскага паліграфічнага інстытута. Ужо тры з паловаю дзесяцігоддзі ён удзельнічае ў мастацкіх выстаўках. Яго карціны ведаюць у Польшчы, Даніі і Галандыі. Некаторыя графічныя работы знаходзяцца ў музеях Германіі і Польшчы. Частку работ майстар перадаў на захоўванне ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

— Творчасць Сяргея Уладзіміравіча звязана перш за ўсё з кніжнай графікай, — зазначыў намеснік дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва па выставачнай дзейнасці Валерый Рулькоў. — Майстра змог пранесці праз дзесяцігоддзі тэму паэзіі ў афортах, жывапісу. У сваіх замалёўках ён імкнецца схіліць душу да фантазіі, паэтычнага спакою.

Яго творчасць сцвярджае: "Я хачу паразважаць, я хачу смачнай паэзіі". На мой погляд, гэта самая дастойная і самая моцная рыса сапраўднага Майстра.

Наздымку:СяргейБалянокпадчасвернісажу.





# Урбаністычнае адлюстраванне

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

**Вікторыя Каваленчыкава нарадзілася ў горадзе Магілёве, скончыла Рэспубліканскі мастацкі каледж імя І. Ахрэмчыка, аддзяленне станковага жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Яна брала ўдзел у больш як 35 персанальных і групавых выстаўках у Беларусі, Швейцарыі, Нідэрландах, Германіі, Бельгіі, Італіі, ЗША і Расіі. З 2008 года жыве і працуе ў Нідэрландах, мае сваю галерэю ў Амстэрдаме.**

Нядаўна Вікторыя Каваленчыкава прэзентавала сваю персанальную выстаўку "Reflected Reality" ("Адлюстраваная рэальнасць") у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Дырэктар музея Наталля Шаранговіч нагадала прысутным, што гэтая выстаўка ў дадзенай установе ўжо другая па ліку. Прадстаўленыя работы належаць беларускаму перыяду мастачкі. Аўтарка абрала тэматыку горада, урбаністычнага пейзажа, яшчэ будучы студэнткай.

Настаўнік Вікторыі Мікалаеўны народны мастак Беларусі Май Данцыг прыгадаў адзін выпадак: калі праглядаў фотаздымкі, то знайшоў адзін, дзе ён разам з групай, у якой вучылася Віка. А на адваротным баку надпіс: "Лепшаму настаўніку ад лепшых вучняў!" Май Вольфавіч акцэнтаваў увагу прысут-ных на другой частцы надпісу, бо Вікторыя і сапраўды была адной з лепшых яго выхаванак.

Вікторыя Каваленчыкава паўстае яркім прадстаўніком нашай школы ў замежжы.

У сваіх трапятkіх, адухоўленых творах яна разгортвае карціну жыцця. Ніколі не забывае родную зямлю і час ад часу экспануе работы сучасных беларускіх мастакоў у сваёй галерэі ў Амстэрдаме, такім чынам прапагандуючы айчынную культуру, каб беларускае мастацтва гучала і ў Еўропе.

Са слоў аўтаркі экспазіцыі, жывапіс па сваёй прыродзе — рамяство, арыентаванае на працэс, яно патрабуе сузіральнага духу. Як і праца пісьменніка, гэта, перш за ўсё, праца ў адзіноце. Мастацтва ранейшых часоў і сучаснае мастацтва часта разглядаюць жывапіс як сродак невербальнага апавядання. Таму В. Каваленчыкава часта выкарыстоўвае элементы гістарызму, жадаючы данесці да гледача вызначаную атмасферу месца. У выніку цэнтральнай тэмай работ становіцца мегаполіс, менавіта там нараджаюцца і атрымліваюць сваё далейшае развіццё гісторыі. Кожны горад захоўвае мільёны аповедаў, якія засталіся ад яго насельнікаў. Хоць у карцінах мастачкі асабістае і ўніверсальнае пераплятаюцца адно з адным, яна імкнецца захаваць у іх вызначаную аўтабіяграфічнасць.

Раней мастачка выкарыстоўвала тэхніку "ала прыма" (ад *італ.* alla prima — "у першы момант" — разнавіднасць тэхнікі алейнага жывапісу, якая дазваляе выканаць карціну за адзін сеанс), але затым перайшла да лесіроўкі, што, на яе погляд, больш адпавядае зместу яе работ. Паверхня карцін складаецца з пластоў, якія ўтвараюць свайго роду скуру. Гэта адбываецца збольшага таму, што яна падыходзіць да жывапісу як да нарастаючага працэсу. Некаторыя часткі палотнаў гладкія, іншыя — фактурныя. Гэта стварае змяшаны візуальны эфект, што больш дакладна перадае тэматыку маляўнічых аповедаў.

Вікторыя Каваленчыкава зазначае: "Падчас вандраванняў я зразумела, што ў кожнага горада ёсць свая душа, якая выяўляецца праз яго будынкі, выгіны вуліц і прастору плошчаў, якія падобныя да дзённікаў чалавечага жыцця. Сваімі творамі я спрабую выбудаваць мост, які злучае горад з яго жыхарамі. Выкарыстоўваючы ў карцінах бакавую (краявую) перспектыву, спрабую паўтарыць плынь часу і пэўны эмацыйны стан. Калі гледачы ўзіраюцца ў карціну, я жадаю, каб яны адчулі, што незалежныя ад яе. Мы ўсе ў пэўным сэнсе вуайеры, якія сузіраюць жыцці іншых людзей і часам нават уласныя. Адмысловае выкарыстанне закрытых колераў — гэта свайго роду спроба нагадаць гледачу, што чалавецтва складаецца са знікаючых момантаў. Жыццё — гэта не чарада яркіх маляўнічых слайдаў, а наадварот — сукупнасць незаўважанага руху.

Наогул я думаю, што жывапіс — гэта тое, што спрабуе перадаць кінематограф пры дапамозе кадраў, знятых запаволенай здымкай. Упэўнена, што карціны — гэта не застылыя выявы, выхапленыя з рэальнага часу. Яны развіваюцца ў часе як бы па крузе. Я імкнуся дасягнуць расцягнутага моманту, які фарміруецца з серыі сабраных акалічнасцей і калектыўнай памяці. Жывапіс для мяне — гэта спроба зразумець жыццё ў цэлым, не забываючы пра дэталі.

Заўсёды адчувала, што мастацтва павінна распавядаць нам штосьці пра нас саміх. Магчыма, нашай перспектывы і не дастаткова, але ва ўсім ёсць нешта, што не падлягае расшыфроўцы. Будучы аўтаномнымі асобамі, мы можам адчуваць сябе і здавацца часткай чагосьці, няздольныя ўспрымаць іншага чалавека, месца або наша жыццё як рух у межах большага руху. Па вялікім рахунку, мы як канцэнтрычныя кругі, якія круцяцца вакол іншых, ствараючы хроніку гісторыі".

***На здымках:** работы Вікторыі Каваленчыкавай "Удвух у адным" і "Ружовыя мары".*



# Актуальная форма

**Гліна, абпаленая на вогнішчы, магчыма, першы штучны матэрыял, які атрымаў чалавек. І ўвогуле, слова "кераміка" перакладаецца са старажытнагрэчаскай мовы як "гліна".**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

Керамічнымі называюць рэчы, якія вырабляюць з неарганічных, неметалічных матэрыялаў — усё тая ж гліна з разнастайнымі дабаўкамі, абпаленая да камнепадобнага стану. У выніку тэрмічнай апрацоўкі кераміка набывае вогнетрываласць, хімічную ўстойлівасць і шэраг іншых якасцей, што вызначае яе выкарыстанне ў самых розных галінах гаспадаркі. Сярод усіх вядомых матэрыялаў па сукупнасці фізіка-хімічных, механічных ды мастацка-эстэтычных якасцей яна не мае сабе роўных.

Са старажытных часоў і да нашых дзён керамічныя вырабы займаюць адно з вядучых месцаў у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве ўсіх народаў свету. У музеях розных краін захоўваецца шмат шэдэўраў керамічнага майстэрства: ад прымітыўных пасудзін, вылепленых уручную і абпаленых на вогнішчы, да рэчаў, выробленых на аснове апошніх дасягненняў сучаснай навукі; ад грубай цэглы да тонкага празрыстага парцаляну. Да слова, Музей Гардынера (Таронта, Канада) прысвечаны выключна мастацтву керамікі.

Нядаўна ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва праходзіла выстаўка керамікі "Актуальная форма". У дадзеным праекце ўдзел брала група аўтараў у складзе Аляксандра Дзятлава, Леаніда Трацэўскага, Алеся Косткі, Кацярыны Шэйны, Ганны Апалайкі і Ганны Амбросавай.

Кожны з мастакоў адлюстраваў сваё бачанне, разуменне формы і актуальнасць. Акрамя канцэпцыі аўтараў аб'яднала і выставачная прастора. На адкрыцці слова бралі куратары праекта Алег Костка, Леанід Трацэўскі і загадчык кафедры дэкаратыўна-прыкладнога аддзялення Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Аляксандра Дзятлава. Выступоўцы адзначалі, што ўсім было цікава працаваць з формай. Насамрэч актуальная не сама форма, актуальна — займацца творчасцю; у якіх формах яна будзе ўвасоблена — гэта задача аўтара. Да таго ж адна з галоўных мэт праекта — далучэнне студэнтаў да выставачнай дзейнасці, каб яны набывалі вопыт, а старэйшыя майстры яго ім перадавалі.

Удзельніца выстаўкі Ганна Апалайка зазначыла: "Пра форму напісана нямала. У кантэксце мастацтва, філасофіі, эстэтыкі вяліся гарачыя спрэчкі пра значэнне гэтай катэгорыі. Што казаць, яны вядуцца і цяпер. Гэта сведчыць пра тое, што форма сама валодае актыўнасцю і шматграннасцю. Яна здольная дзейсна служыць поўнаму і пераканаўчаму раскрыццю зместу, але можа і паслабіць сілу ўздзеяння зместу на свядомасць тых, хто ўспрымае твор мастацтва. Майстэрства дазваляе ў творчым працэсе, дзе змест ствараецца сумесна з формай, дасягнуць іх арганічнага адзінства. Кожны з элементаў формы з'яўляецца істотным, змястоўным, скіраваным на тое, каб раскрыць змест найбольш поўна, ясна і ўражваюча".

Гутарка пра форму — гэта не толькі разгляд мастацкай формы выяўлення ідэі. Непазбежна ў поле зроку ўваходзяць канструкцыя і структура твора, а таксама базавыя элементы творчага інструментарыя, якія іх складаюць. Таму, хто працуе з матэрыяльнай формай, матэрыялам, не абысціся без асноўных геаметрычных форм, Платонавых цел, якія структуруюць навакольную прастору мастака. Шляхам стагоддзяў гэтыя формы натхняюць творчае ўяўленне на новыя трансфармацыі. Асэнсаванне іх ролі ў мастацтве і стала нагодай для гэтай выстаўкі. Нягледзячы на тое, што практыка пашырае дыяпазон магчымасцей новымі метадамі і падыходамі да керамікі, са з'яўленнем інсталяцыі керамічнае мастацтва застаецца своеасаблівай лакунай, у якой ёсць месца мастацтву ў ранейшым разуменні гэтага слова, дзе неад'емным кампанентам паўстае стварэнне — найвышэйшая ступень умення працаваць з формай і матэрыялам.

Са слоў Ганны Апалайкі, само паняцце мастацкага майстэрства не можа звадзіцца толькі да тэхнічнага ўмення: яно азначае, перш чынам, уменне выказаць з дапамогай усіх элементаў мастацкай формы вобразны змест мастацтва. Керамічныя інсталяцыі заснаваны пераважна на спецыфічным для керамікі, як матэрыялу, пункце гледжання. Інакш кажучы, гэта, перш за ўсё, гутарка пра гліну-кераміку ў адносінах з глінай-керамікай. Выкарыстанне серыйнасці і паўтораў — добра вядомы прыём выяўленчай практыкі — атрымаў спецыфічны рэзананс у мастакоў, якія працуюць з глінай.

Паўтор — уласцівасць керамічных метадаў вытворчасці і адлюстравання (фармоўка, ліццё, штампоўка). Гэта ўзаемадзеянне паміж арыгіналам і копіяй стала плённай асновай для мастакоў-керамістаў, якія працуюць у жанры інсталяцыі. Выкарыстанне паўтору ў кераміцы часта суправаджаецца істотнымі зменамі ці дапаўненнямі выставачнай прасторы. Удзельнікі выстаўкі — прадстаўнікі розных пакаленняў, якіх аб'ядноўвае разуменне непахіснай каштоўнасці, актуальнасці гульні з Формай.

***На здымках:** Ганна Амбросава "Пано"; Ганна Апалайка "Блюда".*



# Казка ў метале і ў дрэве

**Ці можа казка быць каменнай? Так! У камянях, як і ў іншым матэрыяле, жыве казка. І гэта асабліва добра адчуваецца ў вырабах Марыны і Андрэя Сярэбранікавых. Калі бачыш падвескі, бранзалеты з камянёў, апраўленыя своеасаблівым каваным узорам, абавязкова хочацца даведацца пра іх аўтараў. Марына распавяла мне гісторыю майстэрства.**



**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

Вельмі важна займацца тым, чым падабалася займацца ў дзяцінстве. Калі чалавек робіць нешта абы з рук, яму гэта не дастаўляе ні маральнага, ні духоўнага задавальнення. Мой муж у дзяцінстве выразаў з дрэва. Я сама па адукацыі архітэктар. У 1990 годзе мы пачалі выразаць лялек. Мы сур'ёзна заняліся драўлянай лялькай, распрацавалі нават сваю аўтарскую ляльку. Потым Літаратурны музей Максіма Багдановіча для "Беларускай хаткі" і метадычны цэнтр гульні і цацкі прапанавалі нам зрабіць батлейку.

У цэнтры гульні і цацкі мы рабілі батлеечныя тэатры для дзіцячых садкоў, цэнтраў дзіцячай творчасці, музеяў. Пасля Андрэй два гады працаваў мастаком-пастаноўшчыкам у Беларускім дзяржаўным тэатры лялек. Мы ажыццявілі чатыры праекты: тэатр рухомых ценяў, кіёчных лялек, масак і тэатр драўляных марыянетак. Апошні ўвасобіць у жыццё было самым складаным. Для цэнтра гульні і цацкі мы зрабілі цэлы музей лялек, пачынаючы з простых сувеніраў і заканчваючы марыянеткай Сымон-музыка.

Самы цёплы ўспамін — праца ў дзіцячай студыі Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі. Дагэтуль шкада гэтай работы, там да нас вельмі добра ставіліся. Але сышлі па ўласнай ініцыятыве, таму што распачалі актыўную раз'язную выставачную дзейнасць. З дзеткамі мы рабілі лялькі з кардону, тканіны, грэцкага арэха, салёнага цеста, травы, нітак і дратоў і нават з лісця кукурузы! Потым правялі майстар-клас па вырабе лялек з кукурузы!

Удзельнічалі ў батлеечных паказах на шматлікіх масавых мерапрыемствах Мінска, былі лаўрэатамі разнастайных конкурсаў. Паставілі батлейку і спалучылі яе з батлеяй. Батлея — гэта гульня жывых артыстаў у масках. Пачынаўся лялечны спектакль у маленькім тэатры, потым разгортваўся на сцэне ў гульню артыстаў-масак і заканчваўся зноў батлейкай. І каго мы толькі не рабілі! Дон-Кіхот, Швейк, Маргарыта, міліцыянеры, спартсмены, музыканты, лекары, салдаты...

Хачу адзначыць, што ў дрэва ёсць вельмі цікавая ўласцівасць. Калі ў драўлянай загатоўцы хтосьці ўжо "ёсць", а ты хочаш "выцягнуць" кагосьці іншага, то гэты іншы не атрымаецца. Калі хочаш выразаць анёла, а ў дрэве "сядзіць" чорт, то анёла не будзе. Хай і чорт не атрымаецца таксама. Лялькі "помсцяць", калі ты ім чымсьці не дагадзіў у працэсе вытворчасці, але і дараваць умеюць: усё-ткі мы іх бацькі.

Вядома, ніколі не хочацца спыняцца на дасягнутым. Трэба імкнуцца да новага, вучыцца, развіваць свае здольнасці далей. І вось ужо пяць гадоў, як мы займаемся металам. Як мы працуем з металам, так не працуюць ні кавалі, ні ювеліры, бо так працуюць толькі майстры лялек. Ідэя паўстала дзякуючы старажытнаегіпецкаму бранзалету "Клеапатра": на ім з металу закручваліся спіралькі, і мы сталі рабіць нешта падобнае. Як жанчына я адчуваю, што гэта прыгожа, цікава. У мяне замірае сэрца, нейкая струнка ўнутры дрыжыць, калі я бачу, што ў нас усё атрымліваецца. Гэтая струнка таксама дрыжыць, калі я чую чысты голас або добрую музыку.

Пачыналі мы працаваць толькі з металам. Гэта былі спіралі, рознай формы канфігурацыі, сярэднявечныя матывы. Прычым усе ідэі былі ўласнымі. Потым выкарыстоўвалі муранскае шкло, затым — натуральныя камяні. Тэхналагічна мы прыйшлі да ўзору — спіраль і сонца.

Узоры ж падказвае сам матэрыял. Калі ён не дае з сабой працаваць, то "прымушаць" яго таксама нельга, ён усё роўна зламаецца. Часта як матэрыял дазваляе сябе пагнуць, так ён і гнецца. Нейкія металы больш пластычныя, нейкія больш цвёрдыя, іх трэба адчуваць. Ідзе ўзаемадзеянне чалавека і металу. Канфігурацыю дыктуе гэтак жа і сам камень. Своеасаблівае суаўтарства металу з камянямі. Яны падказваюць, як трэба аформіць рамку, каб усё было арганічна, каб упрыгожванне сапраўды зайграла.

Мы прыдумалі сваю тэхніку, якая не выкарыстоўвалася ў жаночых упрыгожваннях. Тут усё досыць проста. Нашы вырабы простыя і кожнаму зразумелыя — у гэтым і ёсць прыгажосць і хараство. Кожная падвеска даведзена да розуму. У нас няма выпадковых рэчаў.

Вельмі хочацца паездзіць па свеце. Вядома, ёсць маса прапаноў з галерэй, інтэрнэт-крам. Але калі працаваць усляпую, не бачыць, для каго працуем, будзем адставаць ад часу, страціцца зваротная сувязь. Было б вельмі цікава паглядзець, што робяць майстры ў Еўропе. Не прадуманы ў нас яшчэ механізм камунікацыі майстроў з розных краін.

Андрэй уступіў у Маскоўскую палату майстроў, і мы ўдзельнічаем у выстаўках, якія яна праводзіць. Аўтарскіх выставак у планах няма. Нам нецікава падводзіць вынікі, займацца арганізацыйнымі пытаннямі. Трэба бесперапынку рухацца далей.

Мы толькі пачалі рабіць завушніцы. Імкнёмся рабіць так, каб іх было зручна насіць. Сярэбраныя зашпількі, мінімальная вага. Пакупнікі цікавяцца кольцамі. Вучымся і іх рабіць. Думаю, што ўсё ж такі вернемся да лялек і адновім дзіцячую студыю. Сваю тэхналогію перадам дачцэ. Выраб нашых падвесак, бранзалетаў, завушніц нельга рабіць масавым, інакш усё мастацтва ператворыцца ў металалом. Гэта не павінна быць праца дзеля грошай. Для нас з мужам выраб кожнай новай рэчы — задавальненне, свята. Ды і кожны выраб — індывідуальны, непаўторны, адзінкавы.

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**





## Архівіст мінулага, сучаснага і будучыні

**20 жніўня на 65-м годзе жыцця памёр Віталь Скалабан. Адзін з самых выбітных беларускіх архівістаў, харызматычны гісторык, дасведчаны літаратуразнаўца.**

Ураджэнец Слонімшчыны, ён атрымаў грунтоўную адукацыю ў Ленінградскім універсітэце. Дваццаць тры гады працы (1972—1995) былі аддадзены БелЭН імя Петруся Броўкі. Пяць — Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту дакументазнаўства і архіўнай справы. Потым Скалабана чакала плённая дзейнасць у Навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны і Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

За гэты час Віталь Уладзіміравіч напісаў у суаўтарстве кнігу "Час і цяжар архіваў і імён", выступіў складальнікам некалькіх дзясяткаў зборнікаў і аўтарам соцень публікацый, прысвечаных гісторыі беларускага нацыянальнага руху, культуры XIX—XX ст., пытанням архівазнаўства, краязнаўства і бібліяграфіі. За сціслым пералікам зробленага схавана штодзённая тытанічная праца для Радзімы .

Кім быў для Беларусі Віталь Скалабан? Бадай, архівістам мінулага, сучаснага і будучыні. Архівістам, або даследчыкам, мінулага, бо ён, здавалася, як свае пяць пальцаў ведаў палітычную і культурную гісторыю Беларусі, імёны і прозвішчы ўсіх выбітных і малазнаёмых асоб, але, галоўнае, як рыба ў вадзе арыентаваўся ў фондах архіваў.

В. Скалабан з'яўляўся нетыповым прыкладам архівіста сучаснасці. У адрозненне ад калег па працы, якія з-за сваёй сціпласці ці адсутнасці амбіцый часта заставаліся невядомымі нават для аматараў гісторыі, Віталь Уладзіміравіч шчыра верыў у неабходнасць шырокага рэзанансу сваіх адкрыццяў, якія спрыялі цікавасці да беларускай справы. Ён ішоў у газеты і часопісы, прапаноўваў у якасці публікацый знойдзеныя матэрыялы… і знікаў у пошуку новых знаходак.

Нарэшце, праца В. Скалабана дае ўсе падставы называць яго архівістам будучыні. У апошнія часы стала відавочнай неабходнасць у міждысцыплінарнасці — узаемадзеянні прадстаўнікоў розных дысцыплін падчас навуковых даследаванняў. Віталь Уладзіміравіч быў шчодры, дзяліўся сваімі адкрыццямі з гісторыкамі і краязнаўцамі, літаратуразнаўцамі і крытыкамі. Моцнымі, упэўненымі рухамі Скалабан штурхаў наперад усю беларускую навуку. Пустэчу пасля яго сыходу наўрад ці хто-небудзь зможа запоўніць.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

## Афарызм

*Душа твая належыць толькі Богу і гэтым палям,*
*шабля – ваяводзе справядлівай вайны, жыццё – усім добрым людзям, сэрца – каханай.*
*Але гонар і чэсць – яны належаць толькі табе і больш нікому.*

**Уладзімір Караткевіч**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04,
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2840
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.08.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4065
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686